# ЗЬМЕСТ № 2-3.



Redaktorius-leidejas **K. Duž-Dušauskas.** Рэдактар-выдавец **К. Дуж-Душэўскі.**

„Gudų Vėliava"

# БЕЛАРУСКІ СЬЦЯГ

ШТОМЕСЯЧНІК.

**Кошт падпіскі ўсюды:**
на 10 №№ ўпярод — 220 мар.
на 5 №№ „ — 120 мар.
Аддзельны № — — 25 мар.

**Аселасьць.**
Рэдакцыі і Адміністрацыі:—
**Lithuanie. Kaunas.**
Senatorių g-vė, 8.

**Кошт абвестак:**
За цэлую старонку — 1000 мар.
За 1/2 старонкі — — 600 мар
За 1/4 старонкі — — 350 мар

## Да пытаньня аб незалежнасьці Беларусі.

Пытаньне аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, калі разумець яго шырока, занадта зложнае, каб можна было думаць улажыць адказ на яго ў рамкі невялікай журнальнай стацьці. Не бяручыся дзеля гэтага за падобны адказ, мы хочам застанавіцца на адным з момантаў пытаньня аб незалежнасьці, маючым чыста ідэолегічны, а не практычны характар.

Нашае вызнаньне ідэі незалежнасьці Беларусі выходзіць галоўным, а мо' і выключным чынам з нашага пераконаньня, што беларускі народ—ёсьць асобны, нацыанальна самаісты народ, пасколькі можна гаварыць аб самаістасьці ў варунках сучаснай агульналюдзкай цывілізацыі. Беларусь ёсьць асобны, самаісты край, а беларускі народ—ёсьць асобнае, рознае ад другіх племя, з ўласнай культурай, з ўласным бытам, ўласнай нацыанальнай псыхалёгіяй і г. д. Беларускі народ у шэрагу іншых, акружаючых яго народаў, мае рожную ад іншых нацыанальную фізыаномію, якая адрожнівае яго ад суседзяў і творыць з яго адзінку сярод агульнага ліку народаў.

Калі йдзе гутарка аб тым, ці зьяўляецца данны народ, даннае племя асобным народам, асобнай нацыяй, нясхожай з іншымі, дык звычайна зьвертаюць увагу на так званыя об'ектыўныя адзнакі гэтай асобнасьці. Падобныя об'ектыўныя адзнакі зафіксаваны зазвычай у этнографічных, антрополёгічных, эканамічных і ўселякіх іншых данных, на аснове якіх, ці то па асобку, ці то заразам у купе, робяць вывад аб праве народу заяўляць аб сваей асобнасьці.

Мы ніколі не спрэчаліся з тым, што такіе об'ектыўные адзнакі вельмі важны. І ў стасунку да беларускага народу мы можам прывесьці іх шмат. Але мы ніколі не рабілі на іх націск, ніколі не пераацэнівалі іх значэньня. Мы ведаем, што народы, з этнографічнай, антрополёгічнай і др. прыродай у якіх не было ў свой час ніякіх данных, тым ня менш былі народамі і гэткімі сябе адчувалі. Гэта з аднаго боку.



З другога—мы бачым, як у стасунку да таго, ці іншага народу вучоныя вагаюцца—прызнаць яго асобным, ці не прызнаць; ці даволі для такога вызнаньня тых, або іншых адзнак ці не даволі. Яскравым прыкладам падобнага ваганьня можа быць навучная палеміка, цягнуўшаяся не адно дзесяцілецьце ў стасунку да украінцаў. Спрэчкі і ваганьня ў гэтых пытаньнях маюць мейсца таму, што апроч мяркаваньняў чыста навучнага характару, тут граюць ролю мяркаваньня старонныя, нават палітычныя. Наагул, можна адзначыць, што пры разглядзе гэтых пытаньняў німа цьвёрда устаноўленнага і прызнанага крытэрыума і шмат што залежыць ад настрояў саміх дасьледчыкаў.

Ласьне дзеля гэтага мы робім найбольшы націск у пытаньню аб асобнай нацыянальнай прыродзе народу не на памяненыя об'ектўныя адзнакі, але на суб'ектўнае пачуцьцё самога народу. Калі народ адчувае сябе нечым асобным—знача так яно і ёсьць. Падобнае ўнутраннае адчуваньне, канстатаванае ў народных массах, ёсьць на наш погляд рашаючы фактар у спрэчцы. Калі беларуская масса адчувае сябе асобнай ад таго, што яе акружае, калі яна ўнутранна сьвядома, што яна ня тое, што палякі, расійцы, літвіны—знача беларускі народ істнуе як нацыянальна асобны народ.

Мы пераконаны, што падобнае массавае ўнутраннае адчуваньне сваей асобнасьці жыве ў тоўшчы беларускага народу. І гэта—галоўнае. Усё іншае, ў тым ліку данныя навукі, складаюць сабой прычыны другараднага значэньня. Яны больш патрэбны для тых, хто глядзіць на беларускае адраджэньне збоку і збоку будуе свае прагнозы, чым для тых, хто бярэ актыўны удзел у гэтым адраджэньню і дзьвігае яго з нутра.

У стасунку да так зв. об'ектыўных адзнак трэба мець на ўвазе яшчэ і тое, што выяўленьне народам сваей асобнасьці залежыць ня толькі ад вялікасьці гэтых асобнасьцяў, але і ад тых варункаў, у якіх народ жыве. Гістарычныя падзеі граюць тут вялікую ролю: у варунках спрыяйных народ расьце, творыць—і свой рост, сваю творчасьць зафіксоўвае у адпаведных формах. Інакш кажучы, ў варунках спрыяйных нацыя выяўляе і рафінуе свае асобнасьці. Наадварот, у варунках неспрыяйных—нацыя не расьце, ня творыць, не разьвіваецца і калі ня губіць да шчэнту сваей індывідуальнасьці, дык і не выпрацоўвуе яе ў адпаведных об'ектыўных формах. Аднак падобнае замацаваньне ся росту нацыянальных сіл, выкліканае агульнымі неспрыяйнымі варункамі жыцьця народу ў прошласьці не знача, што народ гэты ня выявіць у поўнай меры сваей індывідуальнасьці ў будучыне. Кожды народ нясе ў сабе такую моц жыцьцёвай энэргіі, што рэдка якіе падзеі могуць яе зьвясьці на ніщто. Народ як зярно, ці семя можа лежаць бяз руху сталецьці і даць пышны розквіт, як толькі для таго зьявіцца магчымасьць.

Мы знаем, што беларускі народ у пэрыод часу ад XVII да XX ве-

ку, ў зьвязку з агульнымі падзеямі гісторыі, ня мог нормальна разьвівацца і ўдасканаліць тые рысы сваей прыроды, якіе давалі-б яму права на безапэляцыйнае вызнаньне з боку зацікаўленых старон. Многае з таго, што складала наша багацьце паразцягалі суседзі-пераможцы, шмат што засталося ў первабытным стане, шмат што сьцёрлася і разпылілася. Гэта можна заўважыць як у дзедзіне мовы, так і ў дзедзіне звычаёў, народнай славеснасьці, музыкі і г. д. Маючы гэта на ўвазе можна сьмела сьцьвердзіць, што нацыянальная стыхія Беларусі як асобнай краіны да сяго часу яшчэ, не рэалізавана; ці, карыстаючыся фізычнымі тэрмінамі, можна сказаць што кенэтычныя праяўленьня творчых сіл беларускага народу да сяго часу былі невялікіе. Але мы ведаем, што нацыянальная стыхія Беларусі захоўвуе ў сабе аграмадныя матчымасьці, аграмадную потэнцыяльную энэргію якая толькі чакае моманту, каб выйсьці на зьне.

Прызнаючы, што беларускі народ як у сучасным выражэньні, так галоўным чынам у потэнцыяльным значэньні уяўляе сабой асобны, самаісты народ і што гэты народ стаіць на парозе свайго бліскучага розквіту мы, веруючыя, зьяўляемся сьвядомымі адэптамі яго поўнай палітычнай незалежнасьці.

Чаму, ласьне, незалежнасьці? Чаму не якой небудзь іншай дзяржанўай формы? Адказ на гэтае запытаньне мы знайходзім ізноў такі ў нашым поглядзе на нацыянальную прыроду Беларусі.

У стасунку да беларускай проблемы можна акрэсьліць два напрамкі‘ два роды думак. Ёсьць напрамак, які лічыць, што беларускае пытаньне ёсьць пытаньне мейсцовай палітыкі. Беларусь, згодна яму, ёсьць край не з асобным народам, а з асобнымі мейсцовымі асаблівасьцямі; або другімі словамі—гэта ёсьць „область“ Расіі, ці эвэнтуальна, „kresy“ Польшчы. Асаблівасьці гэтыя могуць быць рожнага—гістарычнага, гаспадарчага, нават этнографічнага—характару, але ні ў якім выпадку нацыянальнага. У зьвязку з тым, што Беларусь ёсьць мейсцовасьць, розная ад цэнтру, трэба ў стасунку да яе стварыць спэцыяльную сыстэму гаспадарчую. Патрэбя гэткага прытасаваньня выражаецца ў наданьні Беларусі праў аўтаномнай, ці нават фэдэрацыйнай адзінкі, дзякуючы чаму урэгуляваньне і здаволеньне патрэб мейсцовага жыцьця выконуецца тымі органамі, якіе радзіліся на мейсцы і якім вядомы ўсе дэталі тутэйшага жыцьця. Наданьнем падобных правоў і канчаецца вырашэньне беларускай проблемы.

Калі Беларусь мае толькі мейсцовыя адзнакі, асаблівасьці, дык большага для яе і вымагаць нельга. Знача—яна ёсьць часьць цэлага і знача ў самым істотным, у самым важным яна творыць з гэтым цэлым нешта адзінае. Такім чынам, у стасунку напр., да Расіі,-Беларусь ёсьць край з спэцыфічным гаспадарчым укладам, з нязвыклым для цэнтру

складам жыхароў і г. д., але заразам—яна ёсьць старонкай народна, нацыональна адзінай са ўсей Расіяй. І таму, ў стасунку да беларускай провінцыі павінна вясьціся провінцыяльная палітыка а ў стасунку да Расіі—павінна вясьціся адзіная нацыанальна-дзяржаўная палітыка, Областная ідэолёгія так ласьне, з свайго пункту погляду слушна мысьліць, што задаволеньне провінцыяльных патрэб не вымагае абавязкова незалежнасьці провінцыяльнай ўлады. Больш таго, ў мэтах экономіі сіл і сьродкаў, у мэтах асягненьня найбольшых вынікаў пры найменшай затраце сіл акурат патрэбна, каб цэнтральнай ўладзе было нададзена усё, што служыць агульным інтэрасам усіх складаючых цэлае правінцый, і каб правінцыі было пакінута толькі гэтулькі правоў, сколькі вымагае сума яе асаблівасьцяў.

Палітычная незалежнасьць як абавязковасьць паўстае толькі тады, калі мы маем дачыненьне ня з „областью“ „kresami“, а з асобным народам, з асобнай нацыяй. Адсюль сьледуе, што хто не вызнае Беларусь самаістым краем і беларусаў асобным народам, той ніколі ня будзе староньнікам незалежнасьці Беларусі; наадварот, хто вызнае беларусаў нацыанальна—самаістым народам—той павінен патрэбаваць незлежнасьці свае бацькаўшчыне. Мы кажам—павінен, бо па нашаму пераконаньню самаістасьць нацыанальная вымагае самаістасьці палітычнай.

Апошні постулят будзе для нас зразумелы, калі мы выясьнім, як мы разумем паняцьце нацыі і якое значэньне мы прыдаем палітычным формам, у якіх народ жыве.

Нацыя (грамада-народ) па нашай думцы ня ёсьць толькі фізычны конгломэрат людзей, заключоных у адпаведных; географічных межах яна ня ёсьць толькі абстрактная „юрыдычная асоба“, але ёсьць жывы организм, маючый свае мэты і свой сэн сістнаваньня. Якіе гэта мэты і які сэнс істнаваньня мае народ, мы ўстанавіць ня можам, як ня можам адказаць па пытаньне аб сэнсе свайго ўласнага істнаваньня. Далёкіе ад якога небудзь „абагоўленьня“ народу і не падпарадкавуючы службова народу, нашага індывідуальнага істнаваньня, мы разам з тым вызнаем, што паняцьце нацыі заключае ў сабе нейкія над-індывідуальная заданьня, нейкую самаістую праўду і цэннасьць. Паняцьце нацыі у мэтафізычным значэньню знамянуе сабой сынтаз усіх нашых індывідуальных істнаваньняў і як гэткі сынтэз нацыя нам блізка, зразумела і дорага. Так напр., мы лічымся сынамі беларускага народу не таму, што мы жывем у межах вось гэтых і гэтых губэрній, і не таму, што мы жывем у якіх-сі „беларускіх“ эканамічных варунках, а таму, што мы творым з народам нашым нешта адзінае ў сэнсе нацыанальнага духа. Увесь камплекс нашых склоннасьцяў, вераглядy, прывычак; адзінасьць мовы, гістарычнага лёсу, ўрэшце—загадковая роднасьць крыві—вось

што радніць нас з народам, вось у чым знайходзім мы сваю супольнасьцьзнародам, як, нейчым акрэсьленна закончаным. Да сьвядомасьці зьвязі сваей з народам чалавек прыходзіць з маленства, хоць і не адразу, а праз сямью, грамаду (род—род-ный, на-род). Варункі фізычнага бытаваньня, якія мы пад агульнай назвай матэр'яльных процістаўляем адзінству духоваму, граюць пры гэтым ня толькі актуальную, але часта нэгатыўную ролю. Варункі матэр'яльныя зазвычай нас розьняць, у той час як варункі духовыя нас злучаюць. Сыны аднаго беларускага народу мы ў штодзённым жыцьці можам змагацца паміж сабой за валаданьне матэр'яльнымі цэннасьцямі, якія вытварае Беларусь, але нам ніколі ня прыдзе ў галаву змагацца за яе духовыя цэннасьці. Беларуская духовая істота супольна ўсім членам беларускай сямьі, і як гэткая ня можа быць н паменшана ні аднята!*)

Містычны нацыанальны дух, вышэйшае праяўленьне ўсіх багацьцяў народнай творчай стыхіі, розквіт і панаваньне нацыанальнага Лёгаса -вось што для нас становіць апошню беззапярэчную цэннасьць, Да падобнага разкрыцьця, разкрэпашчэньня і розквіту беларускага нацыанальнага духа мы і павінны імкнуцца, цікуючы палітычныя лёсы беларускага народу.

Як у стасунку да кождай асобы, так і ў стасунку да цэлае нацыі можна прызнаць, што галоўным варункам праяўленьня імі сваіх творчых сіл ёсьць поўная свабода істнаваньня. Толькі у поўнай свабодзе як аддзельная асоба, так і ўвесь народ могуць даць тое, на што здольны. Поўная свабода дзеяньня для народу ёсьць яго палітычная незалежнасьць. Палітычная незалежнасьць народу забаспечае яму такі парадак, пры якім ён пачынае жыць з сябе і для сябе. Жыць „з сябе і для сябе“ не знача замкнуцца ў рамкі беларушчыны і адгарадзіцца ад сьвету, гэткай вульгарызацыі паняцьцяў, дапускаць нельга. Разам з патрэбай усестароньнай лучнасьці народаў мы разумеем і неўнікнёнасьць гэтай лучнасьці. Але усё пытаньне ёсьць у тым, каб гэтая лучнасьць не была прынукай і каб патрэбнае ў мэтах агульналюдзкага проэгрэссу ўзаемнае прытасаваньнеся народаў адбывалася толькі ў форме свабоднага ўплыву. Жыць „з сябе і для сябе“ знача толькі, што народ будзе жыць вольна як расьце расьціна, набіраючыся ўлас-

*) Паказаньня марксызму, што барацьба за эканамічную роўнасьць, ёсьць барацьба за духовыя багацьця — аднабока, бязплодна і як гэткая далёка ад праўды. Мы ня лічым, што разсыцеўшы жыхарь гораду, валадар буйнай мануфактуры ў духовым сэнсе стаіць вышэй за селяніна з вескі які з усходам сонца кідае зярно ў зямлю. Змагаючысяза роўнасьць матэр'яльных варункаў як за адзіна справядлівы лад жыцьця, мы аднак не ставім у залежнасьць ад гэтай барацьбы нашую духовую моральную істоту. Мы ня можам хоць бы на адну хвілю, хоць бы ў тэорэтычных развважаньнях паставіць знак роўнасьці паміж нашым жалудкам і нашам сэрцам; наадварот, шануючы сваё званьне працоўных людзей, мы будзем заўсёды іх адрожніваць. І таму мы ніколі ня будзем гадзіцца ставіць клясавыя інтэрасы вышэй інтэрасаў нацыанальных.

нымі сокамі, і пускаючы гэтыя сокі для ўланага росту, і розквіту. Інак кажучы, кожды народ павінен служыць ўласнаму духу, а не чужому.

Падобнае служэньне магчыма толькі ў варунках поўнай дзяржаўнай незалежнасьці народу. Як бы добра ні ўкладаць констытуцыйныя гарантыі правоў Беларусі, як аўтаномнай, ці фэдэрацыйнай адзінкі, ўжо адзін той факт, што яна будзе зьвязана дзяржаўнымі зьвязямі з чужым нацыянальным арганізмам будзе сьведчыць, што воля яе затамавана, што яна служыць не свайму „Я“, а чужому.

Кождая сучасная дзяржава ёсьць, як ведама, вынік самаабмежаньня народу, ёсьць кампраміс у барацьбе ўсіх складаючых яго элементаў. Падобны кампраміс характэрызуецца тым, што ў жыцьцё народу, як апошні аргумант уводзіцца грубая фізычная сіла. Імкнучыся да панаваньня беларускага нацыянальнага Лёгасу мы ня годзімся дзеля гэтага наагул з разумнасьцю сучаснай дзяржавы. Унясеньне ў жыцьцё народу грубай сілы, і патрэбу прыслуханьня гэтай сіле, большай ці меншай часткі народу, мы склонны дзеля гэтага разглядаць як сваей адмены паняволеньне вольнага духа нацыі. І калі мы ўсе-ж такі йдзем на падобнае паняволеньне, калі мы імкнемся да Беларускай дзяржаўнасьці, — дык толькі як да сумнай неўнікнёнасьці нашае недасканальне сучаснасьці. Мы сьвядома йдзем на падобнае сама-абмежаньне беларускага народу толькі таму, што іншая форма яго бытаваньня ў данны момант немагчыма. Але мы ніколі ня можам пайсьці на падвойнае абмежаньне вольнага духа беларускага народу, ці лепш, на абмежаньне ў мэтах служэньня чужому ідэалу, чужому духу. Дабівацца дзяржавы, няволіць сябе можна ізноў такі толькі для сябе. Заключаць сябе ў формы дзяржаўнасьці, няволіць сябе для асягненьня не сваіх мэт — знача адмаўляцца ад свайго нацынальнага „Я“, знача не вызнаваць сябе самацэннасьцю і самамэтнасьцю, ўлівацца ў чужыя формы і не расьці ў сваіх-знача адмаўляцца ад прызнаньня сябе самаістым народам і абертацца ў этнографічны матэр'ял, пазбаўлены ўласнай ідэі і ўласнага „Я“. Падобнае становішча і будзе займаць Беларусь да таго часу, пакуль яна будзе аўтаномнай, ці фэдэратыўнай часткай цэлае агульнае сыстэмы. Апраўдаць гэткае становішча нельга, бо для нас беларускі народ ёсьць, ласьне, і самацэннасьць самамэтнасьць.

Акрэсьляньне ўласнага нацыянальнага „Я“ у плашчыне палітычных ўзаемаадносін адбываецца звычайна шляхам устаноўленьня дзяржаўнага сувэрэнітэту народу. Углядаючы ў нацыі сваеблічную пэласнасьць, або, як мы сказалі вышэй, — жывы арганізм, павінна згадзіцца, што ўстаноўленьне сувэрэнітэту, народу ня ёсьць толькі абстрактная формула, што гэта ня ёсьць толькі формальны момант, патрэбны для юрыдычных клясыфікацый. Па нашай думцы, устаноўленьне нацынальнага сувэрэнітэту ёсьць массавы псыхолёгічны працэс, і як гэткі ёсьць зьявішча не трансцэдэн-

тальнага, але рэальнага жыцьцёвага зьместу. Гэты працэс адчуваецца народам так сама, як пачуцьце свабоды ў чалавека, вышаўшага з турмы, ці лепш, як пачуцьце свабоды разам з пачуцьцем адказнасьці ў чалавека, пачаўшага жыць самаістым жыцьцём. Кожды народ, які хоча знайсьці і акрэсьліць самога сябе, які хоча стаць ў роўню з сваімі суседзямі, павінен перажыць гэты працэс. Момантам ныяўленьня сувэрэнітэту народу звычайна лічаць момант абвешчаньня яго палітычнай незалежнасьці. Гэта, канечне, умоўнасьць такая-ж, як прыкл., вызнаньне поўналетнасьці і правоў з ім зьвязаных для чалавека, які дасьціг 21 году. Сувэрэннасьць у нашым разуменьні можа быць і ня прытасавана да пэўнага моманту; яна можа быць адчута народам не адразу як бы нейкая прасьвяда, а працягам пэўнага часу, так сама, як адчуваецца фізычная дасьпеласьць кождага арганізму.

Прыймаючы пад увагу, што сувэрэнітэт ёсьць сьвядомасьць нацыянальнай свабоды і зацьверджаньне самастасьці народнага духа і, вызнаючы, што нацыянальнае адраджэньне Беларусі ёсьць якраз нішчэньне старых кандалаў і барацьба за вызваленьне — мы цьвердзім, што устаноўленьне дзяржаўнага сувэрэнітэту Беларусі ёсьць лёгічны вянец нашага вызвольчага руху. Толькі ў незалежнай нацыянальнай беларускай дзяржаве могуць быць разкрыты істотныя цэннасьці беларускай творчай стыхіі. На ўзьне яе — ляжыць рабства, цемра і сьмерць народнай душы. І таму, пакуль крозы аб „вольнай грамадзе нацый“ ёсьць далёкая мара чалавецтва — праграма незалежнай Беларус ёсьць адзіная разумная і справядлівая.

---

# Яго Дастойнасьці
# Пану Прэзыдэнту Чэхаславацкае Рэспублікі
# праф. Масарыку.



Усе векі і народы людзем мудрым а заслужоным дзякі складаці за абычай меваюць, прото і мы, от обліччa ўсее Землі Беларускае, сабраўшыся ў Златой Празе радзіці над недолею народу нашаго, а шукаючы спосабу падзьвігнуці яго з паганьбеньня, абы выбрынуці з труднага заданьня, звернулі есьмо очы свае на Братні Славянскі Чэхаў Народ, яго валькі трудныя а ўцяжлівыя, а сьцежачы Голгофу яго спынілі мы душы свае на слаўнай памяці а асаблівай шанобліўасьці годных постацех Шафарыка а Палацкага, а такжа Вас, Высокадастойны Пане. Яко харабраві народна рэволюцыйнаму шанобліўасьць нашу Вам засьведчыці зволце.

Очамі нашымі обачывалі мы вольнасьць і славу Народу Чэскага, да каторае Вы давялі Яго сваею гарачаю любовяю а неўстаннаю працаю. На ўсіх тых рэчах а прыкладзех змоцніўшы душы мы повеземо Народу нашаму Беларускаму аповесьць аб тым, як Чэхі пабаролі гідру няволі і аб тых, хто духам сваім сагрэвалі сэрцы пакрыўджаных, розпаляючы іх да валькі.

Беларуская Нацыянальна-Політычная Нарада
ў Празе.

Адрэс падазены Пану Прэзыдэнту Чэха-Славацкае Рэспублікі Прафэсару Масарыку ад Прэзыдыума Беларускай Нацыянальна-Палітычнай Нарады адбыўшайся ў Празе 25—30 верасьня 1921 г.

# Пагляд П. Безсонава на беларускую справу.

*У каго у руках слова народу, у таго і думка,*
*і жыцьцё народу, у таго рука уладарная і за-*
*веціца яна ужо не кулаком, але кіруючай правіцай.*
*П. Безсонаў, LXIX.*

I.

Сярод аграмаднага літэратурнага матэр'ялу аб Беларусі маючагася на расійскай мове, рэдка можна трапіць на нешта такоя, што затрымлівало-б увагу сваей арыгінальнасьцю, сваей нязгоднасьцю з раз на заўсёды прынятымі трафарэтамі. Расійская грамадзка-навучная апінія ў большасьці пытаньняў так зв. „окраиной" палітыкі йшла звычайна сьледам палітыкі офіцыяльнай, якая адзіна была з імі знаёма і ў іх больш менш разьбіралася. Быць у курсе так зв. „окраинных" пытаньняў для ўрадовых, офіцыяльных кол было патрэбным, бо само жыцьцё іх да таго прымушала; што-ж датыча расійскага грамадзянства, дык яно, занятае спэцыяльна сваімі унутраннымі расійскімі справамі пачынала цікавіцца „окраинами" толькі тагды, калі ў жыцьці апошніх здараліся якія-небудзь надзвычайныя падзеі. Пры гэтым яно звычайна годзілася з тым, што думала і што рабіла датычна „окраин" офіцыяльная ўлада. У гэтым напрамку сьмела можна сцьвердзіць арганічную згоднасьць паміж двума лагерамі—ўладай і грамадзанствам.

Што датыча Беларусі, то дзякуючы яе сваеаблічнаму становішчу ў старой імпэрыі, манаполію на веданьне месцовымі стасункамі, побач з урадовымі коламі, мела яшчэ праваслаўная царква ў асобе сваей вышэйшай іерархіі, якая так сама як і ўрад вяла безупынную барацьбу з паланізмам і лацінствам і таму выступала часта як рашаючы фактар.

Гэтыя два чыннікі мелі дзеля гэтага і патрэбнае пераконаньня у беларускім пытаньню, і адпаведную літэратуру аб ім. Падобнага зьместу літэратура—офіцыяльная, полуафіцыяльная і царкоўная творыць перэважаючую частку ўсяго таго, што напісана аб Беларусі.

Быў, праўда, кароценькі час, калі і расійскае грамадзянства імкнулася сказаць аб беларускім пытаньню дзе-што ад свайго імяні. Але ўсе гэтыя спробы, прыпадаючыя больш менш на 60 годы мінулага сталецьця былі выкліканы польскім паўстаньнем, цесна з ім былі зьвязаны і так-жа хутка счэзьлі як і паўсталі. Да таго-ж яны былі мала самаістны, бралі свае аргуманты і настроі ўсё з тых жа ўрадовых, ці офіцыяльна-царкоўных крыніц, і калі спачатку і шукалі свайго шляху, дык хутка зьбіліся і пайшлі на шлях казённа-патрыятычны разам страціўшы той інтэрас, які маглі-б мець.

І толькі можа адзін П. Безсонаў (1818—1898) аставіў для будчыны нешта такоя, што можа зацікавіць чытача нават і ў нашы дні.

Свой пагляд на беларускую справу, разумеючы гэтае слова шырока П. Безсонаў вылажыў у прадмове да свайго вядомага *„Сборника бѣлорусскихъ пѣсенъ"* выйшоўшага ў Маскве ў 1871 г. коштам *„Общества Любителей Россійской словесности"*. Як зазначае Пыпін, гэты Зборнік быў адным з першых выданьняў падобнага роду, як сам Безсонаў быў адным з першых расійскіх этнографаў. Аб навучнай вартасьці памянёнай працы Безсонава ў крытыцы ўстанавіўся даволі

нэгатыўны пагляд. Як сучасная, так і пазьнейшая крытыка не ўбачала ў ей таго, што хацеў бачыць Безсонаў і нават не прызнала за ім права першага дасьледчыка і зьбірача беларускай песьні, якім да сяго часу лічыцца П. Кірееўскі (брат вядомага славянафіла) чаму да пэўнай меры не пярэчыць і сам Безсонаў. На аснове гэтага факту і другіх доказаў, С. Венгеров адмаўляе Безсонаву нават званьня вучонага і называе яго „хутчэй выдаўцом“ памятнікоў беларускае народнае творчасьці, чым дасьледчыкам іх. Паважаны крытык даходзіць у сваім скэптыцызме нават да таго, што пры жыцьці Бёзсонава ставіцца крытычна да абраньня яго пачэсным доктарам славянскай філёлёгіі і прафэссарам славянскіх моў і літэратуры Харкаўскага Унівэрсытэту.

Так сама нэгатыўна паставілася крытыка і да безсонаўскай „Прадмовы“, ў якой, па заяве Котлярэўскага „німа ніякае карысьці для навукі“. У свой час Ѳ. Буслаев так сама публічна злаваў на Общество Любителей Российской Словесности, што яно „дапусьціла сапсаваць песьні Кірееўскага далучэньнем да іх аграмаднае безсонаўскае прадмовы“.

Мы з гэткай заявай згадзіцца ня можам. З пункту погляду філёлёгічнага Прадмова, запраўды, мала, а можа і зусім, не цікава. Але як спроба затрымаць увагу расійскага чытача над беларускай праблемай, як спроба даць сваю незалежную ад устаноўленага курсу адповедзь на шмат якія пытаньня тагочаснага беларускага жыцьця, ўрэшці, як жывая характэрыстыка таго ладу і тых асоб, якія былі ў той час на Беларусі,—Прадмова Безсонова і вельмі цікавая і вельмі карысная.

Лепш за ўсё нашае цьверджэньне Прадмова можа быць апраўдана тым фактам, што А. Пыпін, не лічыўшы раней для сябе магчымым „застанаўляцца над разглядам філёлёгічных досьледаў“ Петра Безсонава у т. IV пазьнейшай „Исторiи русской этнографiи“ прысьвячае нашаму дасьледчыку целых шэсьць страніц, [1]) якія зьяўляюцца амаль што ні літэральным перадрукам найбольш яскравых месц тэй самай Прадмовы, якую так бязлітасна лаяла сучасная Безсонаву крытыка. Больш таго, калі мы ўважна будзем чытаць тыя страніцы ў Пыпіна, ў якіх ідзе мова аб Беларусі 50—60 гадоў, аб грамадзкіх настроях эпохі, аб навучных напрамках і аб паасобных дзеячох дык мы лёгка можам угледзіць, што шмат чаго ўзята масцітым вучоным ласьне ад П. Б. з яго Прадмовы.

Таму мы ня можам згадзіцца з Буслаевым, што Безсонаў „сапсаваў“ „беларускія песьні сваей прадмовай, а наадварот павінны дзякаваць О-ву Люб. Рос. Словесности за тоя, што яно дало змогу нам азнаёміцца з думкамі аднаго са сьведкаў жыцьця Беларусі ў адну з найбольш важных эпох.

Адзіна з чым мы павінны згадзіцца, дык гэта з заявай крытыкі, што „выклад думкі ў Безсонова па форме сваей цёмны і дрэннна напісаны“. [2]) Запраўды, стыль яго пісьма надзвычайна завілы і блутаны, больш прыпамінае модэрнізаваную царкоўна-славяншчыну з безканечнымі паўтарэньнямі і модуляцыямі, чым выпрацаваны стыль расійскай публіцыстыкі часу найбольшага розквіту. Да чытаньня ён трудны, і ў напісаным з першага разу не заўсёды можна разабрацца.

Але зьвернемся да самой Прадмовы.

Яна абнімае восемдзесят страніц зьбітага тэксту in 4-to, пісаных амаль што без абзацаў. Апошняе так сама вельмі утрудняе чытаньне і магло быць выклікана толькі мяркаваньнямі таннасьці выданьня, на што жаліцца сам аўтар. Калі прыняць пад увагу, што песьні „Сборника“ зьмешчаны на 175 страніцах з каторых 70 заняты тлумачэньнямі да тэксту, і каля дзесятка страніцд прыпіскамі,—

[1]) Гл. „Русская Старина“, 1872, № 3.
[2]) Усім іншым этнографам аўтор адводзіць зазвычай адну, дзьве страніцы.

дык можна згадзіцца, што прадмова адносна да песень непрапорцыанальна вялікая.

Цікавячая нас Прадмова зьявілася вынікам прац Безсонава над беларускай этнографіяй і падарожы яго з гэтай мэтай на Беларусь. Да часу падарожы Безсонаў, пасьля аканчаньня маскоўскага унівэрсытэту, пяць гадоў працаваў у Кассовіча і Петрова, пасьля служыў у Камісыі друкаваньня дзяржаўных грамат, а з 1857 да 1864 г. служыў старшым раднікам маскоўскай сынодальнай друкарні. У гэты час ён ужо займаўся славянскай філёлёгіей, досьледам старых актаў і выдаў цэлы шэраг прац сваіх, з каторых найбольшай вядомасьцю карыстаюцца „Болгарскія пѣсни“, „Калики перехожія“ і інш. [2])

Ужо ў гэты час, разам з працаю над польскай, сэрба-харвацкай і баўгарскай мовай П. Безсонаў цікавіцца і беларускай мовай. Разам з П. Кірееўскім і пад яго кіраўніцтвам ён працуе ў Маскве над зьбіраньнем беларускіх народных песьняў, але гэта праца, далёкая ад безпасярэднай крыніцы, насіла чыста тэорэтычны характар і не выходзіла далей габінэту, тым больш, што ў шырокіх колах расійскага грамадзянства яшчэ не было да падобнага роду поэзыі ніякай цікавасьці. Як мы ведаем, да народнай творчасьці ставіліся ў той час нэгатыўна нават такія людзі як Белінскі.

Справу выданьня ўсяго сабранага матэр‘ялу пасунула наперад польскае паўстаньне 63 году, калі ўвага ўсей думаючай Расіі зьвярнулася да Беларускага Краю. Карыстаючыся з гэтага П. Безсонаў прэдставіў свой зборнік Обществу Люб. Рос. Слов.; у зборніку было ўжо тагды да 500 беларускіх народных твораў, сярод каторых шмат старых беларускіх рукапісаў, разам з песьнямі і вершамі на нотах. О-ва згадзілася прыступіць да выданьня, але за цэлы 64 год справа друку не пасунулася наперад; пэрашкаджалі рожныя прычыны—між іншым запросіны П. Безсонава прыехаць для працы ў Вільню.

Беларусь ў гэты час перажывала гострыя, неспакойныя дні. Дзякуючы паўстаньню ўвесь край быў на вайсковым палажэньню; йшла мураўёўская „вісельная“ разправа з рухам, полымя якога абхапіла добрую палову Беларусі і пачынала пагражаць спакою цэнтральнай ўлады. Расійская прэсса ў Маскве і Пецярбургу дыхала шовіністычным угарам і была поўна адозвамі супроць „мятежа и преступной польской пропоганды“. Разам з тым зьявілася якаясь хвараблівая цікавасьць да беларускага народу,—„страстотерпца,“ якога „открыли“ і зрабілі об‘ектам сваей апякунчай увагі. Разварушанае паўстаньнем шляхты, вывядзенае з роўнавагі селянскай рэформай, якая прыняла тут даволі невыразны выгляд, жыцьцё Беларусі ў тыя часіны ўяўляла сабой ўскаламучанае мора, якое прыводзілі да парадку самымі драконаўскімі захадамі. Пачалася ўзмацаваная адпраўка ў край расійскіх чыноўнікаў, пасыпаліся незлічоныя пісаньня „карэспандэнтаў з месц“—расійскі урад і расійскае грамадзянства павялі чародную атаку на заваяваньне „Сѣверо-Западнаго края“ (тэрмін, пачынаўшый ўхадзіць у моду). Быў створаны асобны тып „западно-русскаго человѣка“, які пераняў на сябе манаполію рэпрэзэнтацыі на Беларусі праваслаўя і рускай народнасьці, а па за межамі яе прызваны быў бараніць інтэрасы яе жыхароў прад урадам.

Прад вачыма расійскага грамадзянства хутка ўскрыліся ўсе супраціўнасьці жыцьця Беларусі—дзержаўна-палітычныя, нацыянальныя, соцыяльныя і рэлігійныя,—супраціўнасьці нагэтулькі глыбокія і трудныя да развязаньня, нагэтулькі часам небазпечныя, што нават некаторыя чэсныя і сьветлыя галовы зьбіваліся ў крайнасьці. І калі благачэсьцівы М. Каяловіч у сваіх патрыотычных „беларускіх“ пісаньнях дапісываўся да чыста бальшавіцкіх лёзунгаў аб зьніштажэньні двароў,

[2]) Матэр‘ялы аб біографіі Безсонава знайходзяцца у „Записках Харьковского Университета“ у пратаколах) за 1879 г.; ў „Словарѣ“ Берзина У De Gubernatis „Diktionaire internationale“

публіцыст Скарятін у „Вѣсти“, ў мэтах абароны дваранскаго шляхоцкага земляўладзтва на Беларусі, заклікаў ўладу абуздаць падобныя сэн-сімоніцкія выступленьня.

Цэнтрам барацьбы і разам з тым цэнтрам публіцыстычнай і ўселякай іншай палемікі была ў той час Вільня, дзе сядзела краёвая ўлада і дзе прабывала і і працавала, як тагды казалі „мрачнае сонміща“—„Вѣстника Западной Россіи“ на чале з Гаворскім, Гільдебрантам і К-о. Адсюль патаемна разсылаліся загады аб паўстаньню, тут працаваў Канстантын Каліноўскі са сваім штабам, тут-жа пачаліся літэратурныя казаньня аб барацьбе з лацінствам, хлопаманствам, жыдоўскім засільлям і г. д. Вільня захоўвала ў апініі ўсяго месцовага грамадзянства пераконаньне, што яна зьяўляецца ня толькі палітычным цэнтрам, ня толькі географічным цэнтрам, які кіруе ўсім жыцьцём краю, але так сама яго душою і яго розумам. Так яно запраўды і было, бо ўся больш менш выдатная інтэлігенцыя Беларусі, Літвы і часцьцю Польшчы сядзела і працавала ў Вільні. Хоць старога асяродка, групуючага сілы—Віленскага Унівэрсытэту—ўжо не было, але шмат культурных сіл у месьце заставалася, групуючыся каля тых устаноў, якія ўзьніклі пасьля закрыцьця Унівэрсытэту. Аднэй з галоўнейшых інстытуцый падобнага роду быў знамяніты ў тыя часы Віленскі Музэум заснаваны ў 1856 годзе граф. Эўстахіям Тышкевічам.

Расійскі урад парашыў у мэтах барацьбы з „крамолай“ ліквідаваць гэны Музэум, прыдаўшы ліквідацыі форму „преобразованія“. Была створана адпаведная камісія з расійскіх вучоных, якой было пастўлена заданьне ператварыць Віленскі Музэум „з установы, імкнуўшайся падтрымліваць ў месцовым жыхарстве пераконаньне, што іхні край ёсьць край польскі, ў установу напамінаючую аб расійскай народнасьці, праваслаўі і спагадаць найлепшаму ўзмацненьню зьвязей, злучаючых „літоўскія“ губэрні з Расіяй“.

Вось, ласьне, для ўчасьця ў працах памянёнай камісыі і запрашалі П. Безсонава прыехаць на Беларусь. У канцы 64 году ён на гэтыя запросіны згодзіўся і прыехаў ў Вільню.

Ня можна сказаць, каб мэты пастаўленыя Камісыі, і асабліва тая праца, якую гэта Камісія зрабіла, характэрызавалі яе з добрага боку і разам не клалі пэўнай цені на імя П. Безсонова. І калі-б ня тоя, што П. Б. напісаў у сваей Прадмове, можна было-б думаць, што ён належаў да ліку тых полёнофагаў, жыдаедаў і казённых абрусіцеляў, якія вызначаліся ў той час ў Вільні.

Сам П. Безсонаў вось як тлумачыць мэты сваей падарожы:

„Пры ўсіх труднасьцях, з сэрдэчнай гатоўнасьцю на самую цяжкую працу і з поўнай верай калі не ў палтычныя задачы, дык у сусьпех грамадзкай і народнай справы імкнуліся мы на чакаючую нас працу... Вельмі сорамна цяпер, але трэба прызнацца, што мы кіраваліся гарачымі пераконаньнямі чароднага роду. Палітычная і дзяржаўная дзеяльнасьць са ўсімі яе заданьнямі ў краю, не адкідае, але наадварот, заклікае ў дапамогу дзеяльнасьць грамадзкую і навуковую; хто ня здолен, ці ня хоча аддаць свае сілы задачам першага роду, той прызваны спагадаць задачам апошнім“.

Такім чынам мы бачым, што мэтаю падарожы П. Безсонава ў Вільню была не палітыка, але навука; ён сам прызнаецца, што да палітыкі ён і ня здолен і не мае да яе сымпатыі. Ен хоча ўпрост служыць на Беларусі навуцы:

„Дзе месцовая гісторыя заснула“, зазначае аўтар далей, „і груды памятнікаў яе лежаць бяз руху, ці марнеюць без увагі; дзе шматлічныя бібліотэкі, выраз мінулай адукаванасьці і спосаб для будучай, ня толькі залежваюцца без карысьці,

але ўпрост траццца і шчэзаюць; дзе музэумы служаць толькі адным палітычным, знача аднабокім тэндэнцыям, дагаджаючы тэй, ці іншай старане...—там, думалі мы, шырокае поле для навукі і веды“.

Знаючы энтузыастычную любоў П. Безсонава да ўселякай народнасьці, гісторыі і старасьветчыны мы маём права лічыць, што ён ехаў на Беларусь без якіх небудзь асабістых плянаў зрабіць на гэтай справе выгодную чыноўную карьеру. Служба ў Камісыі не тварыла спэцыяльнай задачы яго падарожы, што відаць, напр., з таго. што П. Безсонаў большую частку свайго часу прысьвячаў іншай працы: ён быў старшынёю віленскай археографічнай камісыі, працаваў над цэнтральным віленскім архівам, над архівамі эпархіальным, капітульным, варшаўскім каронным: быў разам з тым дырэктарам рабінскага вучылішча і інш. жыдоўскіх школ, быў дырэктарам віленскай клясычнай гімназыі і г. д. А глаўнае—дасьледаваў народнае жыцьцё.

Зьяўляючыся адначасова ня толькі расійскім вучоным, але і расійскім чыноўнікам, П. Безсонав аднак вельмі далёк ад тыпу так зв. „западно-русскаго человѣка“. Апошні знайходзіць у яго адразу-ж рашучую нэгатыўную характэрыстыку:

„Заходна-рускіх людзей не жадалі мы вітаць у гэткім мундуры і з форменнымі гузікамі; не карэспандавалі ім ў Пецярбург і не кланяліся ім на месцы пры іх прыезьдзе. Мы іх шукалі сярод месцовых ураджэнцаў і сталых жыхароў, каторыя-б дасьледавалі і разьясьнялі сваю гісторыю, зьбіралі-б і выдавалі-б свае народныя памятнікі, займаліся бы мовай беларускай, не пакідалі-б асаблівых адзнак месцовай грамадзкай і літэратурнай гутаркі, наадварот, апрацовывалі-б гэтую апошнюю ў месцовых творах і соцыяльных варунках.“

Зусім па свойму, па славянафільску. разумее ён моднае ў той час „обрусѣніе“ Беларусі, для чаго ласьне прызваны былі „западно-русскіе люди“ і для чаго нават праектавалі прысылаць для беларускіх дзяцей маскоўскіх няняк. Зазначаючы, што ён не вызнае слушнасьці ў назове „маскаль“, ці „вялікарус“ і згаджаючыся ўглядаць ў тых расейцах, што прышлі на Беларусь, проста „русскихъ“, П. Безсонаў кажа:

„Мы разумелі „русеньне“ і „обрусеніе“ ня ў грубым, гэтак хутка загідзеўшым сэнсэ, ці лепш не ў вочавіднай бязсэнсовасьці, але як пад‘ем месцовых сіл гістарычных, прызванных пасуваць наперад лёс краю і такжа аднародных, брацка прынесеных адкуль бы то ні было расійскіх сіл на да памогу, для дружнага супрацоўніцтва. Нам здавалася, што гэтыя апошнія сілы павінны былі быць пераважна сіламі моральнымі, інтэлектуальнымі; тагды-б яны запраўды былі-б „сіламі“, а не прэтэнсыямі, не дзяржаўным аблачэньнем, а тым больш не падробкай і прытворствам.“

У двугім месцы ён кажа аб тым самым больш малюнкова:

„Памятуючы правіла—„служыць бы рады, ды прыслужацца тошна“, мы ніяк не маглі згадзіцца, што дзеля асабістых карысьцей, трэба асабіста дагаджаць ўладаючай асобе... Займаючыся гісторыяй краю, мы не ўглядалі яе ў апісаньнях патрыотычных сьвяткаваньнёў; клапочучыся аб прасьвеце, мы не лічылі, бытцым гэта адно і тоя, што рэгулярна адседжываць „пэдагогічныя вечары“. Сьледзячы на месцы беларускую песьню мы не дабачалі пабеды расійскай народнасьці, калі хто небудзь у апьяненьні садзіўся на берагох Віліі ў шырокі круг і пачынаў пяяць „Вніз по матушке по Волге“.

Зразумела, што гэткае разуменьне свайго абавязку, гэткая незалежнасьць думак і адпаведнная пазыцыя ў грамадзянстве Віленскім, не магла спрыяць дзе-

яльнасьці П. Безсонава і хутка прычынілася непрыхільнасьці да яго вышэйшага начальства ў асобе губэрнатара, папячыцеля і інш. У сваей Прадмове П. Безсонаў нэ раз жаліцца што „шэраг папераў, скіраванных супроць яго дзяльнасьці даў довад яму, што гэтая дзеяльнасьць не прытасавана „відам начальства“—што ён з пункту погляду апошняга безкарысны і нават шкодны“.

Дзякуючы неспагаданьню і варожасьці з боку месцовай ўлады П. Безсонаў праз два гады, ў канцы 1866 году, выехаў з Беларусі, не пакінуўшы, як сам казаў, па сабе ў краю трывалай памяці ў форме „русскага“ земляўладзтва і нават не дабіўшыся ў Вільні выданьня сабранага тут этнографічнага матэр‘ялу.

Апазіцыйнае становішча П. Безсонава не магло не спрыяць з другога боку больш блізкаму азнаёмленьню яго з тымі коламі, якія так сама стаялі ў апазыцыі да месцовай ўлады, і асабліва з тымі прэдстаўнікамі вольнай веды і вольнага слова, якія засталіся пасьля разгрому Віленскага Унівэрсытэту. З некаторымі з іх П. Безсонаў быў знаём з працы іх яшчэ ў Маскве. але асабістае спатканьне дало яму магчымасьць пазнаць іх лепш і засьведчыць для патомных тое ўражэньне, якое яны рабілі на сваіх сучасьнікаў. Адрыўкі Прадмовы прысьвячаныя характарыстыцы як паасобных віленскіх вучоных польскай школы, так і літэратурных напрамкаў тхнуць шчырай пашапай да іх і захопленьнем. Тоя што ён бачыў і чуў ў тагочасным духоўным цэнтры краю, зрабіла на яго вялікае ўражэньне, бо Вільня 60 гадоў ў дзедзіне прац аб Беларусі, яе гісторыі, этнаграфіі стаяла інтэлектуальна не ў параўнаньню вышэй Масквы і Пецярбурга.

У той час калі ў Вільні былі нагэтулькі вядомыя імёны, як Ярошэвіч, Ігнат Даніловіч, Крашэўскі, Круповіч, Кіркар і шмат іншых гуманістаў, калі віленскія кнігарні бачылі ўжо працы Яна Чэчота, Рыпінскага, Зенкевіча,—ў Расіі можна было знайсьці ня больш двох-трох вучоных, якія хоць цікавіліся Беларусьсю, але чаго небудзь значнага аб ей не далі.

Прадмова Безсонава сьведчыць, што аўтор добра ведаў кождага з памянёных дзеячоў і лёгка разьбіраўся ў вартасьцях кождага навуковага твору. Што важна падчыркнуць, дык тое, што сваеаблічная „польскасьць“ ўсей плеяды беларуска-польскіх патрыотаў не сустрэчала з боку аўтора прынцыповых закідаў ў якіх небудзь старонных мэтах. Хутчэй наадварот—ён прыхілен гэтаму напрамку. Кажучы, напр., што літэратура і навука на Беларусі перайшла ў рукі палякоў,—ці то прышоўшых з Польшчы, ці то апалячаных бёларусаў і літвіноў, —ён зазначае толькі актуальную старану зьявішча: „К вялікай чэсьці іх трэба сказаць, што яны ў параўнаньню (з Масквой) даўно зьвярнулі сваю ўвагу на Беларусь.“ П. Безсонава не раздражняе той факт, што яны называлі Беларусь сваей польскай правінцыяй і ужывалі для запісі беларускіх народных твораў лаціньніку. Па ходу развіцьця краю гэта было натуральна: „Калі мы цяпер, вельмі позна схапіліся называць Беларусь сваею, мову яе сваёй, літары ўжываем расійскія то мы ніяк не адважымся дакараць літэратуру польскую, ці апалячаную за тоя, што яна так сама, толькі шмат раней за нас, лічыла гэтую справу сваей роднай.“

Але будучы об‘ектыўным, П. Безсонаў з некаторымі старонамі дзейнасьці месцовых патрыотаў ня годзіцца. Калі яму здаралася заўважыць у навуковай чыннасьці элемэнт палітыкі, ён супроць гэтага пратэставаў. Але пратэст яго быў прыстойны, не выходзіў з рамак свабодна выказанай і не абавязковай для праціўнай стараны, навучнай апініі.

„Дрэнна„, кажа П. Безсонаў, „калі ў гэтую (навучную) справу замешваецца палітыка з выключнаю польскай тэндэнцыяй“; „але“, дабаўляе ён тут жа, „гэта здаралася рэдка і дітаго апраўдывалося адпаведнымі спробамі, а хутка ўжо

цьвёрда праведзянай сыстэмай з боку расійцаў.“ Нэгатыўна ставячыся да такіх твораў, як „Беларусь“ Рыпінскага, („зьявішча — паводле яго слоў—ня столькі злое, як сьмешнае, ненавучнае, памфлетнае“), ён так жа нэгатыўна і можа ў больш рэзкіх тонах ставіўся да полёнафобскіх закідаў пецярбурскіх часопісісаў.

Аб сваім поглядзе на так зв. „полёнізм“ на Беларусі і аб спосабах барацьбы з ім, ён гавора ў гэткіх словах:

„З полёнізмам, ў яго выключнасьці і палітычных разчотах пры захопленьні непалітычных сьродкаў, лічылі мы законным змагацца правільна, на арэне самых глыбокіх і істотных для яго інтэрасаў, але тымі самыі сьродкамі—сьродкамі адукацыі, навукі, прасьветы.“

За гэтым мы трапляем на надзвычайна цікавае пытаньне—адносін П. Безсонава да беларускага руху як гэткага. Як славянафіл, як чалавек прыхільна ставячыйся да народу, ён ня мог ставіцца ваража да культурнай стараны яго, асабліва ў тым разуменьні, як гэта ўяўлялася некаторым пазьнейшым народнікам (у беларускім выяўленьні—братам Раманскім, Жуковічу, Хлебцевічу і інш). Палітычны бок пытаньня, зразумела, яму не па смаку. Ён проста зазначае, што ён „не разумеў беларусаў у форме палітычнай“. Каго ён пад гэтым разумеў,—ці пасобных асоб, якім быў і тыя дні Каліноўскі, ці цэлы палітычны напрамак—німа ведама. Так сама як і ў Кояловіча, мы знаходзім тут толькі глухоя ўпамінаньне, што беларускі палітычны рух, ці бліжэй, дзе-якая палітычная беларуская ідэалёгія, ў тую эпоху ўжо давала сябе адчуваць. Відаць, што і ў часе побыту П. Безсонава ў Вільні сярод месцовага жыхарства ідэя беларуска-літоўскай дзяржаўнасьці, зьявіўшаяся ў мурах Віленскага унівэрсытэту і быўшая лёгічным завяршэньнем гістарычных раскопак Нарбута, была жывая і знайходзіла адэптаў. Нажаль, нічога большага П. Безсонаў не кажа аб гэтым вельмі важным для нас моманце, абмежываючыся заблутанай увагай, што гэтае зьявішча „выражае ці то налог пропагандуючай тэндэнцыі „ці то,—што вельмі характэрна ў вуснах П. Безсонава,—месцовы адпор Маскве, гранічачый з пачуцьцём варожасьці“.

Наагул, як відаць хоць бы з наведзяных вышэй прыкладаў П. Безсонаў вельмі асьцярожан у адносінах сваіх да месцовага жыцьця, не паддаецца скрайнасьцям і заўсёды шукае такога выхаду, пры якім можна было-б палагодзіць абодвы варагуючыя элемэнты—польскі і расійскі. Гэткае прымірэньне ён імкнуўся знайсьці ў славянстве, беларускасьці і асабліва ў „літоўскасьці“ (у чужаслове), якая тагды развівалася польскай стараной. Апошнюю ён сьвядома і горача вітае:

„Пяцідзесятыя гады нашага сталецьця былі шчасьлівы: староны, засуджаныя вечна змагацца і спрэчацца, але нічым не забвязаныя ненавідзець адна другую, пачалі рашуча шукаць зьліжэньня, якога небудзь modus vivendi, якой-небудзь магчымасьці жыць і працаваць разам. Палітычнае мінулае, некалісь зьвязаўшае іх суровай сілай і назовай Літвы, адазвалася ізноў: натужліва пачалі ўсе прыймаць назову Літвы, літоўцаў, літоўскага і пад гэтай назовай дзеяць...“

„Ня гожа было-б нам, па звычаю другіх, сьцежыць і тут хітрае ўквывацельства польшчыны: ня дзіва, калі паляк, не маючы магчымасьці жыць у сваей статуры, пераабражаўся ў літвіна, а Русь адзягалася „Літвою,“ каб адрожніць сябе ад вядомага руссызму—шуканая формула прымірэньня была простая і натуральная.“

Да гэтага пытаньня П. Безсонаў варочаецца не адзін раз. Ён з вялікім і шчырым жалям зазначае, што магчыма ён не адразу зразумеў і разабраўся ў палітычным становішчы краю і ў гэтай самай „літоўскасьці“ пасьля свайго прыезду у Вільню: „калі мы працавалі на гэтым грунце (мова ідзе аб Віленскім музэуме),

шмат што пад ўплывам палітычных абставін, уяўлялася нам у іншым сьвятле, чым цяпер здалёку і пры халоднай безстароннасьці: калі украдывалася сюды якая небудзь абмылка, дык ласьне тая, што не заўсёды ў той час мы маглі дагадацца аб значэньні памянутай формулы „літоўскі“.

Праз некалькі гадоў пасьля ад'езду з Вільні, калі ў краю і Пецярбурзе значна збольшыліся і пашырыліся настроі ў духу безагляднага зьнішчаньня ўсяго асобна-месцовага, ўсяго „літоўска-беларускага“, ён мае мужаства перэпрасіць усіх,—у першую чаргу гр. Тышкевіча, Круповіча, Кіркара—за тую псэўдо навуковую працу, якую зрабіла Камісыя па рэформе музэума. „Мы не маглі не бачыць тут грамады таго, што аказалася сабраным ласьне для Белврусі“... „Ніхай даруюць нам тыя асобы, яшчэ жывыя, з якімі ў гэтай справе змагаліся мы так доўга—не асабіста, не паліцэйска, але навучна і літэратурна.“

Сумныя зьявішчы, меўшыя месца на Беларусі пасьля задушаньня паўстаньня,—упадак творчай энергіі краю, занепад духоўны, разпыленьне навучных сіл, каторыя паводле П. Безсонава, „пасьля пагрому як бытцым былі змыты з аблічча зямлі, якіх як бытцым зьняла якаясь невідомая рука“—знаходзяць у П. Безсонава так сама вотклік; ён зусім сьвядома ня верыць „новаму курсу“, новаму пэрыоду—Пецярбурскаму, які паўстаў замест старога—Віленскага; і скэптычна зазначае: „цэнтр перасунуўся ў Пецярбург, дзе мае месца працяг даўнага няведаньня, ўзмацаваўшыхся абмылак і, сваей адмены, выключнасьці ў стасунку да Беларусі“.

Так ставіўся П. Безсонав да польскай стараны на Беларусі.

Ня менш згодліва і запраўды культурна паставіўся ён да трэцьцяй часткі жыхароў—да жыдоўства. У той неспакойны час жыды служылі мэтай для самых агідных і глупых нападак з боку ўсіх тых, хто прыслужваўся мураўёўскай ўладзе і лічыў сябе на гэтай аснове „расійскім патрыотам“. У процілежнасьць чорнасоценным завываньням патрыотычнай прэссы, П. Безсонаў ставіць сабе ў заслугу, што ён быў блізак жыдоўству ў Вільні, кіраваў жыдоўскай асьветай і „пакінуў яе без пакрыўджаных жыдоўскіх дзяцей“.

„Жыдоўства“, кажа П. Безсонаў, „лічылі мы патрэбным прыцягаць і збліжаць, ня грэбаваць ім, не лаяць і злословіць, асабліва грамадзка і ў друку, не ўзбуджаць да яго ненавіднасьці“.

Калі параўняць гэтыя словы з пісаньнямі тагочасных, як тагды гаварылася „жыдаедаў“, якія, трэба зазначыць, не тварылі ў гушчы насланых з Маскоўшчыны прэдстаўнікоў дзержаўнага велікарасейства асаблівага якога-небудзь выключэньня,—нам будзе зразумела становішча інтэлігентнага маскоўскага лібэрала, які быў трапіў туды, як белая варона у чорны табар.

П. Безсонаў добра ведаў гісторыю жыдоўскага народу і зьвертаў увагу на яе слаўныя страніцы: „відаць нямногім ведама, што жыдоўская навука ў Беларусі мае здўна сваю літэратуру, знамянітыя друкарні, шэрагі шматтамовых выданьняў і да сяго часу гэткіх прэдстаўнікоў, якія лічуцца ў жыдоўстве першымі для эўропы, а заразам для цэлага сьвету“.

Так сама як у пытаньні адносін да русыфікацыі краю, адносін да польскага элемэнту, так сама і ў пытаньні адносін да жыдоў П. Безсонов займаў опозыцыйнае становішча і ў сваей прадмове зазначыў, што „мысьлі яго ў гэтым напрамку не тасаваліся з панаваўшымі тагды поглядамі ў літэратуры“.

Аб офіцыяльнай месцовай палітыцы і казаць німа чаго.

II.

Ужо ў часе подарожы сваей на Беларусь, калі толькі пераступіў яе мяжу, Безсонаву ў вочы кінулася нешта такоя, чаго ён ня мог забыцца доўга пасьля звароту дамоў, і з прычыны гэтага ўражэньня ён робіць надзвычайнай гістарычнай вагі прызнаньне.

„Да гэтай пары (г. зн. да 60-70 г. мінулага сталецьця) ўступаючы ўнутр абшару краю, які нідаўна [1]) прынята называць не зусім точна „Паўночна-Заходным“, як ні ацяжэла над ім рука апошніх сталецьцяў, бачыш, чуеш і адчуваеш ўсюды, што тут не надуманые і ня выкрэсленые толькі географічныя і дзяржаўныя граніцы“.

Патрэбнасьць, абавязковасьць гэтых дзяржаўных граніц тлумачыцца П. Безсонавым тым, што ўнутры іх ёсьць запраўдная самаістасьць, што тут свой грунт, свой народ, некалі валадзеўшый, хоць аблічча яго схавана сёньня ад вашых вачэй ў руінах мінулага, хоць-бы ён з тупым тварам і бязслоўнымі вуснамі сустрэчаў на руінах новых гасьцей.

Тагочасную селянскую Беларусь аўтор малюе ў словах, ў якіх крозіць натуральная, ня выціснутая штучна з душы, любоў да вёскі, да ўсяго всяковага жыцьця:

„Быт просты, паважны, неяк асабліва грунтоўны, ўсяго менш дзікі, ці грубы, найбольш ветлы, для сябе ўтульны, заможны бяз роскашы, пры спакойным характары і ўстрыманым гумары, прыемны мяккой аздобнасьцю. Праца ня сьпешная, але доўгая і упорчывая; гаспадарка ў істоце грамадзкая, але вольная для прыватнай ўласнасьці; полі даволі вырабленыя, лясы і вазёры, з сеткамі тысяч рыбаловаў навокал; не шырокія, але выгодныя і добра утрыманыя шляхі“.

Чытач можа знайдзе гэтыя строчкі крыхў сэнтымэнтальнымі, прыпамінаючымі добрай памяці карамзінаўскі стыль. Але яны вельмі характэрны, бо сьведчаць аб запраўды мілым ўражэньні, якоя зрабіла на падарожнага наша Бацькаўшчына; ўражэньне, якоя ня толькі не пакінула яго пасьля звароту ў Маскоўшчыну, але відаць ўзмацнілася, як „прыгожае далёкае“ ў параўнаньню з усім благім, якога ён раней у сябе пад бокам не заўважаў.

Гэткімі-ж актуальнымі барвамі малюе ён і другія староны жыцьця тагочаснай Беларусі:

„Прамысловасьць і рамёслы далёка развітыя, гандаль забаспечаючый поўны дабрабыт, н таннасьць, нават да апошніх дзён, баечная. Месцовае жыцьцё, даўно забаспечанае акрэсьлянымі правамі (намёк на майборскае права) — грамадзянства не адарванае ад звычайнай рускай асновы (указаньне на беларускае мешчанства, якое з даўных часаў, аж да апошніх дзесяцілецьцяў мінулага веку тварыла па гарадох асобны, грамадзкі, добра арганізаваны і даволі культурны стан, ад агульных ўлад незалежны),—не адстаўшае ў развіцьці ад заходных суседзяў, нават самых далёкіх; адкрытае, публічнае судатварэньне, з ім адпаведнае судаўстройства, з XVI в. статут—адзін з велічайшых юрыдычныхъ памятнікаў“ і г. д.

Азнаёміўшыся падробна з жыцьцём краю, цікуючы за яго развіцьцём ў гістарычным маштабе, П. Безсонаў робіць другое, ня менш важнае прызнаньне, якое выцекае з першага як лёгічны вынік: Беларусь уяўляецца яму як нешта суцэльнае, як нешта акрэсьлянна адзінае:

---

[1] Імператор Мікалай I указам скасаваў названьне „Беларусь“ і забараніў ужываньне яго. „Города Россійск. Имперіи III Могилевъ, Изд. Мин. Вн. Д.—Реклю: „Земля и Люди“ СПБ. 1883 стр. 162.

„Беларусь абняла, аб‘еднала і абасобіла сваю зямлю, цэлы і абшырны край ад Дзьвіны і Нёмана да Днепра і Чарнігаўскай губэрні“. „Адзінства гэтае падкрэсьляецца і агульнай народнай массай Беларусі“ і „беларускай мовай ў яе цэльным адзівстве“.

Беларусы, як народ і беларускасьць, як нацыанальная асобнасьць, злажыўшыеся векамі на сваей ўласнай аснове, уяўляўшая свой асобны сьвет была ў свой час сілай, панаваўшай ня толькі над жыцьцём свайго абшару, але ўплываўшая на жыцьцё суседніх народаў.

„Беларуская нацыанальнасьць выказала надзвычайную моц і жывучасць. Яна здолела на роўных правох ужыцца з гэтулькі суседнымі нацыанальнасьцямі, як літоўская, польская, жыдоўская. Не падбівала іх аружжам, наддварот, часта сама падбіваная, яна безупынна перэмагала іх сваім духоўным, маральным, бытавым прасьвечаючым ўплывам. Пра Беларусь можна справядліва сказаць, што яна не здала ні кроку зямлі, ніводнага каменя сваей будовы: наадварот, стварыла зямлю і цэлы край, з асноў збудавала свой вялікі гмах.“

„Мову сваю налажыла яна на большую частку другіх нацыанальнасьцяў, з мовай пісьменнасьць (грамату), з тым і другім—сьветагляд і ўсе іншые цывілізуючыя ўплывы.“

Пасьля падобных заяў натуральным зьяўляецца пытаньне чаму Беларусь ў мінулым не стварыла асобнага гаспадарства. Аўтар прадмовы так сама задае сабе гэтае пытаньне: „Як бы там ні было, кажа ён, але гэты народ не дасягнуў аднаго завяршэньня сваей будовы: дзяржавы і дзяржаўнасьці“.

Чаму-ж гэта так? Чаму Беларусь, меўшая ўсе данныя, пачынаючы ад здольнага народу з самаістай культурай і канчаючы натуральнымі географічна-дзяржаўнымі межамі, ня ўсьцігла замацаваць ўсё гэта ў асобным гаспадарстве, ня здолела забаспечыць сабе дзяржаўнага істнаваньня.

На гэтае пытаньне П. Безсонаў акрэсьлена нё адказвае. „Ці дзеля таго, з сумам кажа ён, што прамежныя дзяржавы наагул не ўдаюцца, а прынамні, не доўгавечны, ці таму, што ўжо ўсім славянам такая нядоля, што ўсе іхніе былые самаістые дзяржавы аказваліся чамусь-ці і паміж кім-сь прамежнымі, патрэбнымі для апоры таму, ці іншаму сільнейшаму суседу,—але шукомага не знайшлося.“

Для П. Безсонава ясна было толькі адно, што галоўнай прычынай бездзяржаўнасьці Беларусі зьявілася сумнай памяці Люблінская унія. Да XVI веку, да гэтай уніі, Беларусь м а г л а перэтварыцца ў самаістую дзяржаву; пэрыод да уніі быў пэрыодам розквіту Беларусі, як нацыанальнаадзінага, паволі, але безупынна сьпеўшага арганізму. Пасьля уніі з Польшчай пачаўся яе няўпынны занепад.

Аб гэтым другім пэрыодзе жыцьця Беларусі, аб фактарах яго выклікаўшых, з ім зьвязаных і пасьля яго вынікшых мы знайходзім у прадмове Безсонава такую ацэну:

„Дзяржава чужога (Беларусі), карэня, інародная і інаверная схібанула да астой роўнавагу складных часьцей створанага Беларусьсю сьвету, ўнясла разлад і задор, раздувала ўнутранны закалот і карысталася ім для сваіх мэт... Усе сілы Беларусі, даволі яшчэ багатыя ад мовы да пытаньняў рэлігійных напружыліся. Натуральны, спакойны шлях развіцьця стаў немагчым і заразам была страчана ўселякая надзея на дзяржаву.“

„Напружанасьць палітычнага жыцьця Беларусі пасьля Любліна, выкліканая напорам палёнізуючых сіл, вызвала на Беларусі надзвычайны ўздойм грамадзкай энергіі: паказаўшый сьвету ўсю моц беларускага творчага духу, аднак-жа дзяку-

ючы перавазе, якую давала насуваючайся польшчыне польская дзяржава, ня толькі ўступіў апошняй, але прычыніўся яшчэ большаму занепаду Беларусі.“

„Падняліся асоцыацыі ва усіх напрамках жыцьця: праваслаўныя брацтвы, школы, літэратура... Навука, з асновай сяродвечнай схоластыкі, але з пэўнай доляй рэформацкага адраджэньня, абхапіла ўсе дзедзіны веды, ад граматыкі да тэорыі музыкі і пеяньня, да багаслоўскага катэхізму і палемічнага богаслоўя: але надарванае палітычнае жыцьцё азначылося адсутнасьцю палітычнай гісторыі ў значэньню досьледу і падручніка, а для яе быў падгатаваны матэрьял у мільёнах рукапісных памятнікаў за ўсе эпохі“.

„Грамадзкі уздойм сваімі ачуняўшымі сіламі пераступіў рубяжы Беларускага сьвету і разьліўся далёка за імі ва ўсіх кірунках. Школы беларускіе з іх шкалярнасьцю папярэдзілі самую Украіну, ў шмат чым перадалі ей тып свой і ў канцы XVII веку цалком перанясьліся ў Маскоўскае гаспадарства; літэратурная беларуская мова, пад ўласным сваім імянем, зрабілася агульнай для ўсей заходнай Русі.“

Але, як зазначана вышэй пад націскам польскае дзяржавы беларускасьць ня вытрымлівае і „масса беларусаў, прайшоўшы ў дому, а па часьці заграніцай, найлепшую па свайму часу школу і балеўшых палажэньнем спраў і заблутаннасьцю і нескладнасьцю дзяржавы, пачалі векавую каланізацыю туды, дзе бачылі роўню прасьветы ніжэйшай і дзе разам з тым можна было знайсьці сабе спакойны прытулак і пашану“. „Беларуская культурная каланізацыя пасунулася ў Маскоўшчыну. Выходцы занялі тут самые відные і ўплывовые мейсцы, ўключаючы выхаваўцаў царской сямьі, рэктараў імі ж самымі створаных школ, габінэтных і друкарскіх вучоных. Амаль ўсё падпала іх рэформе.“

На жаль, слушна зазначаё Безсонаў: „сколькі не прынесла гэтая эміграцыя карысьці другім краём, як ні пакрыла Беларусь славай, але самую Беларусь вынішчыла лепшымі прэдстаўнікамі—падарвала яе самаістасьць, бо выходцы ўжо не верталіся на Бацькаўшчыну, прападалі бязсьледна для месцовых, пакінутых інтэрасаў. „Петр Першы, як ведама, палажыў гэтаму канец, працягнуўшы руку сваю ўпрост ад Расіі да заходнай Эўропы.

Сёньня вылажаныя тут думкі знаёмы большасьці грамадзянства. Іх можна сустрэнуць ў кождым падручніку па гісторыі Беларусі. Але ў той час, калі выкладаў іх П. Безсонаў яны былі новымі, нячуванымі, мала каму вядомымі. З тым, што ведаў П. Безсонаў быў у той час знаём можа адзін П. Баброўскі, раней— Борычэўскі, першы расійскі вучоны, зьвярнуўшый сурьёзную увагу на гісторыю Беларусі; яшчэ раней—Коніскій, прагледзіўшый вялікшую частку стара-беларускіх архіўных матэр'ялаў. Магчыма, што ў правільным асьвятленьні быў знаём з гісторыяй Беларусі так сама П. Кірееўскі, які як і П. Безсонаў капаўся ў беларускай старасьвеччыне і быў знаём з адпаведнай літэратурай. Але так сама, як пазьней М. Кояловіч, ўсе яны ня былі цьвёрды ў „беларускасьці“ Беларусі, зьбіваліся на „Западную Россію“, не ўжываючы звычайна нават ўласнага імяні Беларусі. Не ўжывалі гэтага імяні так сама і польскія гісторыкі, як напрыклад Ярошэвіч, дзякуючы каторым ўся чытаючая Расія часу П. Безсонава лічыла Беларусь быўшай часткай Польшчы і думала, што ніякай ўласнай гісторыі Беларусь ніколі ня мела.

У параўнаньню з імі гістарычныя хоць і схэматычныя спраўкі безсонаўскай прадмовы вельмі карысна адрожніваюцца, і тое, што ён напісаў у 1871 годзе, нічым не зьмяніла і мала ў чым дапоўніла і пазнейшая і нават сучасная навука.

Веданьне беларускай гісторыі давала П. Безсонову права з патрэбным аўторытэтам застанавіцца над тым палітычным станам Беларусі, які ён знайшоў.

Уражэньня яго і думкі гэтак цікавы і так характэрны, што мы дазволім сабе зрабіць выпіску з адпаведных мейсц прадмовы больш шырокую.

Пасьля петроўскай рэформы далучаная да Расіі Беларусь уяўляецца П. Безсонаву якім-сь гістарычным „междоумкам“. Такім жа ён бачыў яе на ўласныя вочы ў 60 гадах мінулага сталецьця.

„Край палітычна і дзяржаўна зрабіўся зусім рускім, і ў гэтым ласьне палітычным разуменьню не перастае заставацца і абецае яшчэ доўга заставацца хворым мейсцам Расіі. Кожды, жыўшы ў краю ведае, як пры стрыманным палітычным супакою і бачным роўным ходзе спраў, адчуваецца штомінутна і на кождым кроку якое-сь непакойства, трывога... пры найменшым хітаньні ад злуднай роўнавагі пераходзіце безпасярэднa да пякучага палітычнага пытаньня“.

Дзякуючы гэтаму ў староннага чалавека:

„Мімаволі пры гэтым зьяўляецца думка аб месцовым сэпаратызме, як лёгічным выніку палітычнай няпэўнасьці, палітычнай неспакойнай хварабліваcьці. Але гэта не зусім так, на Беларусі німа сэпаратызму, а ёсьць толькі патрэба жыць сваім іншым ад цэнтру жыцьцём, дыхаць сваім нацыянальным духам.

„Сэпаратызм“, кажа П. Безсонаў, ва ўсім сьвеце разумеецца толькі ў палітычным значэньні: ня прыдзе ў галаву прытасоўваць гэтую назову там, дзе гаворыць асобная мова, творыцца свая народная творчасьць, вызнаецца іншая вера, дзеюць месцовыя сілы, грамадзянства развіваецца ў месцовым духу, адным словам кіпіць і дасканаліцца месцовае жыцьцё па за палітыкай.“

„Сусьпех і розквіт беларускі, хоць бы самы месцовы з месцовых, ніколі ня быў бы сэпаратызмам, наадварот, разам з тым сусьпехам быў бы рускім мейсцовым, а палітычная будучына Расіі лепш за ўсё была бы забаспечана ў самых астоях.“

„Наадварот, выключнасьць таго, што зусім не месцовае, а разам і не нагэтулькі агульнае, каб прырасьці да месцовага, ці замяніць яго, непасьледавацельнасьць сыстэмы і нестача плодатворнай арганізацыі, калі жыцьцё ўжо ні з якога боку нё кіпіць і не развіваецца, наадварот, таўчэцца у аднэй сумяціцы, а стыхіі ўсё-ж застаюцца на дне рожнародныя,—такое зьявішча, хоць бы не палітычнае гранічыцца з трывогай палітычнай, калі ў яе пераходзіць і пры найменшым хітаньні перэтвараецца ў запраўдны сэпаратызм.“

„Гэтак кажучы, німа калі жыць і развівацца ўсяму іншаму, калі дзеець адно палітычнае, да таго яшчэ аружнае, а не аружнае ваaружаецца чыноўнымі тэндэнцыямі, заўсёды на старожы, заўсёды чаго-сь баіцца, штосьці прасьледуе і карае, з чымсьці амаль неўхватным і няўгледным змагаецца да ўпадку сіл.“

„Калі,—канчае П. Безсонаў свае разважаньня,—ўвесь інтэрас ў скарупе, ўнутраннае зярно руйнуецца і сохне. Гэта ўжо не небаспека сэпаратызму, бо німа чаму сэпаравацца, а небаспека хваробы, цяжкой ампутацыі і сьмерці“.

У гэтых адрыўках, ня гледзячы на эзопаўскі характар стылю (да гэтага прымушала аўтора тэма, ў варунках мураўёўскага рэжыму далёка не спрыяючая), схавана многа здаровых думак. Так яно і было: Беларусь была хворым месцам Расіі за ўвесь доўгі час, калі была ей падбітай. Яна імкнулася стыхійна, можа не зусім выразна, не зусім акрэсьлена, але імкнулася да сваей ўласнай нацыянальнай самабытнасьці. Гэтае саматужнае, не прыметнае для простага вока імкненьне цягнулася векамі, паволі пад цяжарам нівэлючай расійскай дзяржаўнай машыны, спадаючы і пэраходзячы ў хранічную хваробу. Беларусь нацыянальна не паміpaрала, але і не жыла. Гэта быў гістарычны нацыянальны анабіоз, калі ўсе сілы,

ўся энэргія народу спынялася, не выяўляючыся ў актыўнай творчасьці, як бы чакаючы часу свайго ускросу. Жыцьцё Беларускага Народу было скалечана, але ня ўсе бачылі гэта. Каб бачыць гэта трэба было блізка стаяць да гэтага жыцьця, трэба было разумець душу народную, быць знаёмым з яго смуткамі і радасьцямі ў іх гістарычнай пэрспэктыве, наагул, мець ахвоту і здольнасьць убачыць тое, што ня бье ў вочы пры падарожы па Беларусі ў добрай карэце, але што жыве ў старой, далёкай ад гораду беларускай вёсцы, пад стрэхай селянскай курнай беларускай хаты.

П. Безсонаў убачыў гэта і зразумеў. I ня толькі зразумеў, але голасна сказаў аб гэтым. Ці зразумеў яго хто—іншае пытаньне; мы пэўны, што каму трэба было зразумець, той не зьвярнуў на словы П. Безсонава ніякай увагі, бо гэта ня ўходзіла ў пляны гаспадароў, седзячых на гарэ.

Трагічныя і прарочыя словы П. Безсонава аб небаспецы нацыянальнай сьмерці Беларусі былі асабліва патрэбны ў той час, калі мураўёўскі рэжым, разам са ўсім польскім, пачаў душыць і ўсё беларускае, калі край быў заціснуты ў ціскі „вайскова ахраннага палажэньня“, калі на Беларусь пачало зьлетацца груганьнё са ўсей Расіі, а „дзяржава і царква жадалі ўсюды пранікнуць і ўсё сабою замяніць“. Не дармо крыху пазьней этнограф Раманаў жаліўся, што „сельская паліцыя па загаду вышэйшай ўлады змагалася з народнымі беларускімі звычаямі, старымі ігрышчамі і інш., саджала ў халодную селян за народныя сьпевы, ў якіх гаварылася аб цяжкім жыцьці і дрэннай ўладзе“ і г. д.

Выхад з палажэньня П. Безсонаў знайходзіць ў тэй самай „народнасьці“, якая была прыдушана ўсесільнай дзяржавай, пры чым называе яе сваім уласным імянем „селянствам“. Разглядаючы Беларусь як быўшую дзяржаву, што стварыла і спраўляла сваім народам, і разважаючы над яе сумнай сучаснасьцю, аўтар прыходзіць да праконаньня, што „застаецца нанова што-небудзь тварыць з простага народу“.

„Дзяржава расійская, ўзяўшая на сваю адпаведальнасьць лясы краю, не магла не зразумець гэтага значэньня з першага разу пры апошнім крызісе: паднята і пушчана ў ход месцовае селянскае пытаньне, зразумела ў зьвязі з земляўласнасьцю і гэта corda rerus для цэлага краю. Калі яно пойдзе наперад сколькі небудзь без перашкод, дык па закону гістарычнай абавязковасьці само сабой высунецца наперад народ Беларускі, бо: „Ён жыў да сяго часу, як апошні, аснаўны, нераствараемы стыхійны элемэнт“.

Так уяўляў сабе П. Безсонаў беларускае пытаньне ў плашчыне палітычнай. Націск яго на селянства, як галоўны стан народу, на які павінна апірацца будучына Беларусі, зусім зразумелы. Так сама зразумела папярэджаньне, што нормальнае раэвіцьцё краю будзе адбывацца толькі пры варунку калі селянскае пытаньне будзе вырашана на Беларусі без перашкод. Бо трэба згадзіцца, што ў варунках старога, дарэформеннага прыгоннага быту Беларусь ніколі не змагла-б падняцца. Усе тыя спробы беларускага адраджэньня, якія рабіліся рукамі рамантычных памешчыкаў не маглі пайсьці і фактычна не пайшлі далей прыпеўкі аб добрых панох. Па істоце сваей да звольненьня селян беларуская справа не магла пайсьці шырока,—яна рабілася ня тымі рукамі. Ня дзіва і зусім натуральна, што ў 60 гадох, калі вызвольныя ідэі шырокай хваляй пракаціліся ў Расіі і шмат каго з інтэлігенцыі захапілі на чорную працу „ў народ“, на Беларусі не было нічога, што гаварыла-б аб тым, ці іншым еднаньні інтэлігенцыі з народам. Гэтыя годы прашлі для Беларусі без ніякага сьледу, хоць здавалася, акурат у гэты бурны пэрыод павінны былі наймацней узьняцца лёзунгі беларускага народнага адраджэньня. Асабліва ясна стане гэта нам, калі мы параўнаем тоя што тварылася

ў тыя часы на Украіне і на Беларусі—краінах у шмат чым зусім аналёгічных. Прычына—ў адсутнасьці ўласнай, з народу вышоўшай і з народам зьвязанай інтэлігенцыі, інтэлігенцыі жыўшай з народам хоць не ў аднальковых соцыяльных варунках, але гаварыўшай з ім аднэй мовай. Так званыя беларуска-польскія пісьменнікі шляхоцкай школы маглі даць толнкі тоя, што яны далі (глядзі М. Гарэцкі „Гісторыя беларускай літэратуры“); пасьля вызваленьня селян яны ня толькі нічога не маглі даць беларускаму адраджэньню, але і самі, як прэдстаўнікі пэўнага і адпаведнага грамадзкага сьветапагляду, пэўнага соцыяльнага ладу, павінны былі зьнікнуць. Будучына належала новым сілам.

Каб пагляд П. Безсонава на беларускую справу быў высьвятлен да канца, застановімся цяпер над разважаньнямі яго аб беларускай мове. Пасьля тых дэфірамбаў, якія ён прапеяў беларускай мінуўшчыне, беларускай нацыянальнай стыхіі—гэтак моцнай і гэтак творчай, пасьля яго справядлівых ссылак на беларускую пісьменнасьць, ствары́ўшую свой ўласны сьвет і гэтак глыбока ўплынуўшый на літэратуру расійскую, можна было-б спадзевацца, што ён вызнае за сучаснай яму народнай беларускай мовай права на вольнае развіцьце, ня толькі прызнае, але сам пойдзе яму на сустрэчу і дапаможа чым толькі мага.

Аднак мы гэтага не бачым. Разважаньня, якія мы знайходзім у Прадмове на тэму аб мове, сьведчаць аб адваротным. П. Безсонаў не вызнае сучаснай яму беларускай мовы, не бачыць ніякай будучыны для яе і нават адмаўляецца ад гутаркі на падобную тэму. Ці можа лепш, ён разумее гэтую будучыну так сама па свойму, робячы ў тлумачэньні свайго перакананьня якія-сь невыразные і незразумелые скокі думкі, пакідаючы за сабою цёмныя месцы. Пагляды яго ў гэтай дзедзіне цікавы для нас толькі нагэтулькі, насколскі знаёмяць нас з поглядамі на падобнага зьместу пытаньня расійскай стараны наагул.

Перш на перш П. Безсонаў робіць дарэмные спробы адрожніць паняцьце беларускай „мовы“ ад „нарѣчія“ мовы расійскай. Спробы канчаюцца на нічым, аўтар ўжывае мову беларускую і як „нарѣчіе племенной вѣтви“ і як „нарѣчіе общаго языка русскаго“. Разам з тым ён гавора аб „беларускай творчай мове, прычыніўшайся да вышэйшага творчага будаваньня“, націскаючы на слова „творчая“ і ўкладаючы ў яго які-сь асобны зьмест. Вельмі шкадуючы, што шмат якія беларускія словы з часам прападуць, што маладоя пакаленьне пачынае неразумець іх, П. Безсонаў гаворыць аб „адзінай мове для ўсей Беларусі“ і аб яе „гісторыі, граматыцы“.

Чароднае заданьне яго—давесьці, што слаўная беларуская пісьменнасьць аджыла свой век і не адродзіцца, а вусная мова павінна і будзе развівацца.

„Пісьменная мова беларуская адрожніваецца з самага пачатку ад старэйшай нашай (г. зн. расійскай), і гэта зразумела бо ня будзь гэтых адзнак,—не было-б Беларусі, з яе мовай, бытам, гісторыяй“. „Асобнасьці гэтыя мала па малу разрастаюцца і напрыклад пісьменныя памятнікі беларускія адыйшлі ад нашых у XVI веку вельмі далёка“.

Гэтыя цэнныя прызнаньня дапаўняюцца зазначэньнем: „ў старой пісьменнай мове беларускай ня ў меру больш акрэсьлянасьці і гукавой цьвёрдасьці, чым у сучаснай народнай гутарцы“ і што „доўгі час на ўсім вялікім заходным абшары ад Дзьвіны да Днепра ўглыб чужых старон пісьменная мова беларуская была адзіна жывой і роднай народу“, і нават, сьведчыць што ў часе яго побыту на Беларусі разгаворная мова асьвечанага, адукаванага грамадзянства, як напрыклад, гаражан, духавенства, памешчыкаў, чыноўніцтва і г. д. была пранікнута гэтай пісьменнай беларускай мовай, трымалася старой адзінааблічнасьці“.

Але факт стаўся—пісьменнасьць беларуская дзеля тых ці іншых прычын шчэзла і нанова ўзнікнуць ня можа. „Яна мае адно толькі мінулае, ў той час як прад вуснай мовай—ўся будучына“, цьвердзіць П. Безсонаў.

„З пад'ёмам селянства гэта вусная мова абецае яшчэ больш расьці і разьвівацца,—яна будзе пранікаць у гарады, ў жыцьцё грамадзкае, будзіць літэратуру, багаціць навуку, запладняць мастацтва. „Яна пойдзе далей—“ яна „осмыслитъ“ дзяржаўную ўладу: у каго ў руках слова народу, ў таго і думка і жыцьцё народу, ў таго рука ўладарная і завецца яна ўжо не кулаком, але кіруючай правіцай“.

Апошнія словы гэтак рашучы, ясны і праўдзівы, што яны маглі-б зрабіць чэсьць любому з сучасных беларускіх патрыотаў. Запраўды, хто валадае словам народу толькі адзіна той можа знайсьці шляхі да сэрца народнага, да яго пачуцьця, да яго думак, толькі адзіна той можа зразумець жаданьня народныя, пайсьці ім насустрач і збудаваць будучыну народу згодна гэтым жаданьням. Толькі той адзіна, хто разумее народ праз яго роднае слова, толькі той можа памкнуць народ на актыўны чын, на змаганьня і разам з тым на перамогу. Па за родным народу словам ляжыць холад непаразуменьня паміж ім і ўладай, ляжыць адарванасьць і арганічная варожасьць. Ляжыць тоя, што вядзе народ і край да хранічнай хваравітасьці.

Са ўсяго відаць, што П. Безсонаў добра гэта разумеў.

Але як разумее ён збаўчае „слова народнае“, як уяўляецца яму істнаваньне гэтага „слова“ ў жыцьці?

Адказ на гэтае пытаньне даюць па часьці тыя думкі яго, якія вылажаны вышэй аб „вуснай мове“ і, галоўным чынам, тыя цьверджаньня, якія ён робіць ў стасунку да новачаснай беларускай літэратурнай мовы і беларускай літэратуры наагул. Заявы яго ў гэтым пункце так сама ясны і рашучы, але на жаль і памылковы. Зрэшта, як будзе паказана ніжэй, падобныя цьверджаньня, выходзячыя ня столькі ад розуму, сколькі ад пачуцьця, не маглі быць у вуснах маскаля П. Безсонава іншымі, і таму нам німа чаго ім асабліва дзівіцца. „Слова народнае“, як хутка кажа ён, разумее ў самым вузкім, абмежаным значэньні, як слова селянства, слова неграматнага і непісьменнага чалавека. „Як хутка“, кажа ён, „мова вусная даходзіць да парогу пісьменнасьці, літэратуры, кніжнага адукаванага слова, тут яе рашучы руб і хоць не канец, але nec plus ultra, Беларуская народная мова ніколі ня будзе мовай літэратурнай, пісьменнай і кніжнай; ня здольна, ня ў сілах яна утварыць сёньня з ўласных элемэнтаў і пад ўласным імянем; страціла, згубіла той час, калі магла стварыць“.

„Калі селянін возьмецца за пяро“, цягне П. Безсонаў далей, „і будзе пісаць, ён з таго самага моманту будзе пісаць не па беларуску, а па расійску; калі толькі не абмежыцца дамовымі рахункамі і лістоўнай перапіскай“.

Заканчае П. Безсонаў свае развужаньня на гэту тэму формальным заклінаньнем:

„Прэдстаўнікі сэпаратызму павінны абезнадзеіць, ворагі яго могуць супакоіцца: ў Беларусі была польская літэратура кормленая месцовымі сокамі, дзеля таго што была чужая і толькі эксплёатавала. Беларуская-ж народная літэратура немагчыма ні ў сучасным, ні ў будучым“.

Як бачым, П. Безсонаў крэпка памыліўся ў сваіх прароцтвах. Памыліўся ласьне дзеля таго, што пачаў праракаваць датычна тых пытаньняў, якія належаць да найбольш няпэўных пытаньняў аб магчымых магчымасьцях

Каб вылезьці з круга супярэчнасьцяў, створаных аўторам Прадмовы ў адно-

сінах да „народнай творчай мовы, якой належыць ўся будучына“ і немагчымасьцю развіцьця беларускай літэратуры П. Безсонаў імкнецца развіць туманную тэорыю „общерусской“ літэратуры, якая пасьля ў пэўных модыфікацыях беларускаму грамадзянству добра знаёма. Мова ідзе аб „месцовай расійскай літэратуры“, павіннай ўзьнікнуць на Беларусі і карміцца крыніцамі беларускай нацыянальнай стыхіі.

„Калі ў край прынясецца гатовая літэратура з іншай стараны, яна ня выклічэ месцовай літэратурнай творчасьці, сярод так зв. адукаваных станаў, каторыя ў мове сваей, упадабаньнях, паняцьцях, выразах выхаваліся і вырасьлі на мінулай месцовай пісьменнасьці. Хоць бы прыносная літэратура менавала сябе „расійскай“, хоць бы імкнулася падрабіцца пад „беларускую“, ці зусім бы неправільна маскавалася „Белай Русьсю“, яе жыцьцём і формай, яна застанецца для месцовага жыцьця заўсёды чужой маскай і па меншай меры Велікарускай, магчыма Маскоўскай, як некалі яе называлі і па часьці называюць дагэтуль. Яна не адыграе ролі нават мінулай пісьменнасьці беларускай нават у вузкім яе значэньню, і хутчэй зойдзе пакінуўшы на месцы шмат менш ўплыву, чым тая. Гэта будзе прынесеная кніга, аркуш, папера, блянк—не жыцьцётворчасьць. Селянству асабліва яна будзе чужой, як з першага разу незразумелай, яна не падніме яго да далейшай, лепшай разумнай дзеяльнасьці“, дзеля таго, што „натуралізацыя, вядомая ў палітычным сэнсе, тут немагчыма“.

Па думцы П. Безсонава трэба падыйсьці з другога канца: „Трэба, каб расійская літэратура ўзьнікла тут на месцовых асновах, месцовымі пабудкамі і інтэрасамі, сіламі месцовых ураджэнцаў і дзеячоў, з жыцьця месцовага,—а гэткае толькі жыцьцё народнае: каб першае слова расійскай літэратуры пачалося тут з апошняга слова беларускага, выляцеўшага з вуснаў; каб гэта апошняе слова, гранічучы з самым першым літэратурным, належала месцовай мове ў народнай песьнятворчасьці... Тагды зьявіцца месцовы паэт, літэратар, вучоны, мастак для Краю і ўсей Расіі: як Гогаль-маларус, як Міцкевіч, Залескі і Сыракомля—літвінмаларус-беларус польскі“.

Гэткі быў ідэал П. Безсонава ў напрамку беларускай нацыянальнай культуры. Яму здавалася, што калі ён паўторыць дзесяць разоў ў рад слова „месцовы“, праскланяе яго па ўсіх падзяжох і „прыблізіць“ першае слова расійскае з апошнім беларускім—дык атрымаецца нешта новае і натуральнае. Яму здавалася, што ад мэханічнага змешываньня можна атрымаць хімічны сінтэз. І ўся роля Беларусі зводзіцца, па яго праграме, да абагачэньня коштам беларускасьці расійскай літэратуры, г. зн. да паўтарэньня спробы XVI-XVIII ст. і падараваньня Маскве свайго новага „беларускага Гогаля“.

(працяг будзе).

**Др. А. Цьвікевіч.**

# ПАСЬЛЯ ГЕНУІ.

Як і трэба было спадзявацца—вялікі генуэзкі парад дзяржаў, зроблены па жаданьню англійскага премьера, нікому, апроч можа быць яго самога, ніякай актуальнай карысьці не прынёс. Кіраўнікі ўсіх эўрапэйскіх і нават некаторых неэўрапэйскіх урадаў прасядзелі са сваімі дыплёматычнымі штабамі больш месяца у паўднёвым італьянскім горадзе, напханым праз сілу жандармэрыяй і войскам, змарнавалі час у мала патрэбных каму камісыях, непакоіліся ходам спраў у сваіх гаспадарствах, нэрваваліся і ўрэшце выехалі з тым, з чым прыехалі. Можна з пэўнасьцю сказаць, што задача конфэрэнцыі даць „мір-сьвету“ сплыла на нішто. Невялічкія зборнікі пастаноў транспортнай і фінансавай камісый ня могуць, зразумела, загладзіць уражэньня фіяско. Так сама і pacta non aggressiva выдзвінутыя больш для эфэкту, чым для істоты справы, ані не палепшылі становішча. У рашучай схватцы буржуазнага Захаду з камуністычнай Расіяй ні адна ні другая старана не захацелі пайсьці на ўступкі, дзякуючы чаму кождая засталася пры тым, што мела: захад-пры капітале, які зьядае самога сябе, ўсход—пры голадзе, бязтаварьі і безнадзейнай гаспадарчай руіне. Кождая старана парашыла пакуль што чакаць, спадзяючыся на ўласныя сілы і робячы la bone mine a mauvais genre. Калі не лічыць нямецка-савецкага дагавору ў Рапальлё, мала ўплыўшага на палітычную сытуацыю Эўропы—ўсё засталося па старому.

У стасунку да беларускага пытаньня на Генуэзкай конфэрэнцыі можна адмеціць два важных моманты. Першы момант—гэта разгляд мэморандума беларускай дэлегацыі і другі-спрэчка аб дзяржаўнай прыналежнасьці Вільні.

Мэморандум Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі разглядаўся ў камісыі, аргуманты прэдстаўнікоў Беларусі былі заслуханы ўважліва і сябры камісыі дэтальна азнаёміліся як з палітычнымі імкненьнямі беларускага народу, так і з яго сучасным эканамічным становішчам. Аднак пытаньне аб вызнаньні незалежнасьці Беларусі, пры тых варунках, якіе маюць месца на ўсходзе Эўропы, не магло быць па пастанове камісыі вынесяна на конфэрэнцыю. У аднальковым становішчы з Беларусьсю была прэдстаўлена на конфэрэнцыі Украіна і Галічына і па часьці Грузія, і справа Беларусі аказалася гэткім чынам неўнікнёна зьвязанай са справай памянёных краін. Стасункова становішча беларускага пытаньня магло быць лепшым, дзякуючы таму, што ў ім неўнікнёна стыкаюцца арганічна варожыя расійска-польскія інтэрасы. Але гэтая стасунковая выгоднасьць абярнулася ў Генуі не на карысьць Беларусі; ні Расія ні Польшча не хацелі рызыкаваць абаронай гэтых інтэрасаў, што магло бы прычыніцца пагоршаньню іх пазыцый і дзеля гэтага сьвядома ўхіліліся ад магчымасьці застанавіць увагу конфэрэнцыі над пытаньням аб сваіх граніцах. У данным здарэньні мела месца сваей адмены расійска-польская перастрахоўка, пры чым Польшча замаўчывала шкадлівую для яе гвалтоўнасьць Рыжскага трактату, а Савецкая Расія—набывала прызнаньне зусім сучаснай дзяржавы, якая датрымлівае свайго слова. Гэткая маўклівая перастрахоўка двох пераможцаў, збудаваўшых свой супакой на замучаным целе Беларусі і зьявілася галоўнай прычынай таго, што беларускае пытаньне на пленуме конфэрэнцыі не было паднята.

Другім момантам, калі пытаньне аб Беларусі магло быць закранута, калі не ва ўсей шырыне, дык хоць у часьці, быў момант барацьбы за Вільню.

Яшчэ да пастаноўкі віленскага пытаньня на чарод конфэрэнцыі ў сфэрах, блізкіх да англійскай дэлегацыі, паўстаў праект акрэсьліць лёс зямель, лежачых

паміж так зв. „лініяй Керзона“ і лініяй рыжскага міру. Думка гэтая сярод сяброў канфэрэнцыі была вельмі популярнай, дзеля таго што большасьць з іх стаяла на пункце погляду непрызнаньня рыжскага трактату і разам з тым лічыла, што тэрыторыяльныя прэтэнсыі Польшчы ня могуць на ўсходзе сягаць далей памянёнай керзонаўскай лініі. Згодна праекту справай гэтага пасу зямель павінна была заняцца адпаведная калегія прэдстаўнікоў вялікіх дзяржаў, разам з прэдстаўнікамі зацікаўленых суседзяў. Тут павінны былі быць сабраны ўсе матэрьялы аб гэтым пытаньні, тут павінны былі быць выслуханы прэдстаўнікі тых народаў, якіе ў гэтым пасе зямель ад Дзьвіны да Сана жывуць.

Прыймаючы пад увагу, што магчымасьць вырашэньня керзоно-рыжскай проблемы была вельмі рэальнай, беларуская дэлегацыя, ў мэтах барацьбы супроць польскіх дамаганьняў, падала конфэрэнцыі спэцыальную запіску аб тым, як глядзяць на гэтую справу беларусы. Згодна пастановам Віленскага Нацыанальнага Камітэту і ў духу папярэдніх крокаў Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі ў Жэневе і Бруссэлі, ў запісцы было зазначана, што беларускае жыхарства віленскай зямлі імкнецца вырвацца з-пад польскай окупацыі і што становішча Віленшчыны можна будзе лічыць нормальным толькі тагды, калі яна будзе далучана да Літвы. Перадача Віленшчыны Літве павінна адбыцца на адпаведных варунках, гарантуючых інтэрасы беларускага жыхарства як асобнага народу, пры чым выкраіваньне з беларускіх абшараў аднэй Вільні і абезгалоўленьне гэткім чынам гэтых абшараў прызнавалася шкодным; згодна заяве аб‘еднацца з Літвой павінны былі тые тэррыторыі, якіе зьяўляюцца эканамічна залежнымі ад Вільні. Аднак, ня гледзячы на агульна спрыяйнае палажэньне Літвы на Генуэзкай конфэрэнцыі і на тые сымпатыі, якімі карысталася яна сярод большасьці сяброў канфэрэнцыі, пытаньню аб Вільні і разам з тым пытаньню аб беларускіх землях, захопленных палякамі, на жаль ня суждана было вырашыцца, Літоўскай дэлегацыі удалося падняць віленскае пытаньне тагды, калі савецкія дэлегаты адмовіліся прыняць ультыматум саюзьнікаў, што прычынілася развалу конфэрэнцыі. У апошні момант ні ў каго не было жаданьня разглядаць частковыя пытаньня усходу Эўропы пры варунку, што агульнае пытаньне сарвалася. Выдзяліць пытаньне аб Вільні як зусім самаістае і разважаць над ім незалежна ад агульна-расійскага пытаньня было нельга, тым больш, што неўдача конфэрэнцыі была прызнана і большасьць прэдстаўнікоў ужо зьбіралася дамоў.

Тое, што Беларусь не магла на Генуэзкай конфэрэнцыі зьвярнуць на сябе ўвагу нагэтулькі, каб дабіцца вырашэньня сваей долі, ня можа нікога зьдзівіць і нікога ня можа абразіць. Сьвядомыя сваіх сіл не ўскладалі на шумны конгрэсс ніякіх асаблівых надзей. Тое-ж нашто мы спадзяваліся, тое, чаго мы жадалі дабіцца—тое асягнута.

Тое, чаго трэба было дабіцца, а ласьне, таго каб голас Беларусі быў на конфэрэнцыі дзяржаў чутны, так сама асягнута. Само сабой зразумела, што ступень сілы заяў беларускай дэлегацыі адпавядала ступені сілы беларускага руху. Але заявы былі зроблены, яны былі выслуханы і як прэсса, так і палітычныя колы, якім ведаць належыць лішні раз сцьвердзілі, што ў шэрагу іншых небаспек на ўсходзе, турбуючых жыцьцё Эўропы, ёсьць небаспека, выкліканая ненормальным становішчам Беларусі.

Конкрэтныя асягненьня Дэлегацыі Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі следуючыя:

1. На конфэрэнцыі праверана і прызнана легальнасьць прэдстаўніцтва Беларусі: Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, рэпрэзантаванага Старшынёй рады Міністраў грам. Ластоўскім.

2. Сцвержана што беларускае пытаньне ёсьць безсупярэчна міжнароднай справай і што яно павінна быць вырашана міжнародным шляхам.

3. Што вырашэньне беларускага пытаньня ёсьць адна з астой угрунтаваньня трывалага міра на ўсходзе Эўпропы, а такжа незвычайна важным з увагі на устаноўленьне граніц Усходу.

З другога боку мы спадзяваліся, што конфэрэнцыя ў Генуі не зацьвердзіць дамаганьняў Польшчы, падзелу Беларусі, зробленага Рыжскай умовай. І мы з поўнай адказнасьцю можам зазначыць, што Польшча ў гэтым кірунку пацярпела яскравае паражэньне: як і да генуэзкай конфэрэнцыі, так і пасьля яе—справа ўсходных граніц польскае рэспублікі застаецца ня вырашанай, і рыжскі трактат не набыў сілы агульна прызнанага міжнароднага акту. Маўклівая перастрахоўка, аб якой мы казалі і той факт, што конфэрэнцыя не перэглядзела сучаснага status quo дае некаторым польскім палітыкам повад для таго, каб заяўляць, што конфэрэнцыя зацьвердзіла гэты статус. Але кождаму ясна, што падобнае заяўленьне пярэчыць здароваму сэнсу і што гэта так ласьне і ёсьць, паказвае адстаўка польскага прэдстаўніка ў Генуі—міністра заграні́чных спраў Скірмунта.

Непрызнаньне Рыжскага трактату і неўстаноўленасьць польскіх граніц факт-аб каторым ні ў якім здарэньні ня трэба забывацца. Аб гэтым цяпер, пасьля Генуі, ня трэба забывацца асабліва дзеля таго, што ў заключыцельных дзеях конфэрэнцыі меў месца факт, вельмі характэрны і назвычайна важны для ўсей справы адносін на ўсходзе. Мы маем на ўвазе адмову Літвы падпісаць pacta non aggressiva. Тлумачэньне, што падпісаньне гэтае умовы сукосна сьведчыла-б згоду Літвы на захопленьне Вільні палякамі, трэба прызнаць зусім слушным. Разам з тым трэба разумець, што падобнае непадпісаньне яшчэ лепш як незацьверджаньне рыжскага трактату сьведчыць, што сталых адносін паміж нашымі суседзямі яшчэ німа. Непрызнаньне рыжскага трактату знача, што паміж Савецкай Расіяй і Польшчай німа цьвёрда замацаваных дзяржаўных граніц і што гэткім чынам ня ўсё паміж імі скончана: а непадпісаньне pacta non aggressiva Літвой значыць, што такі-ж стан неакрэсьляннасьці, незакончанасьці варожасьці трывае паміж Польшчай і Літвой.

Пасьля Генуі стала ясна, што да запраўднага міру, да запраўднага нормальнага жыцьця—яшчэ далёка. Рахункі на ўсходзе яшчэ не падлічаны, дзяржаўныя будовы яшчэ не збудаваны. Для нас, беларусаў, чакаючых свайго часу, сьвядомасьць такога становішча павінна мець выключнае значэньне. Яно прымушае нас прызнаць, што задачай сучаснага моманту зьяўляецца для нас не прытасаваньне да існуючых у гэты момант варункаў, але неўнікнёнае і непахітнае імкненьне да тэй самай праграмы, якая стаяла прад беларускім грамадзянствам у першыя дні яго працы.

Калі сталага парадку яшчэ німа, калі Беларусь яшчэ не замуравана сьценамі варожых дзяржаў—ей трэба йсьці не на ўслужэньне гэтых дзяржаў, а на магчымую барацьбу з імі. Трэба старацца не ўзмацовываць гэтыя муры, ня быць цэмэнтам для іх, а руйнаваць іх у меру сіл, быць таранам, які іх валіць.

Рабіць іншае—знача не разумець таго, што ёсьць.

**Ів. Яцьвяг.**

# Над сьвежай магілай.

Панаваньне палякаў на Беларусі з іх сыстэмай дзяржаўнага кіраўніцтва— грабежамі, пабоямі, хабарніцтвам, данінамі, прасьледаваньнем нацыанальнага і рэлігійнага характару, а асабліва каланізаваньне беларускіх зямель—па соты раз—ізноў папхнулі селян беларусаў да зброі.

На гэты раз, як і раней, за зброю ўзяліся найбольш чуткія, найбольш любячыя сваю шэрую, апранутую ў польскую арэштанцкую вопратку зямлю, і свой задушаны, зьне떠ажаны бедны, цёмны, селянскі народ.

Што дзень пазваняючы кандаламі няволі, што дзень гнучыся ў рабстве, моўчкі прыймаючы зьдзекі і паняверку, сьледжаныя і прасьледаваныя, ня пэўныя істнаваньня, яны ў снах сваіх нявольных, у думах глыбока таёных і пільна скрываных, імкнуліся край свой бачыць вольным, спакойным, без абражаючых гонар людзкі кандалаў няволі.

І ведзеныя прыгожымі думамі, хацелі грудзьмі сваімі засланіць народ ад зьдзекаў і паняверкі, а край сваімі слабымі сіламі вызваліць ад чужацкага ненавіднага спрута, заскарузшага крывёй беларускай.

Пачалі зьбірацца ў грамадкі ахвярна і багатырска, слаба узброеныя, нападаць на ўдзесяткі тысяч разоў сільнейшага ворага, з мэтай выгнаць яго з краю. Разам з тым стараліся ў меру свайго разуменьня і магчымасьці бараніць народнае дабро; у першую чаргу рабілі захады, каб перашкодзіць вывазу лесу з Белавежскай пушчы.

Паміж чысьленых груп партызанаў выдзелілося некалькі імён-псэўдонімаў: Скамарох, Чорт, Пугач і інш. Старшыя, больш дасьведчаныя, яны стараліся аб'еднаць ўвесь гэты ахвярны рух, прыдаць яму больш стройнасьці і сілы.

Чыннасьці партызанаў пачаліся ў Красавіку гэтага году на ўсёй тэрыторыі Горадзеншчыны, а перэважна ў заходнай яе часьці. Выступленьне партызанаў выклікала ў Польшчы, асабліва на забраных землях, вялікую трывогу. Тым больш, што партызаны здужалі перасланць Начальніку Польскай Дзержавы Пілсудзкаму ульціматум.

Польская прэсса, скрываючы праўду, намагалася ахарактэрызаваць чыннасьці беларускіх паўстанцаў, як разбойніцкія напады. Старалася гэты адважны акт змаганьня ўтаптаць у гразь. Цалком прыняла тактыку, практыкаваную ў свой час ў стасунку да іх саміх Мураўёвым-вешацелям.

6 травеня 2 палкі рэгулярнага польскага войска, жандармэрыя і паліцыя, мобілізаваная з усяго воеводства ды падмацаваная прывознай з Польшчы, акружылі Белавежскую пушчу, дзе быў штаб і захапілі 19 душ партызанаў: К. Ігнатовіча, І. Бакуновіча, І. Черашкевіча, Т. Нікановіча, В. Давідовіча, С. Гапановіча, А. Тамашука, І. Захарчука, І. Сахарчука, В. Тамашука, Я. Іванюка, П. Нічыпарука, І. Пітулюка, Д. Мартынюка і др., усяго 19 душ. Рэшта здолелі вымкнуцца.

24 травеня адбыўчя ў Беластоку суд. Абаронцам па назначэньню, выступаў адвакат Славінскі. Ворагі судзілі і свайго брата назначылі абаронцам.

Аднак і ворагі сьцьвердзілі на судзе, што „прошлае ўсіх падсудных бездакорнае, ніхто з іх ніколі ня быў ні западозран ў чым благім, ні быў пад судом". Паводле слоў выстаўленага ворагамі абаронцы ўсе яны „в е р ы л і, ш т о б е л а-

русы павінны быць народам незалежным, а край іх дзяржавай самаістай“.

Окупанцкі суд прыгаварыў: Андрэя Тамашука, Івана Сахарчука, Івана Пітулюка, Дземьяна Мартынюка і Панцялея Нічыпарука пакараць сьмерцьцю, праз разстрэляньне. Васіля Тамашука на дажывотную катаргу, рэшта—на доўгую катаргу, да 10 гадоў.

Абаронца тэлеграфаваў Начальніку Польскай Дзяржавы Пілсудскаму, просячы уласкаўленьня для засуджаных. Пілсудзкі „уласкавіў“ толькі аднаго П. Нічыпарука, з увагі на яго моладасьць (19 гадоў).

Не паўстанцы прасілі ласкі у жострасэрдага ворага, а воражы зьдзек, самавольна гэта ўчыніў. Засуджаныя не чэкалі ад ворага пашчады.

Рэшта 4-х разстрэлялі ў Беластоку 24 травеня а 4 гадзіне 50 м. у дзень. Параненых карабіннымі выстрэламі, дабіваў польскі афіцэр, падыйшоўшы у сутыч з рэвальвэрам ў руках.

Разтрэляных, ацекаючых крывей, тут-жа паўкідалі ў дрэўляныя дзіравыя скрынкі, імітуючыя труны, і вязьлі праз увесь Беласток, і сьвежая кроў цекла, паліваючы гарадзкія вуліцы...

На табліцах нашай многапакутнай гісторыі ўпісаны яшчэ чатыры імёны лепшых сыноў, паліўшых родную, так горача каханую імі зямельку, сваей крывей.

Яны стравілі, згнятлі сваё цела, кінулі яго, як завяўшый квет на ахвярны аўтар за сьвятую справу адраджэньня дарагой Бацькаўшчыны. Умiралі з імянем яе на вусах.

Цела забіта, пашматана катамі, але дух іх мучаніцкі, змагарны, жыць будзе паміж нас.

**Ю. В.**

* * *

Благаслаўлен сын,
які за Маці чэсьць
гатоў да бітвы стаць небарна:
свабоды дзень для ўсіх
сваей крывей
купіць ахвярна.

Благаслаўлен муж, каторы мсціць
зьневагу праў грамадзкіх
і сьлёзы ўдоў.

Благаслаўлен будзь, каторы
Адплату кроўю дасьць за кроў
І ворага прымусіць
Імя Беларусі
Чціць...

Хай прыйдзе ён, як Бог,
Адзет у помсты тучу:
Пад громаў гук, маланак блеск,
Пад славы песьнь пявучу!

**Власт.**

# Нацыянальнае адраджэньне ў савецкай Беларусі, ці нацыянальна-расійскі абцас?

**(Допісь коррэспадэнта)**

Хоць зрэдку і з вялікім спазьненьнем, але прыходзяць такі і да нас газэты з Савецкай Беларусі. Перш за ўсё не мала нас дзівіць тое, што ў сэрцы тк. зв. „Рэспублікі Беларусі“, ў старым беларускім Менску наша пэрыадычная прэса прадстаўлена толькі аднэй штодзённаю газэтаю „Савецкая Беларусь“, у той самы час калі расійская прэса мае—аж 5 пэрыадычных часопісаў.

Адзін гэты факт можа стварыць заграніцай апінію, што ў Савецкай Беларусі лічэбную і культурную перавагу маюць маскоўцы, а беларускі народ зьяўляецца такой жа нацыянальнай меншасьцю як палякі і жыды. Ня гледзячы на ўрачыстыя пастановы Усебеларускіх Зьездаў і Беларускага Ц. П. К. аб беларусізацыі ўсіх школ і ўсіх дзяржаўных устаноў, аб чым у свой час пісалася ў менскіх газэтах, у нас тут, ласьне, і ходзяць апошнімі днямі чуткі, што ў Маскве парашылі лічыць на тэрыторыі Савецкай Беларусі беларусаў за нацыянальную меншасьць, на кшталт таго, як гэта зроблена ў Віленшчыне і Горадзеншчыне палякамі. Што-ж, ад „таварышоў“ Радэкоў і К-о, што маняць на ўвесь сьвет аб вызнаньні імі права самаазначаньня нацый і ў той жа момант іронізуюць над „самаазначаньням Пінскіх балот“—большага чакаць нельга. Але пакінем прыкрыя чуткі—ці маюць яны якую падставу ці не, пакажа жыцьцё; паглядзімо, што пішуць у беларускай савецкай газэце. Чырвонаю ніткаю праходзіць жальба ня цяжкае эканамічнае і культурнае становішча беларускага народу: ўсе высілкі эканамічных і культурна-прасьветных працаўнікоў на мейсцох нязьменна разьбіваюцца Масквой, якая не зацьверджае каштарысаў менскай ўлады і гэтым простым спосабам засуджае ўсю арганізацыйную працу заставацца на паперы ў добра апрацаваных і са ўсіх старон абмяркаваных рэзалюцыях. „У зьвязку з нэпо шпаркім тэмпам ідзе ліквідацыя беларускіх школ па вёсках і мястэчках; вучыцялі і вучыцялькі яшчэ незліквідаваных школ пішуць ў газэту карэспандэнцыі, дзе проста кажуць:“ „нас пры новай сыстэме чакае жабрацтва, калі дзержаўныя установы пакінуць матэрыяльна падтрымоўваць нас“.

Газэту беларускую можна сустрэць толькі ў гарадох і мястэчках у офіцыяльных установах, а вясковае жыхарства жыве чуткамі.

Як ідзе і якіе перашкоды сустрачае культурна-адраджэнская праца, найлепей паказваюць артыкулы „Савецкай Беларусі“, абгаварываючыя гэтае пытаньне. Ось для прыкладу артыкул лектара беларусазнаўства ў Слуцку.—„Культурнае адраджэньне ў Случчыне“ (№ 68—473).

Пачынаючы свой артыкул словамі публіцысты Канчара, які гаворыць, што „марна антаганісты беларускае мовы цкуюць яе і гатовы ставіць новыя рагаткі на шляху яе разквіту“, аўтар артыкулу прыводзіць словы з ліста аднэй вучыцялькі беларускай школы, з чаго відаць якую моцную сьцяну расійшчыны трэба прабіць нашай вясковай нараджаючайся школе і як многа расійскіх рагатак трэба усунуць з нашага шляху. Безнадзейна адзічэўшая ў правінцыяльным балоце выхаваніца эпархіальнай школы піша: „считаю себя счастливой, что не знаю и не учу этого простого і грубаго языка но несчастна, что дѣти, вмѣсто звучнаго краснваго русскаго языка, учатъ о какихъ-то вушшох“, „кароўках“. „Жаль мнѣ ихъ, что они коверкаютъ язык. Неужели вы находите въ немъ что нибудь пріятнаго, хорошаго. Ни одному здравомыслящему человѣку не можетъ нравиться такой противный языкъ.“

Вельмі слушна аўтар артыкулу адносіць гэтую вучыцельку да „сорту людзей“, якія культуры ня твораць, дый ня ведаюць, што такое культура; але трэба было-б парадзіць ёй хутчэй выязджаць з Беларусі ў Тульскую губ., бо шмат такая асоба наробіць шкоды прымушаючы ў школе дзяцей пераказываць нашу мову на „звучны красивый русскій языкъ“. Беларуская асьвета толькі выграе, калі „гэтага сорту людзі“ як найхутчэй выберуцца з Беларусі. Асобным людзям, праўда, яшчэ магчыма параіць, але вялікае пытаньне: што рабіць с мясцовай уладай, „якая мала таго, што стаіць ў старане ад беларускага культурна-адраджэнчага руху, але як мага рупіцца перашкодзіць яго розквіту, зьнішчыць маладзенькія насёнкі культуры беларуса і тым самым ўкідае беларускі народ у процьму духоўнай посушы. Мала таго, што робяць самі, дык яшчэ нацкоўваюць сваіх ваўкадаваў на культурных дзеячоў старонкі“. Добрая беларусізацыя, што і казаць!

Другая палова цікавага артыкулу—гэта жальба на мяйсцовую ўладу і на ўсе палітычныя і культурна-асьветныя ўстановы.

„Хто-ж ня ведае, што значыць працаваць, калі мясцовая ўлада не дае магчымасьці“.

Што гэта? Мабыць гісторыя беларускага адраджэнчага руху адкацілася да нашаніўскага пэрыаду, калі губэрнатарская ўлада спыняла нашу нацыянальную працу як шкодную і небасьпечную.

„А дзе-ж у Слуцку культурныя установы адпаведаючыя часу. Дзе гурткі?“—пытаецца аўтар далей.—„Есьць праўда, Камуністычны Хаўрус Моладзі. Але што ён робіць? Дзе яго працай якая яна? Ня гледзячы на сучасную назову, у ім забыты лёзунгі жыцьця, забыт беларускі народ, яго культура, але затое **пануе агіда да ўсяго месцовага, да душы беларускага народу**: ці-ж гэта шлях да інтэрнацыяналу, да запраўднага хаўрусу нацыяў. Дзе беларускі рабочы клюб, каштарыс на які зацьверджаны Аддзелам Народнай Асьветы... Чаму Паліт. Асьвет. не папрупіўся яго адчыніць, калі ўсё падрыхтавана к адчыненьню. Хіба праца яго адно на паперы: задумаць, зацьвердзіць чырвоным атрамантам „ды кончана“. Ці можа забыўся аб гэтым Беларускі Пададдзел Нарасьветы, зьбіраўшыйся да кананьня (!) пасьля скарочаньня штатаў?. А што робіць Поветовы партыйны Камітэт? Чаму ён не паклапаціўся прылучыць да сябе культурных дзеячоў беларускіх, выкаваць з іх заядлых камуністаў, калі ён лічыць іх за белагвардзейцаў ды зоркім вокам сьцеражэ іх працу. А дзе-ж схаваўся Выканаўчы Паветовы Камітэт Случчыны, гэта галава ўсяго жыцьця павету. Дзе яго голас і які ён? Дзе яго вочы і вушы? Няўжо асьлеп і ня чуе, ня бачыць, што робіцца навокал яго? Ці яму німа дзела да культурна-адраджэнскай працы ў Случчыне? Мусіць не разумее ў гэтым патрэбы ды **баіцца яе (!?)** ды **сьціха робіць напады на гэту працу**“... „І вось я, як грамадзянін клічу:„—**Не перашкаджайце працаваць, незабараняйце адчыняць** нашых культурна-асьветных устаноў не лічыце нас контр-рэвалюцыанерамі, бо мы ня контр-рэвалюцыанеры. Не тварыце гібелі беларускаму пролетарыату і селянству“.

Якая бязпомачнасьць зычыць у апошніх словах аўтара! Чытаючы іх, нам, маючым магчымасьць сурьёзнай культурна-адраджэнскай працы, здаецца, што гэта артыкул „Нашай Думкі“, часоў самых шалёных нападаў польскай ўлады на беларускі рух, часоў беларускіх пагромаў у Віленшчыне і Горадзеншчыне.

Цяпер ўсё ясна. Замест нацыанальнай працы ў Савецкай Беларусі мы бачым як нацкаваныя з Масквы мясцовыя „ваўкадавы сьціха робяць напады на культурна-адраджэнчую працу“. Замест эканамічнай і маральнай падтрымкі расійскага цэнтру на нашай бацькаўшчыне пануе маскоўскі абцас і поўны ненавісь-

ці і агіды да беларускага народу і яго мовы і душы, топчэ нашу культуру.

Расійскія культуртрэгеры, трэба думаць, у сваім стараньні зьнішчыць „этотъ противный и грубый язык“ хутка пяройдуць ад нападу з-за вагула да адкрытай барацьбы з „беларускім засільлем“ і чужацкі абцас націсьне на беларускае горла, залічыўшы ўвесь наш адраджэнчы рух у контр-рэвалюцыйны.

Факты беларускага жыцьця пад расійскай акупацыяй, якіе гэтак абурываюць дзеяча з Случчыны і даводзяць яго да роспачы, безумоўна болесна адчуваюцца намі. Але разам з тым яны пераконываюць нас вось у чым: тк. зв. „усходняя орыентацыя“, орыентацыя на Маскоўшчыну ўступіла ў фазіс разчараваньня і далей гэтае разчараваньне пойдзе crescendo і перажыве ўсе пэрыоды кананьня, як гэта мы бачылі з заходнай орыонтацыяй.

Чым хутчэй-тым лепей!

**Peritus.**

---

# Агляд прессы.

**Польскія крозы, мары, лятуценьня.**

Уся польская прэса на покліч арцыбіскупа Грыневецкага: „Niech bębzie pachwalony Jezus Chrystus“, разам з Віленскім „Соймам“ адгукнулася: ,,па wieki wiekow. Amen“ і ва імя Усемагутнага Бога (так пачыналася дэкляірацыя Віленскага Сойму аб прылучэньні краю да Польшчы) пачала катаваць, як у пэрыод сьвятой інквізыцыі беларускі народ.

Ня толькі штодзенная прэса Варшавы, Вільні, Кракава і Львова, не выключаючы „Robotnika“ і „Naprzód“, але нават і прэтэндуючыя на навуковыя часопісі-тыдневікі і штомесячнікі—гостра павялі атаку на беларускі народ.

„Straž nad Wisłą“ штомесячнік пасьвячоны справам народным, мастацкім і культурным у № 1 за жнівень месяц 1921 г. на французскай мове дае малюнак вялікай Польшчы „Вільня, Львоў, Данцыг, Браслаў,“ дзе з лёгкай іроніяй адкідаецца факт істнаваньня беларускага, украінскага, і літоўскага народаў, а також Галічыны (стр. II).

Там жа знаходзім артыкул аб Віленскім Унівэрсітэце старых векаў, з якога відаць, што усё, што мае добрага ў навуцы, пісьменстве і дзяржаве—усё выйшла з Вільні. Беларускія і літоўскія рэнэгатыстала лепшымі людзьмі ў Польшчы, бо сама Польшча апрыч гуляшчай шляхты нічога не давала. Разумееца рэнэгаты былі лепшымі людзьмі, бо пераменялі і куплялі тое, што было больш здольнага і лепшага. Звычайных людзей ня было сэнсу заклікаць да сябе.

„Bandera Polska“ ў васьмі нумэрах за 1921 г. імкнецца да стварэньня польскай флёты і хочэ мусі зрабіць канкурэнцыю Ангельцам, але як звычайна бывае ў Польшчы далей Цопоцкай рулеткі ня пойдзе і ніколі ня створыць сабе порту на балтыцкім моры.

Для нас важна, што і тут усё будуецца на беларускіх водных шляхах. „Водныя шляхі на крэсах ўсходніх“ артыкул інжэнера Романа Інгардына, дае праэкты каналаў, злучаючых Польшчу з Чорным і Балтыцкім морам, але забывае, што ўсе яны павінны будуць йсьці праз беларускую тэрыторыю і ня ведаю, ці пры такіх стасунках, якія ёсьць цяпер паміж Беларусьсю і Польшчай—магчыма будзе вандраваць польскім параходам.

„Tydzien Polski“ у № 9. Пан Ледніцкі ў выкладзе „Polska i odbudowa Rosjii“ дакладам прачытанным у кракаўскім эканамічным таварыстве намаляваў досыць жудасны малюнак палажэньня Польшчы. Мы ня можам адбудовываць Расіі, бо нічога не маем, нам трэба адбудовывацца

самім, бо скрозь у нас руіна. Але сэнс усяго яго выкладу такі, што мы самі, хоць і ня можам адбудаваць, але павінны прымазацца да вялікіх дзяржаў і скарыстаць момант, бо мы маем простыя дарогі да Масквы і да Адэсы.

„Шлях—Данцыг, Варшава, Баранавічы, Менск вядзе ў Маскву, а Данцыг-Варшава, Люблін, Львоў, Падвалочыск у Адэсу. Гэныя транзітныя шляхі трэба ўзяць ў свае рукі і, разумеецца, на іх можна зарабіць“.

Адно забывае П. Ледніцкі, што ізноў жа гэтыя транзітныя шляхі ідуць праз увесь абшар беларускай і украінскай тэрыторыі.

Усе гэта, кажэ п. Ледніцкі, было-б нішто, каб не страх і перад немцамі і перад расійцамі і ссылаецца на дастойніка ў Рыме, які сказаў яму: „Расія выйдзе з занепаду і немцы паўстануць адраджонымі“.

Артыкул „Spór o stosunek do Rosji“ у № 10 таго-ж журналу, дзе Людвік Кульчыцкі разкрывае таемніцу Ледніцкага. Ен кажэ, што немцы ніколі не пагодзяцца са Шлёнскім карыдорам і Данцыгам, а таму з немцамі згоды ў нас ня можа быць. Наадварот для Расіі ня будзе вялікай страты, калі яна ўступіць нам Заходную Беларусь з Віленшчынай, Холмшчыну, Валынь і Галічыну,—разумеецца, тады і тавары для адбудовы Рассіі пан Ледніцкі павязе проста ў Маскву і Адэсу, але пан Кульчыцкі баіцца, што паміж польскім грамадзянствам ёсьць напрамак, як напрыклад газэта „Czas“ якая вымагае для заспакаеньня Эўропы, асабліва яе ўсходу, вызнаньня беларускай і украінскай дзяржавы. Мы павінны дабіцца, кажа Кульчыцкі, каб ня толькі Савінкаў, але і у с е расійскія г р у п ы вызналі наша права на гэтыя тэрыторыі.

Далей пачынаецца абаламучываньне грамадзкай эўропэйскай апіньніі на падставе нібыто гістарычных фактаў:

Украінцам ня можна даваць незалежнасьці, бо яны ад нас адбяруць Галічыну, кажэ Кульчыцкі і больш доказаў ніякіх не прыводзіць.

Што датычыцца Беларусі, то ён кажа: Гутарка-ж і пісаньне цяпер аб дзяржаўнасьці беларускай ёсьць палітычнай паіўнасьцю. Беларусы ня мелі ніколі і цяпер не маюць патрэбных задаткаў ня толькі да утварэньня асобнай дзяржавы, але і да ўтварэньня нацыі.

Літва хоць істнуе, але Віленшчына ніколі ня будзе Літоўскай. Выбары нібыто ў „Сойм“ паказалі слабасьць народу.

Праўда слабасьць была, але польская, бо каб не штыкі Жэлігоўскага і жандары з ксяндзамі і біскупамі, то Сойму і не было-б. Але выбары ўжо ўсім добра вядомы, дэлегаты Сойму не вылазіўшы з вагонаў, як гэта рабілі і пры выбарах, паехалі з Варшавы да дому і аб іх не варта гаварыць.

Доказаў фактычных ніякіх німа. Кульчыцкі ўнікае назовы ня толькі беларускае, ці украінскае дзяржавы, але нават тэрмінаў—Беларускі і Украінскі народ.

Калі самаазначаньне народаў і іх імкненьня да сваей дзяржаўнасьці, можна назваць „палітычнай наіўнасьцю“. то я пазволю сабе на тых жа падставах і стварэньне Польшчы назваць глупствам. Бо што-ж гэта за дзяржава, калі яна жыве і бурыць сваімі войнамі і імпэрыялізмам сьвет за кошт чужых народаў, якіх захапіла. На Беларусі і Украіне рэквізуе хлеб і рабуе селян, прадае чужыя лясы, як Белавежскую пушчу, чужаземцам. Такая дзяржава не павінна істнаваць—гэта абмылка, за якую разплачываюцца суседнія народы.

Польшча ўсюды хоча паставіць Эўропу перад фактамі дакананымі, так рабіў Корфанты, Жэлігоўскі. Прапанавалася гэта зрабіць Савінкаву ў бок Менску і таму Кульчыцкі кажа, што Расія ўрэшце пагодзіцца са стратай гэтых тэрыторый, як фактам дакананым.

Не, мусі так ня будзе, пан Кульчыцкі! Цяпер ўсе партыі і групы расійскія вызнаюць права на самаістасьць Беларусі.

Мы будзем вясьці барацьбу з Вамі за сваю самаістасьць, а ўсе добрыя людзі памогуць нам, ня лічучы волю народу за палітычную наіўнасьць.

*Папрыка.*

## Ультыматум пасланы Паустанскім штабам Начальніку Польскай Дзяржавы Пілсудскаму.

„Начальніку Польскай Дзяржавы Пану Пілсудскаму ў Варшаве. Копія Старшыне Лігі Нацый у Жэневе. Ад акружнога атамана беларускіх партызанаў грамадзяніна Гэрмана Скамароха. Беларусь. Чынны Конспіратыўны Штаб. УЛЬТЫМАТЫУНЫЯ ВЫМАГАНЬНЯ. З прычыны разкрыцьця польскімі ўладамі нашай беларускай вайсковай арганізацыі, якая паставіла сабе мэтай высвабадзіць Беларусь ад векавога гвалту і ўціску і цяперашняй окупацыі,—значэ ня сэкрат, што зьяўляемося ворагамі польскай окупацыйнай ўлады ў Беларускім краю, але нічуць ня ворагамі польскай ўлады ў Варшаве.

Мы упоўнамочаны ад пятнадцаці тысяч партызанаў і ўсяго селянства паветаў Беластоцкага, Бельскага, Бераст-Літоўскага, Ваўкавыскага, Пружанскага і др. зьвярнуцца да Вас, Пан Пілсудскі, і, праз Вас, да ўсяго Польскага Народу аб прызнаньні нашых ніжэйпісаных вымаганьняў, а найменна:

1) У імя справядлівых чалавечых правоў адмовіцца ад прэтэнзый на Беларусь і прызнаць яе права на самаазначаньня, як нацыі.

2) Неадложна спыніць жорсткія рэпрэсыі ў стасунку да ўсіх беларусаў, а такжа перастаць апечатываць праваслаўныя храмы, арэшты сьвяшчэньнікаў, обыскі, біцьцё палітычных дзеячоў ў вашых турмах і прызнаць недатычнасьць да ўсяго беларускага.

3) Неадложна звольніць з турмаў ўсіх арэштаваных палітычных беларусаў, арэштаваных у пэрыод ад 1-га студзеня 1922 г. па 2-е красавіка г. зн. па дату атрыманьня гэтага.

4) Неадложна спыніць высеканьне лясоў, а такжа перастаць вывазіць розныя матэрьялы як: машыны, лесапільні, ж. дарожную маемасьць і інш.

5) Неадложна прыгатаваць для эвакуацыі польскія вайсковыя часткі, жандарскія атрады, сыскныя аддзелы і паліцыю.

6) Дзяржаўныя ўстановы і іх маемасьць павінны быць поўнасьцю перададзены, а такжа і народныя банкі Беларускага краю, як ўласнасьць Беларускага Народу.

7) Неадложна склікаць мешаную Камісыю для перадачы ўсіх спраў і рашэньня пільных пытаньняў.

Калі вышэйпісаныя вымаганьня ня будуць прызнаны Польскім Урадам і Польскім Народам, а яшчэ больш пойдуць рэпрэсыі, арэшты і розныя праследаваньня на беларускі Народ, то мы наўсуслыш заяўляемо, што за вынікі, якія яны ні стануцца мы не адпаведаем.

Мы ня хочам пагражаць Вам, а папераджаем, што не прызнаньне нашых справядлівых дамаганьняў пацягне за сабой страшныя вынікі. Мы прымусім загаварыць аб сабе ўвесь сьвет. Мы прыймем самыя страшныя і самыя зьніштажаючыя спосабы і дзеля таго, што з рэгулярнай арміяй змагацца нам цяжка ў адкрытай бітве, то мы застасуем наша адкрыцьце...

Вы закрычыце аб нашым зьверстве і негуманнасьці, але мы лапатнікі-селяне выдумных зьдзекаў ня ведаем, а зробім тое, што мы узналі і што нашы рады забаспечыць і вас загубіць... Тады вы аценіця нашы галовы даражэй, чым па 50.000 мар., як гэта цэніця цяпер.

Вы пастараецеся арэштаваць ня толькі нашых жон, вы арэштуеця старцаў: бацькоў і матак і многа другіх нашых братоў; вы выдумаеця яшчэ больш здумна гвалтаваць заключоных, ня тое што выламываць рукі, заганяць пад пазнокці шпількі, плечы кусаць і інш., але яшчэ лепш і больш мастацка, мучыць ды ўсе гэта не паратуе вас ад біча помсты.

Мы верым, што дабьемся вызваленьня і што сваей перамогай умацуем наш

нацыянальны сьцяг над нашай свабоднай Народнай Дэмакратычнай Беларускай Рэспублікай.

Мы верым, што ўся здаровадумаючая Польшча і ўвесь сьвет па нашай старане справядлівасьці, дык мы будзем чакаць мірнага развязаньня нашых вымаганьняў, якімі Вы нас уцешыця праз польскую, расійскую і замежную прэсу. Апошні дзень тэрміну дзевятнадцатага красавіка ст. стылю. Калі-ж прэса будзе маўчаць, гэта будзе знакам змаганьня за вызваленьне Беларускага Народу з пад польскага гвалту.

Да вас, Пане Старшыня Лігі Нацый, звертаемося мы, паняволеныя беларусы, і просім не дапусьціць далейшых гвалтаў над намі, мы вымагаем нашай незалежнасьці і нашай свабоды. Атаман Горадзеншчыны Г. Скамарох. Вып. аб. Н-ка Штабу Беларускіх партызанаў Палкоўнік (подпісь). Ад'ютант (подпісь) 30 сакавіка 1922 г.

ТЭЛЕГРАМА ПАУСТАНЦАУ ПОЛЬСКАМУ УРАДУ. Варшава. Начальніку Польскай Дзяржавы п. Пілсудскаму. Гэтым пытаем Вас, пане Пілсудскі, чым тлумачыцца не атрыманьне адповедзі на наш ультыматум, пасланый 30 сакавіка н. ст. бягучага году. Дзеля гэтага яшчэ раз напамінаем аб нашым ультыматуме, каторы кажэ: каб польская ўлада прызнала беларускую дзяржаву, як такую і прыняла сваю окупацыйную ўладу з нашага краю. У здарэньні адмовы, або не жаданьня адпаведаць на нашы вымаганьні, папераджаем, што прыймем пагалоўнае зьніштажэньне паліцыі, жандармэрыі, польскай арміі і ўсей шляхты...

Гэта тэлеграма выслана партызанамі са ст. Чэхі, якую былі часова заняўшы паўстанцы.

---

## Горадзенскія газэты аб паўстаньні.

„Dziennik Grodzienski“ № 71 ад 14 травеня: „паміж шырокіх слаёў жыхарства атраду атамана Чорта, прыдаюць значэньне, як часьці арганізаванай беларускай арміі, бьючайся за свабоду свайго роднага краю“. Далей газэта передае, што атрад Чорта рабіў свае напады ў аколіцах Беластока, Гайнаўкі, Белавежа і др. мейсцох, разсылаў ўладам пагражаючыя папярэджэньні і рабіў тэрорыстычныя акты. Атраду прыпісываецца напад на поезд з міністрамі, ехаўшымі з Варшавы ў Вільню на ўрочыстасьць далучэньня; падпал аграмадных складаў ляснога матэрьялу, вывезеннага да палатна жал. дарогі, дзеля адпраўкі заграніцу і інш.

„Чыннасьці Гэтага атраду выявілі арганізаванасьць паўстанцаў, кіраваных загадковым атаманам „Чортам“, а роўна і тое, што пад гэтым псэўдонімам скрываецца адзін з выдатнейшых беларускіх рэвалюцыанераў...“

6 травеня разам з 19 партызанамі заарэштавана жонка Скамароха Альжбета Шыманюк. Думаюць, што пад псэўданімам „Чорта“ скрываецца нейкі Іван Чыжык. Скамарох провінцыяльны артыст, яўляецца эмісарам вядомай беларускай рэвалюцынай дзеячкі Маслоўскай.

Аб жонцы атамана Скамароха польскія газэты перадаюць, што гэта дама інтэлігентная, асьвечаная і гарачая беларуская патрыотка; на допытах „трымае сябе вельмі незалежна і з гумарам“.

Той жа Dziennik Grodzienski ад 28. V. № 82 друкуе справаздачу аб вайсковапалявым судзе.

Беластоцкая газэта „Свободная Мысль“ 25. V. памесьціла стацьцю „Жудаснае відовішча“—

„У сераду 24 травеня а 7-й гадзіне многалюдная ажыўленая вуліца Сенкевіча была сьведкай непрыемнага і жудаснага відовішча:

Пасярод вуліцы, пад ахаронай узброеных турэмшчыкаў, тарахцела ў напрамку да Палескай станцыі калымага, а на ей пяць дрэўляных, на сусьпеш зьбітых з простых дошчак ні то трун, ні то скрынак, з пад якіх цекла кроў...

Весьць аб тым, што ў скрынках гэтых турэмшчыкі вязуць трупы пяці, толькі што разстрэляных бандытаў (!?)

з арганізацыі атамана Чорта—з быстрынёй бліскавіцы абляцела места.

З рэстаранаў, кавярэнь, магазынаў і кватэр пачала высыпацца на вуліцу публіка, затаўпляючы сабой ходнікі і глядзячы на жудаснае, не бачанае ў нас дагэтуль відовішча.

Уражэньне відовішча гэта пакінула самае прыгнятаючае.

Мы разумеем, што безпашчадная экспрэс-юстыцыя зьяўляецца—у варунках нашага страшэннага часу—сумнай дзяржаўнай неабходнасьцю, але мы саўсім не разумеем: каму і нашто запатрэбілася дэманстраваць гэтае жудаснае відовішча на многалюднай вуліцы, сярод белага дня...

Здавалося-бы, адны ўжо толькі інтэрасы грамадзкай спакойнасьці і парадку павінны былі-бы ўтрымаць каго належыць ад падобных дэманстрацый.

Бо кроў—заўсёды кроў. Яна пьяніць, як віно, яна аглушае, яна пужае, яна калыбае натоўп.

І ня трэба паказываць яе дарэмна.“

## Разправа палякаў з паўстанцамі.

Найбольш жойстра зьдзекаваліся палякі, як передаюць ачавідцы, над Тамашуком (псэўданім Андрэй Петрэнка—раёйнны атаман паўстанцаў): яму прыкладамі пераламалі некалькі рэбраў; прывязалі пад калені палку і білі па пятах і падэшвах ног датуль, пакуль не пачало адваліваца мяса ад касьцей; апаясывалі поясам набітым шпількамі і пасьля білі па поясе, калолі бакі завостранымі палкамі; ставілі на разпаленае жалеза. За 10-15 мінут да разстрэлу, калі Тамашук сказаў, што хоць ён гіне, але яго браты-беларусы прагоняць палякаў са сваей зямлі і дабьюцца незалежнасьці сваей бацькаўшчыны,—адзін з польскіх сепачоў падбег і адсек Тамашуку вуха. Быўшыя пры гэтым другія палякі сьмяяліся кажучы: „начальнік астаўся бяз вуха“.

Ўсе іншыя паўстанцы былі так зьбіты што пазнаць нельга было: ўсё цела і аблічча чорнае ў сіняках і ранах.

Другі ачавідзец, спэцыяльна пасланы ў вёску Грабавец, апаведае аб зьдзеках над Дземьянам Шыманюком (бацькам начальніка паўстанцаў Гэрмана Шыманюка „Скамароха“): галава ў яго ўся ў ранах; грудзі, бакі, плечы ўсуцэль пакрыты гнойнымі дзірамі, ногі страшэнна пакалечаны—відаць на пятах косьці. Калі Шыманюка прывязьлі, пасьля звольненьня, 19 чэрвеня у вёску Грабавец, то ўсё мужчыны і кабеты плакалі. Пасьля перанесяных мук Дземьян Шыманюк зварьяцеў. Жонка Шыманюка, Барбара, такжа ўся зьбіта і ў сіняках з пераламанай рукой. Гэтак сама пабіты і пакалечаны, без надзеі на жыцьцё: Корх Сьцяпан, Тамашук Тарас, Багроўскі Павал і многа другіх селян, якіе былі западозраны ў стычнасьці з паўстанцамі.

— „Кракоўскі Курьер“ паведамляе, што паліцыяй арэштавана больш 100 селян, дзеяўшых у зьвязку з атаманам Чортам.

*Бел. Прэсбюро № 36.*

## Белыя Рабы.

Польскі урад знайшоў спосаб зьменшыць свае расходы. Ён дагадаўся, што упад польскай маркі тлумачыцца выдаткамі на інтэрнаваных у розных лагерах.

Дзеля паратаваньня валюты—выхад просты: трэба, каб інтэрнаваныя самі пакрывалі выдаткі на сваё утрыманьне. А дзеля гэтага завясьці ў лагерах прымусовыя работы. Праект гэтай і фінансавай рэформы ужо разпрацаваны і характар запрапанаваных навін гэткі, што іначы, як рабамі нельга будзе назваць „пакрываючых выдаткі“ нявольнікаў.

У аснове праекту ляжыць абсалютнае і безкантрольнае права лагернай адміністрацыі назначаць кождага на любую работу, ўстанаўляць час работы, парадак аплаты і такжа назначаць кары за найменшую рабочую правіннасьць.

Калі да кар правіджаных „пісанымі законамі“ дадаць яшчэ тыя, што выпрацаваны „абычным правам“ польскіх жан-

дараў, то можна загадзя сказаць, што з пад палкі і карцэрнага хорчу (вада і хлеб) нашы бяздольнікі ніколі ня выйдуць.

## Расійская фэдарацыя.

Пад такім павабным загалоўкам бальшавіцкая рэптылія „Накануне“ № 63 месьціць цікавы артыкул аб істоце сучаснага савецкага фэдэралізму.

„Саветызацыя акраін („клетушкі і прыстройкі“ старой Расіі, паводле выражэньня аўтора) была іх русыфікацыя. Цікава. што ўсюды—ад Фінляндыі да Кушкі—носьбітамі ідэі адасобленьня аказаліся культурныя буржуазныя групы. Наадварот, пачатак рэволюцыйна-савецкі быў пачаткам рускім. У парлямэнтах, радах, курултаях, меджылісах „столпотворили“ фінляндцы, украінцы, беларусы, татары; у саветах—усе былі таварышы і гучэла моцная расійскае слова. На рэволюцыйную стыхію гэтых дзесяткаў securely новаnародджаных дзяржаў савецкі цэнтр ўплываў толькі (?) маральнай перавагай павадыра рэволюцыі. Безпасярэднай сувязі не было. Эконамічна, вайскова, нават палітычна ў той час Масква была слабейшай ад супраціўных ей акраін. І ў той-ж час Масква кіравала змаганьням, якое ішло ва ўсіх гэтых акраінах супроць самаазначаючыхся буржуазных урадаў і якое было агульным змаганьням за агульную рэволюцыйную справу. Уплыў Масквы быў тут пачаткам нацыанальна-злучаючым...

Гэткі адзін з многіх парадоксаў Рэволюцыі: пэрыод разпаду Расійскай імпэрыі аказаўся пэрыодам утварэньня нацыанальнага адзінства Расіі.

Чаму радзіўся фэдаралізм і як яго разумець? На гэта аўтор адказывае: „савецкі фэдаралізм радзіўся з аружнага змаганьня савецкай ўлады з контр-рэволюцыяй—галоўным чынам з рознымі арміямі. Савецкая ўлада хапілася гістарычнага мэтаду злажэньня Расіі—аддачы ў удзел вядомай абласьці таму, хто можэ яе бараніць г. зн. мы прыходзім да самага глыбокага разуменьня расійскага фэдэралізму. Ен зарадзіўся і развіваецца цяпер як пачатак служомны і падлеглы у стасунку да заданьняў агульнанацыанальнага адзінства. *Практычна*, у Расіі цяпер здзейсьняецца адзіная нацыанальна-рэволюцыйная дыктатура.

Тут ўсе добра: „клетушки“, і „столпотворили“ і „буржуазныя урады“. Асабліва-ж добра дзьве рэчы: паказ на ролю, якую адыгрываюць абаронцы савецкай федэрацыі з нацыанальнага лагеру і асьцярожны націск на тое, што зьдзейсьняецца сёньня ў Расіі „практычна“. Мэта, якую цікаваў аўтор артыкулу—памірыць чорную сотню с чырвоным Крэмлем у плашчыне бальшавіцкай нацыанальнай палітыкі—асягнута бліскуча. І гэта зусім зразумела—у гэтай дзедзіне яны „практычна“ твораць адзін стан.

## А на практыцы...

8-га чэрвеня г. г. Саветам Народных Камісараў і ВЦИК-ам зацьверджана пастанова аб вышэйшых школах Аўтаномных Рэспублік (гл. „Известия ВЦИК“ ад 24 чэрвеня № 138). Пастанова вельмі паказная для новага напрамку маскальскай ўлады—напрамку „уніфікацыі“, сьцісьлейшага аб‘еднаньня частак быўшай Расіі і разуменьня фэдарацыі як нацыанальна-рэвалюцыйнай дыктатуры на абшары ўсіх „акраін“, павінных адыгрываць служомную ролю ў адносінах да цэнтру.

Захоўваючы істоту пастановы без ўселякай зьмены перадаем яе зьмест:

> Першы параграф зацьвярджае, што ўсе вышэйшыя школы ў Аўтаномных Рэспубліках маючыя агульнадзяржаўнае значэньне і ўтрымліваныя на агульнафэдэратыўны кошт падлягаюць беспасярэднаму кіраўніцтву Наркомпроса РСФСР і выпаўняюць загады апошняга.
>
> Згодна другому параграфу пастановы, аб адкрываньні закрываньні і рэарганізацыі вышэйшых школ—ёсьць выключнае права Нар-

компроса РСФСР, а Аўтаномная Рэспубліка мае права назначыць свайго прэдстаўніка для ўдзелу пры вырашэньні гэтых пытаньняў цэнтральным Наркомпросам.

Трэйці параграф—арганізацыйны апарат праўленьне і рада вышэйшых школ назначаюцца Наркомпросам РСФСР і ў сваей чыннасьці павінны кіравацца агульнарасійскім „Положением о высших учебных заведениях“. Назначэньне праўленьня адбываецца пасьля падачы мейсцовым Наркомпросам сваей апініі аб намечаных кандыдатах. Мейсцовы Наркомпрос таксама дае ў склад рады вышэйшых школ сваіх прадстаўнікоў з правам рашаючага голасу.

Чацьверты параграф—учомныя пляны і прафэсарскі пэрсанал выш. школ зацьвярджаецца Наркомпросам РСФСР, назначэньне жа, перамяшчэньне і звальненьне пэдагогічнага і адміністрацыйнатэхнічнага пэрсоналу і прыём студэнтаў адбываюцца на агульных аснаваньнях са ўсімі іншымі выш. школамі РСФСР.

Пяты—фінансавыя сьродкі на ўтрыманьне выш. школ Аўтаномных Рэсп. адпускаецца паводле коштарысаў Наркомпроса РСФСР. У здарэньні, калі Наркомпрос РСФСР матываванай пастановай адмовіцца адпусьціць кошт на вышэйшую школу Аўтаномнай Рєспублікі, а аўтаномная Рэспубліка згодзіцца ўтрымліваць гэтую выш. школу на мейсцовы кошт, дык ёй даецца права на гэта, аднак Рэспубліка прыняўшая ўтрыманьне выш. шолы на свой кошт мусіць спаўняць усе пастановы РСФСР, датычачыя вышэйшых школ.

Шосты—мейсцовым Наркомпросам даецца права: а) кантраляваць чыннасьць вышійшых школ, цікуючы як яны выконываюць загады Наркомпроса РСФСР і аб заўважаных „неправільностях“ даводзіць да ведама адпаведных органаў апошняга. б) даваць заключэньне аб працы даннай вышэйшай школы, в) унасіць праекты зьмен і дапаўненьня ўчомных плянаў у зьвязку з мейсцовымі нацыянальнымі і „абластнымі“ асобнасьцямі, г) самаіста разпрацовываць, адпаведна з зацьверджанымі учомнымі плянамі, заданьня для тых вышэйшых школ ці факультэтаў, якіе спэцыяльна абслужваюць мейсцовыя патрэбы і д) дэлегаваць сваіх прэдстаўнікоў у адпаведныя органы Наркомпроса пры абгаварываньні пытаньняў аб адкрыцьці, рэарганізацыі і закрываньні выш. школ Аўтаномнай Рэспублікі, аб новых учомных плянах, аб зацьверджаньні прафэсароў і фінансавых коштарысаў. У здарэрьні нязгоды прадстаўніка Аўтан. Рэсп. з пастановай Наркомпроса РСФСР—за прэдстаўнікам захоўваецца права перанесьці, пасьля паведамленьня ЦИК-а Аўтан. Рэспублікі, спрэчныя пытаньні для аканчальнага рашэньня у „Всероссийский Центральный Исполнительный Комитет РСФСР“.

„Хаўрусная Рабоча-Сялянская умова“ РСФСР. і ССРБ ад 30 ліпеня 1921 г. надпісаная паўнамоцнікамі „Аляксеевым сынам Адамовічам і сынам Карахана“ нічога ня кажа аб абеднаньні Камісарьятаў Асьветы. Году яшчэ ня мінула а ўжо маскоўская ўлада сьпяшыць дапоўніць умову новаю цэнтралістычнаю пастановаю і гэтым паправіць прыкрую памылку „Караханавага сына“. Яшчэ праз год мы будзем чытаць аб абьеднаньні ўсіх Камісарьятаў, бо запраўды: пашто, на якое ліха, ў часе страшэннай эканоміі сьродкаў і сіл, патрэбны „паралельныя“ Камісарыяты спаўняючыя адну і тую самую працу?

У хаўрусных умовах, на паперы ўрачыста „прызнаюцца незалежнасьць і сувэрэннасьць кождай з умаўляючайся старон“, але на практыцы шпарка ідзе наперад выкоы-

ваньне маскоўскай ўдарнай мэтоды —„нацыанальна-рэвалюцыйнай дыктатуры“.

## Беларуская школа у латвіі.

Змаганьне з русыфікатарскімі і полёнізатарскімі элемэнтамі беларускаму грамадзянству прыходзіцца выносіць нават у Латвіі. Матэрьялам для характэрыстыкі гэтага змаганьня могуць служыць супярэчкі па бюджэту Міністэрства Асьветы у Латвійскім Парляманце. Згодна дакладу фінансава-бюджэтнай Камісыі, кашторыс беларускага аддзелу Міністэрства Асьветы устаноўлен 1.845. 160 латв. руб., які і прапанаваўся Парляманту зацьвердзіць. Дэпутат Кемп у зьвязку з гэтым уносіць прапазыцыю наагул зачыркнуць прапанаваны кашторыс, іншымі словамі—ліквідаваць беларускі аддзел асьветы. Сваю прапазыцыю дэп. Кемп і Прэсьнякоў мотывавалі, карыстаючыся лексыконам добрай памяці нябошчыка Пурышкевіча і яму падобных „прыхільнікаў“ беларусаў, што:

„Беларусаў німа,—яны здэнацыаналізованы элемэнт. У Устаноўчым Сойме гэтыя беларусы, лік якіх дасьцігае 60.000 не прадстаўлены, а калі-б такі народ запраўды існаваў, то ў парляманце былі-б яго прэдстаўнікі“.

Першым у абарону беларускіх інтэрасаў выступае лідар левых с.-д., выдатны пісьменьнік адраджонай Латвіі, яе слава, сумленьне і гордасьць дэп. Райніс. Імкненьня беларусаў да нацыанальнага адраджэньня яму ведамы, яму ведамы народныя імкненьня і народныя ідэалы. Беларусь для яго такі-ж край, як і Латвія, і нацыянальныя правы беларускай меншасьці у Латгаліі гэткія-ж самыя, як правы кождага іншага народу. На аснове гісторыі, статыстыкі і этнографіі, ён заяўляе, што беларусы ў Латгаліі ёсьць. І латышскі народ, сам нідаўна атрымаўшы сваё вызваленьне, не павінен адмовіць свабоды другім народам.

Асыгнаваньне на беларускі аддзел, галасаваньнем ўсіх супроць 6-ці прынята.

Менш шовіністычныя расійскія кругі засароміліся тэй яўнай няпраўды, якую бараніў ад іх імені, іхні прэдстаўнік п. Пресьнякоў і з гэтай прычыны ў часопісі „Маяк“ ад 26. VI. г. г. у артыкуле. „Салідарнасьць меншасьцяў“ пішуць:

„Грубіянскае мешаньне нацыанальнасьці з рэлігіяй прымусіла быўшых у залі расійцаў пачырванець за свайго дэпутата“.

Сорам перад сьветам за расійскага прэдстаўніка п. Прэсьнякова прымусіў і дэпутата Бочагава (старшыню Нац. Дэм. Сувязі рус. грамадзян) выступіць у Сойме з заявай, кажучы:

„Мы самі істнуем толькі дзякуючы прынцыпу самаазначаньня народнасьцяў і ня можам пайсьці і ня пойдзем за тымі, хто намагаецца зьнічтожыць духоўнае жыцьцё беларусаў.“

Мы, беларусы, прывыклі шанаваць расійскую дэмократыю ў асобе лепшых яе прэдстаўнікоў, з іх шырокім і гуманітарным сьветаглядам і пакуль яны істнуюць, істнуе ў нас пашана і вера ў расійскую дэмократычную мысль.

Латгальскія падзеі знайшлі вотклік і на страніцах бэрлінскай бальшэвіцкай рэптыліі „Накануне“ (№ 74,25; VI.). З кароткай заметкі тхне духам Прэсьняковых,—тон і аргумэнтацыя тыя самыя: беларусаў німа, ёсьць пакрыўджаныя расійцы. Пры гэтым нарэканьне на латвійскі урад, які:

...„гатоў памагаць „беларускім“, школам але ня рускім. І адбываецца сваей адмены мімікрыя: дзесяткі вучомных устаноў апавешчаюць сябе—„беларускімі“, запэўняюць, што яны аб нічым маскальскім і разуменьня не маюць,—а запраўды, пакрыёму абладаюць ня большымі беларускімі якасьцямі, чым любая вясковая школа у Разанскай ці Валадзімерскай губэрниях. Што-ж рабіць? Прыходзіцца...

Запраўды скрайнасьці зыходзяцца! Калі ня можна гвалтам і адміністратыўнымі „ўплывамі“ русыфікаваць беларусаў, то ўсё-ж такі нельга ўстрымацца, каб не пацешыць сябе, што можна праводзіць русыфікацыю скрытна ў беларускіх школах...

Але дарэмны надзеі: адраджэньне беларускае буйна пачынае пляніцца і дарэмна дойліды старой і новай аракчэеўшчыны турбуюцца веснавы паток бестрымаць адрузеўшымі гацямі.

У чародным вучомным гаду ў Латвіі будуць працаваць Урадовая беларуская гімназыя ў Двінску і прыватная, з правамі ўрадовых, у Люцыне. Заканчываючыяся настаўніцкія курсы дадуць выстачаючый кадр вучыцялёў для беларускіх пачатковых школ.

---

## Пытаньне аб нацыанальных меншасьцях у Літве.

Устаноўчы Сойм Літвы, абмяркоўваючы аддзел праекту конституцыі аб нацыанальных меншасьцях, ў другім чытаньні адкінуў 80 параграф гэтага праекту. Гэты параграф павінен быў забяспечаць нацыанальным меншасьцям мецьц у Кабінэце міністраў, міністра па сваіх справах. Гэткія міністры Беларускіх і Жыдоўскіх спраў існуюць у Літве ад самага пачатку утварэньня дзьяржавы. Пасьля адкіненьня 80 параграфу праекту конституцыі, міністр Жыдоўскіх спраў Др. Салавейчык падаўся ў адстаўку, а само пытаньне аб нацыанальных меншасьцях у Літве было жыва дыскутавана ў пэрыодычнай прэссе, пераважна літоўскай і жыдоўскай. Гэтак у артыкуле „Літва і Мы“ („Разсвѣт“ № 4) Др. Салавейчык закрануў прынцыповыя пытаньня дзяржаўнага будаўніцтва Літвы, кажучы:

„У тэй палітычнай проблеме, якая называецца „Літва“ стаяць адзін супроць аднаго два пункты погляду. Першы польскі, які прызнае толькі этнографічную Літву, каторы кажа, што Літва гэта—неяснае паняцьце, ў якім **гістарычная**“ мінуўшчына не пасуе з сучасным „**літоўскім**“—ў этнографічнымі разуменьні. Другі пункт погляду—літоўскі, о пэруючый гістарычным разуменьнем Літвы—літоўска-беларускай Літвой, ў кождым здарэньні многанацыанальнай Літвой· Без Прызнаньня гэтага астойчага прынцыпу многанацыанальнай Літвы наагул нельга угрунтовываць нашы, эканамічна і гістарычна безумоўна натуральныя, вымаганьня на часьць Літвы, акупаванай палякамі“.

... „Ізаляваныя самі па сабе літвіны ня могуць задаваляюча пераканаць сьвет у іх праве на тэрыторыю зне этнографічнай Літвы. Толькі ў цеснай лучнасьці, толькі ў поўнай гармоніі з другімі літоўскімі нацыанальнасьцямі ператвараюцца нацыанальныя вымаганьня літвіноў у дзяржаўныя і этнографічныя Літва абертаецца ў гістарычную. Польскія вымаганьня становяцца тады нацыанальнымі бо палякі тады ізолююцца. У кругах беларускай нацыанальнасьці-чацьвертага сябра нашага Палітычнага квартэту—вельмі рана ўзьніклі тэндэнцыі незалежнага, самаістага дзяржаўнага будаўніцтва. Гэта тэндэнцыя вельмі аслабіла ў беларускай інтэлігенцыі яе сымпатыі да многанацыанальнай Літвы, і мы—жыды—-асталіся тэй нацыанальнасьцю, якая магла адыграць акрэсьленую ролю. Мы—жыды—маглі даць **этнографічнай** Літве магчымасьць **стаць гістарычнай** Літвой, Літвой з некалькімі нацыанальнасьцямі.“

... І цяпер, калі у Сойме пытаюць: „чаму гэта жыды населі на Літву“. Я хацеў бы спытаць: аб якой Літве ідзе мова. Мы такжа Літва; дзякуючы нам, Літва атрымала права прэтэндэнта на трэйцюю часьць яе тэрыторыі, **нашай** агульнай тэрыторыі. Тэрыторыі тэй Літвы пры калысцы каторай мы з самага пачатку стаялі разам.

„На двох шнурах трымаецца гэта калыска“.

Артыкул гэты знайшоў отклік у літоўскай прэссе, між інжымі „Lietuvos Žinios № 74 пісала с прычыны „Вялікай Літвы“:

„Можа быць некатарым жывучым у гэтай Вялікай Літве народнасьцям было-бы вельмі добра, здарова развівацца, магчыма, што ў гэтым і дабачаюць развязку праблемы, каб замест многанацыанальнай Расіі і Аўстра-Вэнгрыі утварыць па іх прыкладу Літву, але самім Літвіном гэта ня ёсьць і ня будзе здарова. Прыклад разпаду Расіі і Аўстра-Вэнгрыі акурат не гаворыць ў карысьць місыі, ўзятай Салавейчыкам“.

Па поваду Міністэрства Беларускіх Спраў.

„Lietuva“ № 112 памесьціла артыкул Міністра Беларускіх Спраў гр. Семашко пад загалоўкам „Літоўска-Беларускае пытаньне аб нацыанальных меншасьцях у Літве“.

„У зьвязку з тым, што Ліга Нацый запатрэбавала ад Літвы, як ад свайго сябра, заключэньня умовы, забаспечаючай правы нацыанальных меншасьцяў, і што аднача́сова адбываецца абмяркаваньня ў Літоўскім Устаноўчым Сойме канстытуцыі, ў якой забаспечаньня правоў нацыанальных меншасьцяў павінна быць ясна зазначана,—высьвятленьня правоў нацыанальных меншасьцяў у апошні час прыймае усё больш і больш канкрэтныя формы, як у літоўскай грамадзкай апініі, гэтак і ў Устаноўчым Сойме.

У апошнім ужо ў другім чытаньні праекту канстытуцыі адкінут параграф 80 аб міністэрствах нацыанальных меншасьцяў.

Дзеля таго што з усіх сарганізаванных нацыанальных меншасьцяў у сучаснай Літве толькі адны жыды маюць міністэрства Жыдоўскіх спраў, дык адхіленьне вышэйпамянёнага параграфу датычыцца выключна жыдоўскай меншасьці. Другое істнуючае ў Літве нацыанальнае міністэрства—міністэрства беларускіх спраў мае абсалютна іншы характар і не зьўляецца „міністэрскім агалоўленьнем“ нацыанальных арганізацый беларускага жыхарства Літвы

У сучасных межах Літвы мейсцовасьцей, стульна заселяных беларусамі німа, і ня можна лічыць сурьёзна „важным беларускім асяродкам“ Росіены толькі дзеля таго, што там істнуе калёнія стараабрадцаў. Беларускіх масс у Літве німа, а той маючыйся невялічкі лік эмігрантаў, уцекачоў і перэсяленцаў ніякім чынам пад паняцьце масс падыйсьці ня можа. Лік-жа карэннога беларускага элементу, разкіданага па ўсей Літве, зьяўляецца гэтак незначным, што ў свой час яно не магло нават выкарыстаць выбарчых правоў у Устаноўчы Сойм.

Дзеля гэтага міністэрства беларускіх спраў па свайму характару не зьяўляецца аднальковым з міністэрствам жыдоўскіх спраў, бо яно фактычна ня ёсьць міністэрствам „нацыанальнай беларускай меншасьці“ ў Літве. І запраўды, міністэрства беларускіх спраў утварылася ня ў Коўне, на аснове якіх колечы патрэб месцовага беларускага жыхарства, але ў Вільні на моцы выплываючай тады патрэбы супольнага беларуска-літоўскага дзяржаўнага будаўніцтва. Дэклярацыя абвешчаная беларусамі пры ўступленьні ў Тарыбу ў 1918 годзе ў Вільні ласьне і кажа, што беларусы лічуць сваё ўступленьне ў Тарыбу і ўтварэньне міністэрства беларускіх спраў „пачаткам беларуска-літоўскага дзяржаўнага будаўніцтва“.

Навал ворагаў на Вільню і окупацыя заселяных літоўска-беларускім элемэнтам зямель бальшавікамі і палякамі не далі магчымасьці развіцца беларуска-літоўскаму дзяр-

жаўнаму будаўніцтву. Урад і Тарыба павінны былі эвакуавацца ў Коўну, а міністэрства беларускіх спраў у Горадню, дзе яно на родным грунце ня здолела упляніцца і павінна было так сама перабрацца ў Коўну. Нельга вымагаць, каб дзяржаўная ўстанова, эвакуаваная і адарваная ад роднага грунту, знайшла на новым мейсцы свайго побыту спрыяючыя варункі дзеля далейшага свайго развіцьця.

Дзеля вышэйсказаных палітычных зьмен, адбыўшыхся ў Вільні, дзяржаўнае будаўніцтва Літвы ў Коўне прыняло аднабокі характар, г. зн. „літоўскі“, а не „літоўска-беларускі“, і міністэрства беларускіх спраў не магло ўжо іграць тэй выдатнай ролі, дзеля якой было ўтворана ў Вільні, і пры сучасных палітычных варунках яно зьяўляецца толькі носьбітам ідэі тэй Літвы, ў склад якой войдуць землі з пракавечным беларускім жыхарствам, і зьяўляецца яскравым сымвалам таго, што Літва не адмаўляецца і ня можа адмовіцца ад тых абшараў, у адносінах да якіх міністэрства беларускіх спраў ёсьць істотнае пытаньне жывой народнай справы.

З развязаньнем віленскага і Горадзенскага пытаньняў, г. зн. калі да Літвы вернуцца, акром чыста літоўскіх зямель, і землі былога княжства Літоўска-Беларускага з жыхарствам чыста беларускім,—пытаньне літоўска-беларускае паўстане ў першую чаргу. На гэтых землях беларускае жыхарства па свайму ліку ня можа быць „нацыанальнай меншасьцю“, а дзеля гэтага і правамі для нацыанальных меншасьцяў, замацаваных канстытуцыяй, гэтаму жыхарству карыстацца ня прыдзецца. Тагды неўнікнённа ізноў паўстане патрэба літоўска-беларускага супольнага дзяржаўнага будаўніцтва, і гэту патрэбу ўжо цяпер правідзіць шмат выдатных літоўскіх палітычных дзеячоў.

Да развязаньня праблем віленскай і горадзенскай, беларуска-літоўскае пытаньне зьмяніцца ня можа, а дзеля гэтага і прынятая, ў другім чытаньні праекту канстытуцыі, пастанова аб міністэрствах нацыанальных меншасьцяў нічога супольнага з гэтым пытаньням не мае, бо адно рашаць цяпер пытаньне аб міністэрствах нацыанальных меншасьцяў, а саўсім другое—, рашаць пытаньня раней развязаньня віленскай і горадзенскай праблемы,—аб ліквідацыі эмблемы будучыны, эмблемы літоўска-беларускага дзяржаўнага будаўніцтва, г. зн. рашаць самую істоту пытаньня аб літоўска-беларускіх ўзаемаадносінах, бо ліквідацыя эмблемы толькі затрудніць развязаньне азначаных праблем.“

Фінал справы: параграф 80 адкінут трэйцім чытаньнем але міністр жыдоўскіх спраў, Д-р. Салавейчык, запрошан премьерам ў склад Габінэту, як міністр Жыдоўскіх Спраў з партфэлям; міністэрства Беларускіх Спраў, ня ўнесенае ў канстытуцыю, прыгожай эмблемай будучыны, павісла ў паветры без партафэля.

---

## Бандытызм.

Орган сыоністаў „Разсвѣт“ друкуе ў № 13 ад 2. VII. ліст з Менска, гэткага зьместу:

„Самая гострая тэма дня ў нас гэта пагражаючая хваля бандытызму, астаўляючая па сабе крывавы сьлед на жыдоўскай вуліцы. Як і ў мінулым годзе, бандытызм мае мейсца выключна ў пагранічных губэрнях. Німа ніякай сумлеўкі, што ён кіруецца закардоннай рукой. Бо банды паўстанцаў—адна з больш выбраных форм барацьбы антыкамуністычных сіл проціў савецкай ўлады. Форма, трэба канстатаваць, гэтак сама бязсэнсовая, як і жойстрая. Яна ўсім сваім ціжарам крыві і жахамі руін лажыцца цалком на жыхарства. Улада,

ўрэшце, досыць лёгка спраўляецца з бандытызмам. Дзякуючы гэтаму, яна не без падставы зьяўляецца замучаным мірным жыхарам ў нейкім арэоле збавіцельніцы ад крывага разгулу і грабежа.

Акром Украіны, гэтага пэрманэнтнага агнерыгаючага вулькану, зьявіўся бандытызм у значнай часьці Вітэбскай губэрні, частцы Гомельскай (б. Магілёўскай), у Смаленскай і ў некаторых паветах Менскай губэрні—у тых самых, якія былі захоплены бандыцкім рухам ў мінулым годзе. Такім чынам район дзейнасьці бандытаў значна пашырыўся і ахапіў такія мейсцовасьці, ў якіх аб бандытызме раней нічога ня чулі. Скіраваны бандытызм, галоўным чынам, супроць „жыдоў і камуністаў“, але, як зазвычай нясе сьмерць і руіну наагул і ў жыцьцё мірнага жыхарства. У Вітэбскай губэрні ў працягу апошняга месяца зрабавалі пару дзесяткаў коопэратываў, спалілі шмат дроў, спалілі лайбы з хлебам, спалілі пасажырскі параход, пры гэтым забралі з сабой 15 пасажыраў і варту. Нязвычная жойстрасьць разправы мае мейсца ў Вяліжскім і Гарадокскім паветах Вітэбскай губ. Людзей рэжуць на кавалкі, якія разкідаюць пасля па вёсках. У Гомельскай губ. бандыты спэцыалізуюцца выключна на жыдах, як гэта было і ў мінулым годзе. У гэтым районе бандытызм мае характар спэцыфічнага жыдоўскага пагрому, зусім не закранаючы камуністаў.

Улада ўжо ўстрывожылася гэтым пышным розквітам разбойнічых нападаў. Пад час нідаўнай сэсыі ВЦИК адбылася нарада членаў ВЦИК заходных губэрній і фронту, якая выпрацавала плян ліквідацыі бандытызму. Але пакуль што ліецца жыдоўская кроў і сьлёзы шырокімі руччамі.

**А. Р—скій.**

---

## „Беларускі зьезд“ у Горадні.

З коштаў такіх шаноўных арганізацый, як „Страж крэсова“ і яе афіцыальны орган „Wydział Drugi“, пачала выходзіць у Горадне часопісь „Беларускі Шлях“, Пад духовым уплывам і матэрьяльнай дапамозе тых-жа арганізацый, паўстаў камітэт „Беларускіх Безпартыйных Актывістаў“, які 23 красавіка ў Горадне склікаў „Беларускі“ зьезд горадзенскага павету.

Вось важнейшыя мейсцы з рэзалюцый гэтага „беларускага“ зьезду:

„Палітычны грунт організацыі „Беларускіх Актывістаў“ вядзе да цеснага аб‘еднаньня з братнім польскім народам і супольнай працы“. (пункт І-шы па паліт. пыт.)

„Зганіць тых беларускіх дзеячоў, якія гвалтам стараюцца зьвязаць сьветлае імя Беларусі з нашымі ворагамі немцамі і бальшавікамі (гэтак аўтары рэзалюцыі круцяць, каб не сказаць“ тыя дзеячы, якія стаяць на грунце незалежнасьці Беларусі“—Рэд.) чым перашкаджаюць рэальнай беларускай працы на грунце Польскай дзяржаўнасьці...“ (пункт 3 па паліт. пытаньню).

Па культурнаму пытаньню рэзалюцыя сцьвердзіўшы „поўную адсутнасьць беларускіх школаў“ мае дамагацца:

„... аб хутчэйшым адкрыцьці беларускіх школаў з выкладам польскае мовы“ (!!! Рэд.)

У склад Прэзыдыуму гэтай не прыносячай гонару організацыі ўходзілі: грам. Аўген Міткевіч, Шурпа, Я. Цлоўка, Федароў, Манюта Янка, Нэчеп Антон і Польгуй Петр.

„Актывісты“ становяцца ў опозыцыю сумнай славы Аляксюку. Гэта зусім зразумела: Аляксюк, узяўшы ад палякаў 17 мільёнаў марак крэпка скомпрамітаваўся перад імі поўным сваім правалам у часе выбараў ў славэтны віленскі сойм: і маркі прапалі і Сойм

аскандаліўся; цяпер надыходзяць выбары ў Варшаўскі Сойм, вось і патрэбны „Стражы Крэсовай“ на ўслугі новыя „аляксюкі“, паслушныя ступайкі і прадажныя душонкі, каб баламуцілі беларуса селяніна і цягнулі яго ў польскае ярмо. На сколькі ўсё-ж такі польскія паперы на „крэсах“ благія, найлепей сьведчыць тое, што—што раз горшага сорту людзей прыходзіцца браць на ўслугі: Аляксюк быў хоць граматны ў беларушчыне, а цяперашнія „аляксюкі“ ў сваей часопісі „Беларускі Шлях“ папісываюцца ня толькі поўнай безграматнасьцю, але і поўным незнаньнем беларускай мовы, замест беларускай мовы даюць ў сваей часопісі, нікому незразумелую, агідную польска-беларуска-расійскрю мікстуру.

## Са студэнцкіх стасункаў ў Вільні

Ешчэ да нідаўна ў палякаў лічылася аднэй з найвялікшых „цнот“ патрыатычных на крэсах, каб маладзеж сваю ўзгадовываць ў духу самага ярага нацыяналізму. Цяпер з памяркоўнага польскага абозу раздаюцца галасы гаворачыя, што „нацыяналістычная варьяція“ —„вядзе да атупеньня польскую маладзеж у каторай праяўляецца ненавісьць да ўсякай вольнай, сьвежай і сьмелай мысьлі“. Аб стасунку гэтай маладзежы да маладзежы беларускай „Gazeta Krajowa“ № 151 пішэ:

„У Віленскім Унівэрсытэце побач студэнтаў палякаў і жыдоў ёсьць даволі чысьленная група студэнтаў беларусаў. Маюць яны сваю сувязь, налічаючую да 60 сяброў, праяўляюць немалую рухавасьць, а такжа высокую ступень нацыянальнай сьвядомасьці. Гэта ўсё дзеці маладога прабуджаючагася народу, якому ў гісторыі польска-расійскай канкурэнцыі аб першынство на Усходзе суджана, мабыць, адыграць не апошнюю ролю“.

Замест таго каб палякам студэнтам зблізіцца да беларусаў, яны „на кождым кроку калегаў беларусаў ігнаруюць“.

„Прост да гумарыстыкі трэба залічыць такія факты, як даводжаньне аднаго з павадыроў „ўсепольскай маладзежы“ на дыскутыўным сабраньні ў „Акадэмічным Вогніве“, ў прысутнасьці колькінадцаці беларусаў, што гэтыя апошнія наагул не істнуюць на сьвеце“.

Аднак, як ешчэ нідаўна сама група „Gazety Krajowaj“ даводзіла, што „ўсіх беларусаў можна пасадзіць на аднэй канапе“. Новыя часы, новыя песьні!

## Ці Ліга Нацый гэтага ня ведае.

У заседаньні Польскага Сойму з вялікай прамовай аб нацыянальнай палітыцы Польшчы выступіў дэп. Рудзінскі. Між іншым ён гаварыў аб арэштах і ўціосках на беларусаў, а на закончэньне дадаў:

„Як прыклад падаю, што са 130 беларускіх школ цяпер асталося толькі 30 (у гэтым часе ўжо ня больш 10. Рэд.) дзякуючы массоваму закрываньню школ і сэмінарый. Беларускі рух прасьледуецца, падтрымліваецца хутчэй русыфікацыя. Тады, як нашы суседзі, і Сав. Расія, і Літва, акружаюць беларусаў апекай, а вынікі нашай палітыкі гэткія, што беларуская інтэлігенцыя эмігруе ў гэтыя краіны-дзе выховываецца ў беларускіх школах, і вярнуўшыся, яна варожа польскай дзяржаўнасьці. Чэхі ужо установілі стыпэндыі для беларусаў. Зьвезд 150 беларускіх коопэратываў сустрэў перашкоды з боку польскіх ўладаў; беларускія газэты зачыняюцца“...

## „Таймс“ аб „зялёных“.

У „Таймсе“ ад 17 чэрвеня замешчан артыкул спэцыяльнага карэспандэнта гэтай газеты аб тых каго савецкі Урад называе „зялёнымі партызанцкімі бандамі“.

„... Цяпер у Беларусі пачаўся новы селянскі рух. Усюды куды я ні заглядаў, я знаходзіў арганізаваныя мейсцовыя гурткі антыкамуністаў. Ноччу яны зьбіраюцца ў умоўленым мейсцы, каб неўспадзеў напасьці на бальшавіцкага зборшчыка падаткаў, або на невялікі аддзельчык чырвонаармейцаў, а на другі дзень ізноў косяць, аруць“.

Карэспандэнт дзівуецца, што ў Англіі так мала ведаюць і пішуць аб чыннасьці гэтых сучасных Робін-Гудоў. А тым часам чыннасьць гэта разьвіваецца і расьце. Выражаецца яна галоўным чынам у начных нападах на гарады і вёскі і ў расправе над тымі, на каго пакажуць мейсцовыя селяне, як на сваіх гнабіцеляў.

---

# З Усіх старон.

## З Літвы.

= У Вількавішках разпачаліся двохмесячныя курсы беларусазнаўства для афіцэраў. Запісалася 30 слухачоў.

= У Коўне (Вуліца Міцкевіча, 13) разпачала працу „Цэнтральная Рада Сувязі Селян-Беларусаў у Літве“. Згодна статуту Сувязь мае права адкрываць паветовыя, валасныя і вясковыя аддзелы. Пры Радзе Сувязі арганізуецца бібліатэка і чытальня.

= 18 чэрвеня Рада Беларускай Нацыянальнай Сувязі, ў памяць-ахвяр польскага тэрору—разстрэляных у Беластоку 5 змагароў за волю Беларускага Народу,--у памешканьні Літоўскага Клюбу, ўладзіла цывільную паніхіду. Дакладчыкам выступаў грам. Л. Заяц. Присутныя ўшанавалі памяць загінуўшых змагароў уставаньнем і сьпевам беларускага нацыянальнага гімну.

---

## З Латвіі.

= У паўднёва-ўсходнай Латгаліі і Курляндзіі (паветы-Люцынскі, Рэжыцкі, Дзьвінскі і Іллукстскі) жывуць, як нацыянальная меншасьць у Латвійскай Рэспубліцы, 70.000 беларусаў.

Карыстаюцца яны, як і ўсе нацыянальныя меншасьці ў Латвіі правам нацыянальна-культурнае аўтаноміі і маюць свае нацыянальныя арганізацыі, ўстановы і школы.

З боку грамадзкага аб‘еднаны яны ў Беларускім Культурна-Прасьветным Таварыстве „Бацькаўшчына“, якое мае Цэнтральнае Праўленьне ў Дзьвінску і 15 Аддзелаў у правінцыі.

З боку Дзяржаўна-Урадовага—інтарасы іх бароніць Беларускі Аддзел пры Міністэрстве Прасьветы Латвіі. Кіраўнік гэтага Аддзелу карыстаецца правам Таварыша Міністра і яму падпарадкаваны беларускія школы і іх Інспэктура.

Усяго ў Латвіі беларускіх школ налічаецца:

50—пачатковых 4-х клясовых, з двумя падгатоўчымі клясамі; 6 гадоў навука,

5—пачатковых 6-ці клясовых, з 8-ю гадамі навукі,

2—гімназіі, (у Дзьвінску і ў Люцыне),

1—гадавыя вучыцельскія курсы, з паказацельнай пачатковай школай пры іх,

1—сельска-гаспадарская школа, з 2-х гадавым курсам.

Выучыцца ў гэтых школах больш 4000 беларускіх дзетак.

Выкладаць навуку 105 вучыцялёў.

На чале Таварыства „Бацькаўшчына“ стаіць Гр. Ян Харлап.

Беларускім Аддзелам пры Міністэрстве Прасьветы кіруе Гр. Сяргей Сахараў.

Інспэктурай Беларускіх Школ ведае Гр. Канстантын Езавітаў.

* * *

19-га і 27-га мінулага чэрвеня ў Латвійскім Сойме разглядаўся бюджэт Беларускага Аддзелу на 1922—23 вучомны год.

На утрыманьне Беларускага Аддзелу, 2-х Беларускіх Гімназыяў і Вучыцельскіх Курсаў адпушчана 2.200.000 латвійскіх рублёў.

Беларускія пачатковыя школы, як і ўсе іншыя пачатковыя школы Рэспублікі, утрымліваюцца з коштаў мейсцовых Земстваў і самаўрадаў.

Сельска-Гаспадарская Школа утрымліваецца коштам Таварыства „Бацькаўшчына“ і дапамогамі ад Міністэрства Земляробства, якоя адпускае Т-ву на гэту справу да 200.000 рублёў у год.

Адносіны Латвійскага Грамадзянства і Ураду да беларусау—добрыя.

Як яскравый прыклад гэтага можа сьведчыць той факт, што, калі пры абгаварываньні бюджэту Беларускага Аддзелу адзін з латгальскіх клерыкалаў, дэпутат Кэмп, унёс прапазыцыю выкрэсьліць крэдыты на Беларускі Аддзел, дык на яго з абурэньням абрушыліся дэпутаты ўсіх фракцыяў і прапазыцыя яго была рашуча ўсім Устаноўчым Соймам адкінута. Сказанныя пры гэтым некаторымі дэпутатамі, ў нашу абарону, прамовы гэтулькі для нас цікавы і важны па свайму зьместу, што Т-ва „Бацькаўшчына“ пастанавіла выдрукаваць іх асобнаю кніжкай. Асабліва цікавы і грунтоўны прамовы: Гр. Райніса, які прачытаў Сойму цэлую гадзінную лекцыю па беларускаму пытаньню, Гр. Сэйль—Таварыш Міністра Прасьветы, і расейскага дэпутата Гр. А. Бочагова.

**Кастусёнак.**

---

### З пад Расіі.

= У Вітэбску ў казенных гарбарнях устаноўлена паштучная сыстэма з 12-ці гадзінным рабочым днём (Америк. Известия 28.VI.)

= Студэнты Горэцкага Сельска-Гаспадарскага Інстытуту (г. Горкі, Магілёўскай губ.) моцна і ўжо даўно сарганізаваны ў Беларускую сэкцыю студэнтаў Г. С. Г. І. Сэкцыя вядзе даволі вялікую і шырокую дзейнасьць. Паміж іншым выдаецца студэнтамі штомесячнік. „Дні нашага жыцьця“—з вялікім беларускім аддзелам.

Студэты Менскага політэхнічнага інстытуту сарганізаваны ў „Беларускай культурна-навуковай грамадзе“ і ў гуртку „Заходна-беларускага землячтва“.

Студэнтамі Магілеўскага інстытуту народнае асьветы аб‘еднаны ў „Магілеўскім культурна-прасьветным гуртку“.

Студэнты Марьіна-Горскага сельска-гаспадарскага інстытуту (на Меншчыне) лічацца ўжо некалькі гадоў ў „Беларускай Сэкцыі“.

Студэнтамі Вітэбскага Археалагічнага Інстытуту і Смаленскага Дзяржаўнага Унівэрсытэту так сама вядзецца праца дзеля аб‘еднаньня ў арганізацыі. („Наш Шлях“ № 2-3).

= У сакавіку з кавалерыйскай дывізыі Каткоўскага ўцякло 600 чалавек. Гэта група на ст. Талочына забрала са складаў прадукты і абменяла коней. 8 красавіка група зьявілася ў Барысаве, адтуль ідзе да Бабруйска і забірае са складаў інтэндантуры правіянт і коней. 12-га красавіка група гэта паяўляецца у Слуцку. Пасланая са Слуцка пагоня з 2 броневікамі мела бітву з групай каля вёскі Беляны, дзе група адступіла, броневікі пагнаўшыся за імі загразьлі ў балоце рэкі Локні. 26-га красавіка група робіць напад на двор Пагост, дзе забівае упраўляючага камуніста, разстрэлівае скацежу, а коней забірае з сабой. У гэту ноч, 2-га чэрвеня, была чутна бітва пад Старобінам. Пад Петрыкавам была також бітва 27. IV. 52-гі стралковы полк, выступіўшы з Мозыра, мёў бітву з групай паўстанцаў каля вёскі Дунцы. („За Свабоду“ 22. VI. № 185).

= Пад пратэкстам ўсё ўзрастаючай

дарагавізны ва ўсіх крамах Савецкай Беларусі канфіскавана дзьве-трэцьціх тавараў. („Разсвѣтъ“ № 10).

= Жыдоўскі камісарыят нацыанальных спраў прыступіў да выданьня на жыдоўскай і маскальскай мовах гэткіх выданьняў: 1. Жыдоўскія пагромы у Беларусі, 2. Пагромы Балаховіча, Савінкава і др. („Разсвѣтъ“ № 11).

= Пры Вітэбскім Археолёгічным Інстытуце істнуе Этнографічная Камісыя, на чале якой стаіць сябра і навуковы супрацоўнік Маскоўскага Археолёгічнага Інстытуту Александр Шлюбскі. Камісыя працуе над зьбіраньнем этнографічных матэрьялаў і досьледаў над беларускай этнографіяй; пры ей выдаецца часопісь „Беларускі Этнограф“, друкаваная на пішучай машынцы (пакуль што сёлета выйшла два нумары).—(Ад ўласн. карэсп.)

= У Меншчыне гэтай вясной было шмат арэштаў сярод інтэлігенцыі; без суда разстрэляны; Бруевіч Анна, Петухоўскі і інш.; частка засуджана на цяжкія работы, а рэшта ешчэ сядзіць у скляпох „Госпалітупраўченьня“ (Чэка) у Менску. Матыў—шырэньне беларускага руху. Усяго было заарэштавана каля 30 асоб. („Беларускі Шлях“ № 1).

---

### З пад Польшчы.

= У ноч з 7 на 8 ліпня ў аколіцах Арэхава, Куранёва і Блошнікаў (Віленскай губ.) паявіліся паўстанскія аддзелы сілай у 50—100 чалавек. Аддзелы зьнішчылі 6 сямей польскіх перэсяленцаў, між імі капітана рэзэрва Рэтрыкоўскага (Бел. Пресбюро).

= У канцы травеня і пачатках чэрвеня збройныя аддзелы перайшлі граніцу са стараны Расіі і напалі на рад мейсцовасьцяў, забіваючы, палячы і рабуючы маемасьць. 27. V. на засьценак Модэль напала 10 чалавек, 29. V. на двор Папоўка напала 10 чалавек, 31 V. на двор Зайніца напала 30 чалавек, 8 чэрвеня на двары: Розамполь, Севаровіцы, Бозьнікі, Маласьць напалі 3 аддзелы па 100 чалавек і забілі 8 асоб, 3 цяжка ранілі; на двор Забалоцьця 9, VI. напапала 30 чалавек. Названыя мейсцовасьці былі абрабаваны і некаторыя спаляны (Dzieńnik Grodzieński № 100).

= Да 1 чэрвеня 1922 г. „Банк Польскі Парцэляцыйны“ прадаў 740 калоній абшарам 3.316 дзесяцін; прыгатаваў да передачы каланістам 10.809 дзесяцін; размераюцца пад калоніі 11.764 дзесяціны. („Dzieńnik Wileński № 37.)

= Уцекачы з Горадні паведамляюць, што ў Лідзкім павеце ўспыхнула паўстаньне, арганізаванае мейсцовымі селянамі. У некалькіх мейсцох паўстанцы абстрэлялі дробныя вайсковыя аддзелы. Памешчыкі і больш багатыя селяне ўцекаюць („Эхо Літвы“ 12. VII. № 30).

= Паўстанцы дзеячыя ў Белавежскай Пушчы наводзяць паніку на мейсцовых палякаў. Пануе пераконаньне, што выступленьня партызанаў маюць ў сваей аснове палітычны характар. Ні для каго ня ёсьць сэкрат, што Белавежскія паўстанцы сарганізавалі напад на горад Бельск,—аб гэтым гаворацъ усе, гэта-ж установлена і сьледзтвам (Dzieńnik Wileński № 40)

= У пачатках ліпня ў Белавежскай Пушчы за 3 дні паўстанцамі спалена 50 гэктараў высечанага лесу. (Бел. Пресбюро).

= У Беластоцкім, Бельскім і Пружанскім паветах невядомыя людзі на польскіх урадовых сьцягах сыстэматычна робяць надпісі „Б. Н. Р.“ (Ад ўласнага карэспандэнта).

= 14 Чэрвеня ў Варшаве Польскім Урадам зроблена ўмова з англіцкай кампаніяй аб прадажы Белавежскай Пушчы. Згодна ўмове кампанія абавязываецца экспляатаваць лес у працягу 20 гадоў, плацячы Польшчы пэўную суму за кожды штандарт разпілаванага матэрьялу ў англіцкай валюце. У карыстаньне англійцаў пераходзяць усе істнуючыя будоўлі 23 гатэры і каля 500 кілёмэтраў вузкай чыгункі. Высечаныя абшары павінны быць выкарчаваны і даведзяны да аромасьці. Дзеля вывазу

Польскі Урад забавязаўся даваць штодзенна па 100 вагонаў („Беларускі Звон“ № 14).

= 10 ліпеня бандыты са стараны большэвізыі зрабілі новы напад на ж. д. станцыю Арэхава каля Загацьця. (Gazeta Krajowa).

= У Вільні 2 ліпня па ініцыатыве верхаводаў „Лігі работнічай“ і, як кажуць, з маўклівага благаслаўленьня бацькоў гораду зроблен быў жыдоўскі пагром. Есьць забітыя і раненыя.

„Gazeta Białostocka“ № 149 ад 6. VII. дзівуецца, нібы ня ведаючы прычын, што,—„па вуліцах Беластока, нет ведама адкуль прыбыўшыя, ходзяць сумашэдшыя“, тым часам як усім у Беластоку вядома, што з мейсцовай турмы выпусьцілі больш дзёсяцёх беларускіх селян западозраных у прычасьці да паўстанцаў, і якія ў часе тартур зыйшлі з прытомнасьці (Ад ўласнага карэспандэнта).

## З Усяго Сьвету.

= „The Jewisch Times“ 18. VI. 22 замесьціў абшырнае інтэрвю з Міністрам жыдоўскіх спраў Беларускай Народнай Рэспублікі грам. Жытлоўскім, які працуе цяпер у Лёндане на чале Спэцыяльнай Дэлегацыі.

= У Чыкаго і Нью-Ерку між беларускімі эмігрантамі абгаварываецца пытаньне аб арганізаваньні ўласнай беларускай часопісі. Затрыманьне з прычыны нестачы сьвядомых беларускага адраджэньня і адраджэнчай літэратуры пісьменьнікаў. (Ад ўласнага карэспандэнта).

= У гор. Цянціне (Кітай) грам. Жабрак, ураджэнец Горадзеншчыны, быўшы сябра расійскага пасольства, арганізуе Беларускі Камітэт Далёкага Усходу. (Ад ўласнага карэспандэнта).

= Чэскі Урад, на наступаючы вучомны год, вызначыў ешчэ 30 новых стыпэндый для студэнтаў беларусаў.

---

# Бібліаграфія.

**Савецкая Беларусь. Дзяржаўне Выдавецтва Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі. Менск. 1-я Савецкая Друкарня.**

Кніга друкавана у 4.000 экз. 307 стр. in folio з 17 схэматычнымі літаграфаванымі табліцамі. Бяз году выданьня, (натуральна у мове расійскай). Акладка зроблена у двох фарбах—сіняй і чырвонай—з рысункам даволі невыразным, больш падабным на маскоўскую сарпінку, чым на беларускую тканіну.

Кніга складаецца з такіх аддзелаў: I. Палітычная часьць, 2. Гаспадарка Беларусі, 3. Труд—Профсаюзы. Соцыяльнае абаспечаньне. 4. Народная асьвета. 5. Народнае здароўя. 6. Змаганьне з бандытызмам. Юстыцыя, Рабоча-Селянскі кантроль Н. К. У. С. 7. „Чырвоная Армія“. 8. Замежная палітыка. 9. Чырвоны Менск.

У першай палітычнай часьці зьмешчана:

а) „Маніфэст Часовага Рэволюцыйнага Рабоча-Селянскага Савецкага Ураду Беларусі“, ў якім найцікавейшым месцам зьяўляецца пункт 3-ці:

„Прадажная буржуазная беларуская Рада з яе, так званымі „народнымі міністрамі“, апавешчаецца ўне закону. Падпісалі: Жылуновіч Зьміцер, Чэрвякоў Александр, Мясьніков, Рейнгольд Ісаак, Семенов Іван.

б) „Дэклярацыя аб апавешчаньні незалежнасьці Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі Беларусі. „Тут так-жа:

„Рабоча - селянскія арганізацыі Беларусі, імем паўстаўшых пра-

цоўных мас, апавешчаюць Беларускую Найвышейшую Раду і ўсе белагвардзейскія буржуазна-памешчыцкія урады Беларусі скінутымі і падлегаючымі суду рабоча-сялянскага народу“.

„Соцыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі устанаўляе сваю заходную граніцу па этнографічнай лініі паміж Беларусьсю і сумежачымі з ей буржуазнымі дзяржавамі. Граніца Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі з Савецкай Расіяй і Украінай устанаўляецца вольным выражэньнем волі Беларускага народу на паветовых і губэрнскіх зьездах Саветаў у поўнай згодзе з урадам Р. С. Ф. С. Р. і С. С. Р. У.“

Але безграні́чная на ўсходзе Савецкая Беларусь:

„... знаходзіцца ва ўзаемаадносінах з Савецкай Расіяй, як роўная роўнай“.

На довад і роўнай-роўнасьці Савецкая Беларусь:

„... перадае на ўвесь час рэволюцыйных войн ўсе свае аружныя сілы ў распараджэньне адзінага камандаваньня аружных сіл ўсіх Савецкіх рэспублік, а так-жа заяўляе, што ўсе дыплёматычныя выступленьня С. С. Р. Б. будуць дапасаваны да выступленьняў РСФСР“

в) „Дэкларацыя 1-га Беларускага Зьезду Саветаў“. Тут Зьезд „вустамі сваей кіраўніцы—беларускай камуністычнай партыі“:

„прызнае неабходным устаноўленьне цесных эканамічных і палітычных зьвязяў са сваім старшым братам—Расійскай Савецкай Рэспублікай.“

г) „Пастанова Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту аб прызнаньні незалежнасьці Беларускай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі“

„Выходзячы з прынцыпу поўнага і запраўднага самаазначаньня працоўных мас ўсіх краёў, Прэзыдыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту яшчэ разпацьверджае, што факт прыналежнасьці Беларусі, як і другіх краёў... да старай царскай імпэрыі, не накладае на іх ніякіх абавязкаў“.

„Прэзыдыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту апавешчае аб гатоўнасьці Р.С.Ф.С.Р. аказаць уселякую падтрымку працоўным масам Беларусі ў іх змаганьні супроць панаваньня, эксплятацыі і ўціску і ў абароне іхняй свабоды і незалежнасьці ад спроб чужаземных заваеваньнёў“

Як вядома гэта абарона і свабоды: незалежнасьці ад спроб чужаземных заваеваньняў, надзяліла Беларусь прылучэньнем да „старшага брата“ 24-х паветаў Беларускай тэрыторыі, звыж 100.000 кв. кілomэтраў і да Рыжскага міру, па якому са „згоды‘, савецкай Беларусі аддалі „браты“ палякам, так сама звыж 100.000 кв. кіл. беларускай зямлі.

д) „Констытуцыя С. С. Р. Б.“

е) „Мірная умова з Польшчай“ заключонная у Рызе 12. X. 1920, як відаць з тэксту, між іншым:

„ і па паўнамоччу ураду Беларускай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі“.

ж) „Умова Савецкай Беларусі з РСФСР.“ 1) Соцыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі і РСФСР уходзяць паміж сабой у вайсковы і гаспадарвы хаўрус а таму:

„Дзеля лепшага аб‘еднаньня... абедзьве дзержавы абвешчаюць аб‘еднанымі ніжэйпісаныя Камісарыяты: 1) Вайсковых спраў, 2) Вышэйшы Савет Народнай гаспадаркі, 3) Заграні́чнага гандлю, 4) Грашовых спраў, 5) Працы, 6) Дарог, 7) Почты і тэлеграфаў.“—„Аб‘еднаныя Камі-

сарыаты абедзьвех Рэспублік уходзяць у склад Савету Народных Камісараў РСФСР.“

Гата „братняя“ насьмешка з незалежнасьці змацаваня ешчэ ніжэйпісаным актам:

з) „Умова паміж урадамі С. С. Р. Б. і Р. С. Ф. С. Р. па фінансавых пытаньньнях“.

„Пастанаўленьне новых грашовых падаткаў і збораў (у тым ліку і збораў дзеля якой небудзь мэты, зьбіраных дзеля месцовых патрэб) у межах Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі робіцца са згоды Нар. Кам. Фін. РСФСР.“

Гаспадарка Савецкай Беларусі нічым ня рожніцца ад гаспадаркі ва ўсей Савецкай Расіі.

З „Ведамасьці паступіўшых тавараў на склады „Нар. Кам. Знешняга Торгу“ па 16. IX. 1921 г. цікава, што Камісары куплялі заграніцай для Савецкай Беларусі і ў якой прапорцыі. Вось некаторыя данныя з „Веламасьці“:

| | | |
|---|---|---|
| Бусаў з массы . . | 140 | тузінаў |
| „ шкляных . . | 55 | „ |
| Бялізны цёплай . . | 62 | камплекты. |
| Камашаў новых. . | 119 | пар. |
| Шрубоў да абсацаў | 41 | штука. |
| Каўнерыкаў дамскіх | 8 | „ |
| Шрубоў . . . . | 6 | „ |
| Кашуль . . . . | 8 | „ |
| Машынак кухонных | 2 | „ |

і так далей у гэтым духу і прапорцыі закуплена тавараў заграніцай на ўсю дзяржаву!

Аб эканамічным палажэньні цікавыя данныя дае атчот Эканамічнай нарады Савецкай Беларусі (стр. 115-122).

Паводле данных 1921 году валавы збор усіх хлябоў і бульбы, у пераводзе на хлеб, выразіўся ў ліку 37.112.900 пуд. Адлічыўшы на насеньне і продналог выходзіць на душу вясковага жыхара 11,8 пуд, а прыймаючы пад увагу усё насяленьне 9,1 пуд., што становіць напоўгалодную норму.

„На 1.800.000 усяго жыхарства у Савецкай Беларусі (з 5½) паветаў. Рэд.) сельскага жыхарства 1.300.000 (73%) гарадзкога, ўключаючы і мястэчкі, да 500.000 (27%). Выбарачнае абсьледаваньне каля 6.000 гаспадарак, блізка ва ўсіх валасьцях Беларусі, паказала як страшны раны прычыненыя селянскай гаспадарцы апошнімі гадамі. Рабочых коней у 1920 г. лічылася 207.000 галоў; у 1921 г. панізілася да 185.000, г. зн. стала меней на 22.000 галоў, або на 10%. З ліку сеючых гаспадарак бязконныя станавілі у 1920 гаду 13%; у 1921—17% г. зн. блізка 1/5 часьць сеючых гаспадарак не мае коней. У Беларусі істнуе да 30.000 гаспадарак беззямельных, з якіх каля 9.000 батрацкіх. Працэнт безкароўных (з ліку сеючых) у параўнаньню невялікі—ад 3 да 4%, як у 1920 так і у 1921 г., але абсалютны лік кароў зьменшыўся вельмі значна: у 1920 г. налічана 361.000 у 1921 гаду 311.000, зьменшылося за адзін год на 50.000 галоў, або на 14%

„Паважным паказчыкам зьменшаньня эканамічнай сілы гаспададарак служыць паменшаньне і зношанасьць мертвага інвэнтара. Палажэньне з самым неабходным земляробу інвэнтаром вельмі цяжкое. Паводле статыстычных данных, агульны лік плугоў у 1920 г. значыўся 166.000 штук, у 1921 г.—158.000, пры чым большасьць з гэтага ліку многа разоў праўленыя і хутка стануцца нікуды ня годнымі. У 1921 г. каля 18% сеючых гаспадарак саўсім не маюць плугоў і на сьвет зьявіліся сохі. У 1920 гаду лічылася 230.000 кос, у 1921 г.—181.000, на 48.000 менш (21%). У 1920 г. было 202.000 цялег, у 1921 г.—176.000, менш на 26.000 штук, на 13%, і калі у 1920 г. да 13% налічалася безцялежных гаспадарак, то у 1921 г. гэты % павысіўся да 19% г. зн. блізка пятая часьць гаспадарак не мае калёсаў, зьявіліся ў ужытку калёсы з нека-

ванымі коламі. У працягу апошняга году зьменшылася і вазавя збруя на 12.000 камплетаў. Агульна можна лічыць, што ў 1920 гаду было ўсяго пасеваў 612.000 дзесяцін, а ў 1921 г. —558.000; зьменшылося на 54.000 дзесяцін або 9%; раўняючы з 1916 г. пасеўны абшар зьменшыўся на 30%. (Стр. 116).

Становішча у Савецкай Беларусі прамысловасьці характэрызуецца так:

„Паводле данных фабрычна-заводзкай інспэкцыі у 1913 г. ў межах сучаснай Беларусі (Савецкай, зложанай з $5^1/_2$ паветаў. Рэд.), было 353 фабрычна-заводзкія прэдпрыемствы, з вырабам на 23698500 руб.—з 9.552 работнікамі; у 1921 г. агульны лік прэдпрыемстваў 163, лік работнікаў 5.183; ўся вытворчасьць выробленых гэтымі заводамі тавараў роўна 483.611 залатых рублёў.

„Работа на ацалеўшых заводах пала да мінімума. Аднэй з галоўных прычын гэтага зьяўляецца нікчэмная аплата працы работнікам. Так калі узяць для прыкладу фабрыку „Вулкан“—работнік атрымліваў, пераводзячы на залатую валюту ў месяц:

у красавіку 1921 г. грашамі 1 р. 04 к.
прадуктамі 98 к.
у травені грашамі 1 р. 13 к.
прадуктамі 1 р. 11 к.
у чэрвені грашамі 1 р. 01 к.
прадуктамі 1 р. 46 к.

У той час, як пражытачны мінімум тады ў залатой валюце, выражаўся ў 12-14 рубл. „Гэткім чынам дзеля папаўненьня свайго пражытачнага мінімума, работніку трэба было дабываць грошы усякімі магчынасьцямі.

Ня лепей стаіць справа і з прасьветай: у 1919 г. пасьля нямецкаі і польскай руйнуючых окупацыйй было:

школ 2,086, вучыцялёў 3.412,
вучнеў 186.421.

цяпер, у 1921 гаду:

школ 2 243, вучыцялёў 4.672,
вучнёў 175.675.

Часопісаў выходзіць у Менску коштам Дзяржаўнага выдавецтва:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Расійскіх | 7 | ў 37.000 | экзэмпляроў. |
| Жыдоўскіх | 2 | „ 9.000 | „ |
| Польская | 1 | „ 5.000 | „ |
| Беларускіх | 3 | „ 13.500 | „ |

Акром гэтага выходзіць:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| у Бабруйску | 3 | расійск. | часопісі | 8.500 экз. |
| у Барысаве | 4 | „ | „ | 6.500 „ |
| у Мозыры | 1 | „ | „ | 1.000 „ |
| у Ігумене | 1 | „ | „ | 1.200 „ |

Школьных падручнікаў за год надрукаване ўсяго толькі 7 загалоўкаў, з гэтага ліку 500.000 экз. на расійскай мове і толькі 79.000 экз. на беларускай. 8 загалоўкаў лекцый вышэйшых вучомных устаноў у 3.700 экз.—ўсе толькі па расійску. Усяго за год Савецкая Беларусь значэ надрукавала 15 загалоўкаў кніг. Затоя агітацыйнай і партыйнай літэратуры выдана 193 загалоўкі ў 1.269.900 экз.

На тле гэтай безнадзеіцы прыемна адбіваецца справаздача аб працы вышэйшых школ, асабліваі „Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту“ і „Беларускага Політэхнічнага Інстытуту“, з іх 98% ураджэнцаў Беларусі, з якіх 67% панацыанальнасьці Беларусы.

**В. Л.**

---

С. НЕКРАШЕВІЧ. БЕЛАРУСКІ ЛЕМЭНТАР. ВЫДАНЬНЕ КАМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫАЛІСТСКАЙ РЭСПУБЛІКІ. БЭРЛІН 1922. in 4-to 71 СТР. ДРУК ОТТО ЭЛЬСНЭР, БЭРЛІН. Друкавана Выдавецкім Аддзелам Гандлёвага Прадстаўніцтва Народнага Камісарыату Заграпічнага Гандлю у Нямеччыне.

Выданьне аздобнае, на добрай паперы, багата іллюстраванае. Нажаль здольны і іллюстратар не зусім добра азнаемлены з беларускім жыцьцём і, што найважнейшае для іллюстратара, не знаём з тыпам беларуса; дзякуючы чаму ў беларус-

кім лемэнтары шмат іллюстрацый больш прыпамінаючых вялікарасійскае Паволжжа, чым ціхую беларускую вёску і яе жыхароў. Друк выразны, добра разложаны. Тэкст умела дабраны і датасаваны да дзіцячага кругазору. Дзеля гэтага адзіны недагляд аўтора ў вершы „Зіма“ (стр. 63), дзе ў трэйцім радку верша „Зімы“ замест „кажўх“ трэба чытаць „кàжух“, — адразу выстыркае.

Акладка выканана аздобным-скарынаўскімі літэрамі. Трэба прызнаць, што па аздобнасьці і апрацаваньню, гэта найлепшы з выйшоўшых дагэтуль беларускіх лемантароў.

33. ВІЛЬНЯ-КОЎНА. КОЎНА, ДЗЕРЖАЎНАЯ ДРУКАРНЯ. АДНАДНЕЎКА У ЛІТОЎСКАЙ, БЕЛАРУСКАЙ І ПОЛЬСКАЙ МОВАХ. In folio 42 стр. У АБЛОЖЦЫ.

Аднаднёўка зьмешчае матэрьялы датыкаючыя высылкі палякамі 33 грамадзкіх дзеячоў з Вільні. Вось як аднаднёўка асьветляе рацыю свайго паяўленьня на сьвет.

Саджаньне ў астрог і выгнаньне з Вільні польскімі ўладамі 33 літоўскіх і беларускіх дзеячоў ня творыць эпохі ў гістарычным значэньні, затое выразна і яскрава сьведчыць аб варунках жыцьця і працы народаў, знаходзячыхся пад польскай окупацыяй. Нацыянальны уціск, цынізм адміністратыўнай самаволі псэўда-дзержаўнай ўлады, зьдзек з усьмешкай на вуснах над аснаўнымі правамі мейсцовага жыхарства; таптаньне чыста прускай сыстэмай чэлавечых і сямейных пачуваньняў, ярка выступаючая злосьць і помста над сваімі грамадзка-палітычнымі праціўнікамі, каторыя ў натужным змаганьні „на сэрцы і розумы„ здолелі выказаць моральную перавагу над узброеным ў гвалт кулаком і ў манаполь ўлады окупацыяй і праз гэта скампрамітаваць гэну окупацыю перад жыхарствам і сьветам, ўрэшце збэнтэжаньне і трусьлівасьць злоўленых на гарачым учынку, круцялёў окупанцкай выбарнай ігры вось што уяўляе польская окупацыя у інсцэнізаванай ею голаснай справе 33-х.

У свой час гісторыя дасьць у гэтай справе свой безстаронны суд. Нашае-ж заданьне зьвярнуць увагу сучаснага грамадзянства на саму справу і паказаць, як адклікнулася на яе грамадзкая думка Віленшчыны — літоўская, беларуская, польская і жыдоўская.

Матэрьялы „маючыя заданьне зьвярнуць увагу сучаснага трамадзянства“ на справу 33-х запраўды пераконываюць аб безпраўным палажэньні інародцаў пад польскай окупацыяй, аб крутацтве і матацтве „ўладаў“ у гэтай справе. Падобныя выданьня з фактычнымі матэрьяламі і вельмі цэнны і вельмы важны як для сучаснасьці так і для гісторыі.

„БЕЛАРУСКІ ЗВОН“. Тыднёвая часопісь. Адрэс: Вострабрамская 9. Цана нумару 50 мар.

„Звон“ згуртаваў каля сябе лепшыя беларускія публіцыстычныя і літэратурныя сілы. Орган гэты зьяўляецца цяпер у Віленшчыне праўдзівым выявіцелям беларускай грамадзкай апініі.

„МАЛАДОЕ ЖЫЦЬЦЕ“ Чэрвень № 2 (5). Год II. Пэрыодычная часопісь беларускае моладзі. In 4-to стр. 24. Адрэс: Вільня, Вострабрамская вул. д. № 9. Асобны нумар 100 мар.

Зьмест: Верш Я. Купалы. „Да матурыстаў“—Грыш-Ка. „Да моладзі“ — Л. Н. „На парозе жыцьця“—Г. Акушчанка. „Самі богі“ верш І. Дварчаніна. „Соцыяльны элемэнт у творах Я. Купалы“—М. Каплан. „Што рабіць“. „Кніга“ з Герцэна пер. А. Н. „Вецер“ верш Ул. Ж. „Вясельле і сон“ М. П. „Вясна на чужыне“ верш Ул. Дубейка. Верш А. „Шэпты ночы“

верш Н. А. Крыху аб спорце. „Бібліяграфія“. Хроніка. Жарты. Адказ на задачы. Ад. рэдакцыі. Свая пошта.

Часопісь робіць надзвычай прыемнае і сымпатычнае ўражэньне, ўласьцівым моладзі размахам і верай.

З маладых пісьменьнікаў зьвертаюць увагу Акушчанка, Н. А. Ўладзімер Дўбоўка, а асабліва Грыш—Ка.

## БЕЛАРУСКАЕ ПЫТАНЬНЕ У ЛІТОЎСКІХ ВАЙСКОВЫХ ЧАСОПІСЯХ.

Афіцыоз Міністэрства Абароны Літвы „Karys“ (рэедктар лейт. Кяпалас), які мае шырокую пачытнасьць ў Літве і Амэрыцы, удзеляе на сваіх гранках мейсца і беларускай справе. Яшчэ з лістападу леташняга году ў гэтай часопісі пачалі друкавацца праз 2-3 тыдні агляды „З беларускага жыцьця“, даволі падробна абрысовываючы сваім чытачом, што робіцца на Беларусі.

У бягучым гаду „Karys“ пашырыў свой беларускі аддзел, зьмешчаючы, акром аглядаў з беларускага жыцьця і пераклады з беларускіх пісьменьнікаў (Тарас Гушча — Дудар, Ядвігін Ш. — Вучоны бык, Раны, Сабачча служба і інш.), надрукаваны так сама пераклад мэморыялу Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі на канфэрэнцыю ў Гэнуі і г. д.

На Вялікдзень рэдакцыя „Karys“ выдала асобны дадатак да часопісі — аднаднёўку „Беларус-Вайсковы“, якая надрукавана у 5.000 экз.

Што-ж датыча вялікага двумесячніка ваяўніцтва і гісторыі „Musų Zinynas“ (рэдактар капітан В. Сьцепанайтіс), то і ён ў леташнім гаду надрукаваў гістарычны агляд „беларускіх вайсковых частак у Літве“ (1918-1920) і рэцэнзыі аб статутах выданых Беларускай Вайсковай Камісыяй; ў гэтым жа гаду даны рэцэнзыі на кнігі: — Ядвігін Ш. — Успаміны; Антонаў — Успаміны аб польскай акупацыі; Луцкевіч А. — Польская акупацыя на Беларусі; Езавітовъ — Бѣлоруссы і Поляки і інш.

**Дружыновы.**

„НАШ ШЛЯХ“. Штомесячнік беларускага студэнцтва. Вільня, друкарня „Друк“. № 2-3. Красавік — Травень. In folio 28 стр. Цана 300 марак. Адрэс: Вільня, Віленская 12.

Зьмест: Верш К. Буйло. Ад Рэдакцыі. „Наш Шлях“ — С. Радзіміч. „Аб нашым мэсыанізме“ — С. Радзіміч. * * * — М. М. „Фрагмэнты з сучаснасьці“ — С. Дрыгуновіч. „Што трэба зрабіць у беларускай мове і літэратуры“ — М. Марцінік. Прыдзі да нас Хрысьце“ — Зоська Верас. Вершы Натальі Арсеньевае. „Сучаснасьць і будучына“ — Ф. Маркотны. Вершы — М-ча. „Сярод праўды і фантазыі“ — Л. Леўскі. З вершаў Н. Арсеньнвае. „Развіцьце палітычнай думкі у Беларусаў“. — С. Дрыгуновіч. „Вольная Трыбуна“ — Ф. М. „Чаго перапалохаліся“ — П. А. „Што нам пішуць“. Хроніка. Пісьмы у Рэдакцыю.

Рознародны і багаты зьмест часопісі, новыя імёны маладых працаўнікоў, а яшчэ болей новыя, сьвежыя, сьмелыя думкі акрыляюць чытача надзеяй і верай ў нашу сьветлую будучыну. „Наш Шлях“ загаварыў да сваіх чытачоў дзе трэба здаровай прозай: „Хто ня бьець таго бьюць“, а дзе — чыстай паэзыяй і здаровым маладым романтызмам, сьвядомай сваіх сіл і мэт моладзі. Паміж маладых аўтараў—С. Радзіміч і С. Дрыгуновіч— зарысовываюцца як сільныя немалога таленту публіцысты з вельмы цэнным уклонам да аналітыкі. Пяром Ф. Маркотнага кіруе душа цьвёрдага грамадзяніна і запраўднага гаспадара краю. Вершы Арсеньевае — гэта істотна кветкі паэзыі. Бэлетрыстыка Л. Леўскага знамянуе, хоць яшчэ ня цьвёрдую, але панадную запаведзьдзю запраўднай мастацкай творчасьці руку. Зоська Верас годная ў гэтай маладой плеядзе таварышка. Адну мы прымушаны зрабіць увагу нашым маладым таварышам па пяру: звертайце больш увагі на чыстату мовы.

„БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ“. Выданьне не пэрыодычнае, Горадня. №№ 1, 2, 3, 4

і 5. Формат газэтны. Цэна нумэру 20 омарак.

Пад загалоўкам надпісь: ,,Орган незалежнай думкі“. Часопісь неакрэсьлянага грамадзкага і палітычнага кірунку. На першай страніцы (№ 5) рэклямуецца кампазытарскі твор: ,,Orzeł Biały“, а на апошняй друкарня ,,T-wa Lapin i S-wie w Grodnie“. Відаць часопісь бье на чытача з польскай культурай, якіх німа між беларусамі чытаючымі кірыліцай. Зьмест часопісі наіўнабедны, ў духу пісьменнікаў прыгонных часоў, пісаўшых вершы для сваіх падданых: ,,Як то добра калі мужык рупны, гаспадарны, для такога ў годзе, жадан час не марны“. Мова пярэсьціць полонізмамі і русыцызмамі.

Шкада, што гэным барбарскім жаргонам друкуецца ў адрэзку добрая, з мастацкага боку, драма З. Крачкевіча ,,Люцыпар“. Німа рады, панове, трэба вучыца мужыцкай граматыкі.

# Усячына.

**М. Мікешын.** У журнале „Историческій Вѣстникъ“ за 1913 г. том 7 зьмешчан артыкул вядомага публіцысты А. Каўфмана дзе ён апавядае аб адным здарэньні з художнікам М. Мікешыным. З прычыны юбілею М. Мікешына газэта „Одесскія Новости“. у 1886 г. зьмесьціла належны артыкул і партрэт, але па абмылцы партрэт быў надрукаваны не М. Мікешына, а худ. Макоўскага. Дзеля таго, што аўторам гэтага артыкулу быў А. Каўфман, М. Мікешын звярнуўся з лістом да яго асабіста, дзе дзякуючы за прыхільнасьць, кажэ аб заўважанай ім абмылцы даслоўна гэтак „Як: бѣлорусській пан я зроду бороды не носів.“

Мікешын Міхал радзіўся ў 1836 г. ў г. Рослаўлі Смаленскай губэрні. Ад дзесяці гадоў ён пачаў ужо вучыцца малеваньню ў аднаго мейсцовага мастака маляра і разам з гэтым вучыўся ў паветовай школе. Пасьля аканчаньня паветоўкі Мікешын дзякуючы свайму незвычайнаму таленту ў 1852 г. паступае ў Імпэр. Акадэмію Мастацтва.

Тут ён выбірае сваей спэцыяльнасьцю г. зв. „батальны“ жанр, які праходзіць пад кіраўніцтвам Б. Вільлевальдэ.

У 1858 г. за свой малюнак „Уезд гр. Тілле ў Магдэбург ў 1636 г.“ Мікешын атрымаў найвышэйшую награду—вялікі залаты мэдаль і права на загранічную паездку.

Але ад паездкі ён адмовіўся і пачаў прабаваць сваe сілы на скульптуры. У 1859 г. быў абвешчан конкурс на праект памятніка, які мёў быць пастаўлен ў Ноўгарадзе з прычыны тысячалецьця Расіі.

М. Мікешын прыймае ў гэтым конкурсе удзел і яго праект быў прызнаны найлепшым з ўсіх, якія былі прадстаўлены. Каб кіраваць працай па здейсненьню свайго праекту Мікешыну прыйшлося ня толькі дасканальна пазнаёміцца з тэхнікай скульптурнай працы, але і прыймаць ў ей безпасярэдны удзел.

Пасьля адкрыцьця гэтага памятніка яго імя робіцца слаўным ня толькі ў Расіі, але і заграніцай.

З памятнікаў, каторыя выкананы згодна яго праэктаў найбольш вядомы: „Імп. Кацярыны II“ у Петраградзе (за які Мікешын ў 1869 г. атрымаў дастойнасьць акадэміка) „Багдана Хмяльніцкага“ ў Кіеве, „Матросу Шэўчэнко“ у Мікалаеве, „Адм. Нахімаву“ і ,,Адм. Істоміну“ ў Севастопалі і шмат іншых.

Ня меншай популярнасьцю ён карыстаўся як іллюстратар літэратурных

твораў, асабліва твораў з народнага жыцьця.

Лепшымі яго творамі ў гэтай дзедзіне лічацца іллюстрацыі да „Вія“ М. Гогаля і „Кабзара“ Т. Шэўчэнкі (1896 г. 3 выпускі СПБ).

У Канцы 70-х гадоў ён выдаваў журнал „Пчела“, дзе зьмесьціў шмат сваіх малюнкаў і глыбока мастацкіх артыкулаў і ўспамінаў.

Памер М. Мікешын у 1896 г. 19 студзеня ў г. Петраградзе.

**Гуль.**

---

## Першые Беларускіе Часопісі.

У каталогу бодлейскай бібліатэкі у Оксфордзе (Англія) акром цэлага раду славянскіх кніг зьмешчана сем не перыодычных лістовак. Рукапісны каталог з 1684 г.)

1) Новіны грозные а жалостлівые о нападзе Княжаті Московскаго Івана на землю рускую, которі то князь паленьем, тыранством, мордованьнем мест, замков добываньем вёліку а знаменіту шкоду вчыняет. З доданьем реляцыей Его Мілості Гетмана В. К. Л. княжаті Радівілла о поражцы места Полоцкаго 1562.

2) Новіна іста а правдіва о добыті тыраном московскім места Полоцкого. 1571.

3) Эдыкт з замку Полоцкого 1597.

4) Эдыкт з обозу под замком нашым Велікімі Лукамі. 1580.

5) Nova ex Liwonia a Feria anno. 1602. Заключае навіны аб перамогах К. Ходкевіча у Інфлянтах.

6) Новіны о взяті Сloленска, або тріумф радосны. 1610.

7) Новіны о шчастлівом поступаньні на царство Московское Найясьнейшого Владыслава Короля Польского. 1617. З дрэварытам выбражаючым Дарагабуж і Владыслава прыймаючага ў абозе паслоў маскоўскіх.

**Being.**

---

## Артыкулы Маршалкоўскія.

Канстытуцыя сойму 1678 году пацьвердзіла права, званае артыкуламі маршалкоўскімі.

Экзэмпляр артыкулаў маршалкоўскіх па беларуску пісаны быў у Несьвіжы. У першым параграфе мова аб сварках, бойках, крыках і вулічных закалотах. У 2-м — аб забароне насіць зброю у мейсцы прабываньня маестатнай асобы. У 3-м — аб папісаньню (заяўцы) чужаземцаў, асабліва ў часе сойму. У 4-м — устанаўляліся кары за нашэньне зброі, бойкі, напады. Артыкул 5-ты наказываў баспечнасьць ад агня і ўстанаўляў спосабы ратаваньня; 6-ты пазваляў музыку толькі ў дамох і пры ўездах сэнатараў і забараняў музыку публічную; 7-мы залецаў „прыстойную учцівасць“ да чужыземных паслоў і іх службы; 8-мы аб вылаўліваньні неспакойных людзей; 9-ты аб караньні неспакойнай чэлядзі; 10-ты аб баспечнасьці і апецы для жыдоў, туркоў, татараў; 11-ты аб гасподах для паноў сэнатароу; 12-ты аб выганяньні злодзеяў, ашуканцаў, ігракоу; 13-ты проці падніманьня цэн на тавары; 14-ты аб апецы купцом і крамнікам; 16 аб мерах і вагах; 17-ты павіннасьці пастрыгачоў і галяроў; 19-ты гаварыў аб карах за зьневагу маршалкоўскага суда; 20-ты аб карах на распусных кабет.

**Стаўровіч.**

---

# СВАЯ ПОЧТА.

ГРАМ. ЯНУКУ МАГІЛЕЎЦУ: Закранутае Вамі даў „Peritus“. Чаго-ж нам сварыцца з рас.-эсэрамі? Наадварот, яны ў Празе гаварылі саўсім добра, нават адзін раз напісалі дэклярацыю ў „Волі Россіі“ для акраін.

ЮСТЫНУ У ВАРШАВЕ. Вашага ліста дагэтуль німа. “Б. Ш“ пасылаемо Вам на Прагу. Мы згодны з Вамі, што пакуль не замацаваны за Польшчай граніцы да выбарнага дзеяньня трэба аднасіцца асьцярожна.

ГМЫРЛІВАМУ У НЕСЬВІЖЫ. “Б. Ш.“ Вам пасланы. „Рэвалюцыйны Сьпеўнік“ вельмі патрэбны, ды ня толькі ня выдан ешчэ, але нет ведама ці хто апрацоўвуе. „Пад гоман вясёлы“ надрукавана з нотамі на адкрытцы.

ПАЛІТЫКУ З-ПАД БЕШАНКАВІЧ. Паднятыя Вамі пытаньня вельмі цэнны, але трэба іх разпрацаваць, а каму-ж брацца за гэта калі не Вам сьвядомаму гісторыка-філасофскіх тэорый. Думаем за 2-3 месяцы Вы здолеяце нам даць гатовую працу?

„PERITASU“ Чэкаем ад Вас сыстэматычных аглядаў у кожды нумар.

АНДРЭЮ ПОЛАЧАНІНУ. Шчыра спагадаем Вам, але ўсё-ж такі Ваша бэлетрыстыка слабавата, г. зн. што лепшы з Вас грамадзянін, як паэт.

ПРАВАСЛАЎНАМУ У ВІЛЬНІ. Чаму-ж Вы на зьезьдзе маўчалі? Варшаўская аўтокефалія замацовывае ў польскія граніцы беларускую праваслаўную царкву, а нам важна мець свайго архібіскупа, каб царкоўна-адміністратыўныя беларускія граніцы былі па-за межамі Польшчы.

„АПТЭКАРУ“ Ў БЕЛАСТОКУ. Ушчаміць хвост у Польскую дзяржаўную калясьніцу лёгка, але выцягнуць трудна — дык лепей падтрымліваць волю да змаганьня, як накіровываць думку ў русло іхняй дзяржаўнасьці, вось які наш погляд. Магчыма, што перад намі не адзін год змаганьня, а як было з Ірляндыяй?

АСТАПУ У ШАЎЛЯХ. Вам адкажэ наш агляд прессы. У справах зямельных зьвярніцеся ў „Селянскую Сувязь“ у Коўне. Пакуль што ў Літве ешчэ несарганізавана беларуская гімназыя.

ГУСАКУ У ВІЛКАВЫШКАХ. Вершы Вашы не саўсім дасканальны, але калі будзеця сурьёзна над разьвіцьцем свайго таленту працаваць, то з задаткаў будзе жніво. Гэта самае можна сказаць і аб творах Вашага таварыша М. Б. Літэратурная дзейнасьць вымагае сурьёзнай, ўдумчывай і доўгай працы. І гэтага ад нас вымагаюць, ў наш адказны час, кажучы Вашымі славамі:

Родныя загоны,<br>
Могілкі дзядоў.

СВАЙМУ У ПРАЗЕ. „Б. С.“ ніхай купляюць у „Рускім доме“. Высылайце нам польскія газэты. Ваш палітычны пагляд на бягучы момант лішне завілы.

АМТАРУ НАВУКІ У ВІТЭБСКУ. У Празе Вас можна устроіць на стыпэндыю, калі Вы будзеця ўжо ў Празе, а ня ў Вітэбску.

КРАЙСКАМУ. Ня трэба угаварываць сабе, што ідзе реак... праўды німа. Жыцьцё сьвёдчыць адваротнае: грамадзкі ўздойм паўсюдны.

АРХІМАНДРЫТУ. Лішне спецыяльная Ваша стацьця як да сьвецкага „Б. С.". Мы ацэніваем не з догматычнага, а нацыанальна-соцыяльнага становішча. А скажыця чаму дагэтуль пе зацьверджана св. Троіцкае Брацтва? Калі мы гаварылі з Вамі здавалося павінна было ўсё іначай злажыцца. Яны пашкадуюць, ды каб не па часе, што не абеларусілі. Патрыарх мае акрэсьляны на гэта пагляд. Мы ня хочам каб праваслаўе іграла служэбную ролю ў стасунку да беларускага адраджэньня, але вымагаем, каб цэрква не разьбівала нашага адраджэньня ў чым дабачаем і нашу і вашу шкоду.

РУПЛІВАМУ Ў ГОРАДНІ. На зьезд Лігі Нацый у Лёндане на 19.VП, высылана тэлеграма з вылічэньнем крыўд беларусам пад польскай окупацыяй. Аднак вялікіх надзей на тое, што Польшчу забавяжуць да людзкага адношэньня да беларусаў надзей пакладаць не раім. „У змаганьні дабудзе мы прав𝑎 сваё". Супроць суда над эс-эрамі Б. П. С. Р. вынесла ў свой час пратэст і ён быў друкаваны. Мы разам з Вамі шкадуем што не давялося чытаць яго Вам.

КРЫВІЧУ У ПРАЗЕ. „Нашыя прозьвішчы" памесьцім у чародным № „Б. С.". Просім мець на ўвазе нашы просьбы пісаныя Вам у асобдым лісьце.

---

Spaustuvė A. Bako, Kaunas.

Коўна, Друкарня А. БАКА вуліца Оржэшко.